Б2 3888

ЯНКА КУПАЛА

R-92

# СПАДЧЫНА

Бел. аддзел 1994 г.
Інв. 1953 г. Б2 3888
Інв. № 61530
БІБЛІЯТЭКА

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА „АДРАДЖЭНЬНЕ“. МЕНСК, 1922.

## СПАДЧЫНА.

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеньнія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам;

І тое нуднае ягнят
Бляяньне-зоў на пасьбішчы,
І крык варонiных грамад
На могілкавым кладзьбішчы.

І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсьцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб ня збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён ня зьедзены.

Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны сьветыч-полымя,
Што сярод цемры і глушы
Мне сьвеціць між вандоламі.

Жыве з ім дум маіх сям'я
І сьніць з ім сны нязводныя...
Завецца-ж спадчына мая
Ўсяго Старонкай Роднаю.

19/IX—18 г.

## ЯК ЦЕНІ.

Ідуць народы з лета ў лета
К жыцьцю, к сьвятлу з бяды з жуды,
А мы, як цені з таго сьвету,
Ідзём, ня знаючы куды.

Ні нас свабода прыгалубе,
Ні доля весела зірне;
Паўзём і стогнем у загубе
З ярмом на шыі, ў вечным сьне.

Не на пацеху дзеці даны
Матулі, што іх сьцеражэ,—
Усё одно сусед паганы
У плуг жалезны запражэ.

Не на прыбытак сеем нівы
І паліваем потам іх,
Нахлынуць трутні пражарлівы,
І мы ня ўбачым жніў сваіх.

Пад непраглядңай марай ночы
Нам не дабачыць нашых крыўд,
На сьвет падняць баімся вочы,
Сабе сам кожны ўжо абрыд.

Як мы жывём, чаго чакаем,—
Ня знаем мы, ня знае сьвет;
Ні то ўжо мром, ні то ўскрасаем,
Змагчы ня ў сілах мук і бед.

Зайграе шумам лес зялёны,
Аб хвойку хвойка затрашчыць,
І пойдзе шум той к небасклону,
А неба каменем маўчыць.

Маўчым і мы і, як сьляпыя,
Як цьмы, снуёмся з кута ў кут,

Адно віхор падчас завые
Ды зьмей прамкнецца там і тут.

На курганох засьвецяць росы—
Крываві росы—сьведкі мук...
А ў хатах сьпяць цапы і косы—
Усё чакаюць ёмкіх рук.

## З ДНЯ Ў ДЗЕНЬ...

Жывём з дня ў дзень мы столькі лет,
А ўсё тым ладам, як жыў дзед,
Галовы клонячы з пакорай;
Адвечных крыўд, адвечных бед
Ня бачым мы, ня бачыць сьвет,
І не пабачым мусіць скора.

Праз столькі лет, праз столькі зім
Цьвіце ў вачох пацемкаў дым
І зьвесьці не хапае сілы;
Відаць, сьвятла ня знаці тым,
Хто нарадзіўся ўжо сьляпым,—
Такім ён дойдзе да магілы.

Жыві з дня ў дзень, цягні ярмо,
Ў крук плечы гні, кажы: дармо!
Ня так яшчэ умею, браце.
Ямчэй сабе сам ладзь прызьмо,
Каб не парвалася само.
Бо як ярмо тады цягаці!?

Ці быў прыгон, ці ёсьць прыгон,—
Шануй закон—матай паклон,
Бо вылеціш і з роднай хаткі.
Пачуеш звон—кажы, што стогн,—
Знай, брат пакінуў свой загон,
На той сьвет складывай манаткі.

## ВАЛАЧОБНІКІ.

Што год, вясной, у дзень, вялікім званы,
Зьбіраюцца яны, як буслы ў вырай,
І йдуць пад вокны гурмай абарванай
Набожную жальбу заводзіць шчыра.
Паны атласныя і зрэбныя сяляны
Вітаюць іх, як послаў з тога міру:
Той кіне сьвенчана яйцо, а той—мядзяк:
Як жабракоў іх дарыць свой брат і чужак.

Журбой ноч іхні блаславіць напевы,
Бо ходзяць валачобнікі па ночы,
Шыпяць над імі галінамі дрэвы,
Глядзяць на іх начніц сьляпыя вочы,
А ўсё, як быццам сіверу павевы,
Як валачобнікі, цямрыцу славіць хоча.
О, ноч! о, бесканечны твой над намі ход!
Калі-ж пакінеш ты туманіць наш народ?

Ні там, дзе дзікія зімуюць гусі,
Ні там, дзе дрэмле поўначы краіна,
Ні з добрай сваёй волі, ні ў прымусе,
Ніхто, нідзе ня чэз такой жывінай,
Як чэзьнеш ты, няшчасны беларусе,
У валачобнікі запісаны судзьбінай...
Што год ты ходзіш дабравольным жабраком
І рабства вечнае ўсхваляеш пад вакном.

Ці-ж нас такое з роду ўжо пракляцьце
Зачаравала чарамі сваімі,
Што мусім мы пад вокнамі стагнаці,
Губляці пад крыжамі сваё імя,
Й ня знаючы век бацькаўшчыны-маці,
У ёрмах валачыцца між чужымі?...
Ці-ж нам ніколі ўжо прасьветласьці ня знаць,—
Гібець, гнісьці й ня жывучы канаць?

Вялікі дзень з вялікаю надзеяй,
Лет тысячы са дзьве таму ўжо будзе,

Як між людзьмі то гасьне, то ясьнее,
І толькі-ж торг вядуць, б'ючыся ў грудзі,
Прадажны кніжнікі і фарысэі
Свяшчэнным іменем Яго... А людзі?..
Гудзяць званы, гул медны прэцца да нябёс,
Ды валачобнікаў прыпеў:—«Хрыстос васкрос!»

22/ш—14 г.

## БРАТУ-БЕЛАРУСУ.

Ляж, прытуліся да зямлі,
Паслухай шчырэ, што гавора
Табе, сям'і і ўсёй радні,
Калі запаліць неба зоры.

Пачуеш дзіўную аповесьць
Мінуўшай славы і жыцьця,
Аб чым згубіў ты ўжо даўно весьць,
Блукаючыся бяз пуцьця.

Пачуеш, як шмат лет таму
Тваё было тут панаваньне;
Паслушна голасу твайму,
Цябе ня кратала скараньне.

І запытаецца зямліца
Тваёй душы і тваіх дум:
Чаго ты блукаеш начніцай?
Чаму свой край аддаў на глум?

*

Стань, нахіліся над ракой,
Ў плакучы ўгледзься пераліві:
Ў іх адаб'ецца воклік твой,
І ўбачыш незабыты дзівы.

Як там русалкі—твае дзеці—
Днём аддыхаюць у жальбе,
Каб ночкай, блудзячы па сьвеце,
Шукаці долі для цябе.

Ад хваль, што шэпчуцца так міла,
Ты дойдзеш праўданькі усёй,
Што рэчкі—гэта зямлі жылы,
Вада ў іх—кроў зямлі тваёй.

І запытаецца вадзіца,
Як ня пытаў ніхто у жыцьцю:
Чаму яе п'е чужаніца,
Яе, кроў родную тваю?

*

Ідзі у лес, што стаў кругом
Тваіх нязьмерных ніў на стражы,
Што толькі думаў аб адном...
Але паслухай, што лес кажа:

Я бараніў твой дух ад плесьні,
Аб думы шчыра твае дбаў,
І паўтараю вотклік песьняў
Што прадзед з ветрамі складаў.

А ты, змарнелы чалавек,
Нікчэмны пасынак былога,
Сваю пушчаеш песьню ў зьдзек,
Чужою славіш нават Бога!

Прывучан кланяцца, ўніжацца,
Паганіш скарб свой дарагі.
І знаеш толькі там сьмяяцца,
Дзе кроўю плакаў-бы другі.

*

Ідзі на ўзгор, на камень сядзь,
Што пашчапаў пярун на часьці;
Глядзіся ў зоры, што мігцяць
На небе ў радасьці і ў шчасьці.

Яны агністымі іскрамі
Ў душы распаляцца, як сталь;
Бо неба сочыць за людзямі,
Зямлі пільнуе яго даль.

Зямлю ў сваёй адвечнай казцы
Трымае без граніц і мер...
Калісь і ты ў яго быў ласцы—
Меў з неба долю. А цяпер...

Цяпер яно сваймі сьлязамі
З табою плача над табой;
Шле буры, громы з пярунамі,
Каб сон збудзіць магільны твой!

## СВАЙМУ НАРОДУ.

Табе, Народ мой, згібнуты ў ваковах,
З-пад сэрца песьню гэтую пяю,
І, ускрашаючы мінуўшчыну нанова,
Выказваю цяперашчыну тваю.

Сягні ў даўно заснуўшыя сталецьці,
Заслону дзён упёкшых адхілі,
І глянь, як сёньне твае жывуць дзеці,
Як ты жывеш на прадзедаў зямлі.

Дняпро і Сож, Дзьвіна, Вільля і Нёман
Шмат могуць што у памяці збудзіць,
Ды пушчы Белавежскай сумны гоман—
Паслухай толькі, што ён гаманіць:

Тваймі рукамі ўзьнесены замчышчы,
Глянь, зарастаюць дзікім палыном,
Па сьцен астатках вецер дзікі сьвішча,
Як-бы пяе памінкі быўшым днём.

Пяе аб тым, як гэтыя байніцы
Край сьцераглі на захад і на ўсход,
Як з поўначы разбойны чужаніца
Ня мог замчыскавых скрышыць варот.

Ты жыў, ты панаваў у краю родным,
Сьцярог ад чужака, й законы укладаў;
Звон вечавы сход склікаваў народны,
І сход аб шчасьці Бацькаўшчыны дбаў.

Сягоньня ўсё сьпіць і зрастае зельлем,
Сьцярэч свой край няма ні сьцен, ні рук;
Званы вячовы змоўклі, анямелі,
Ў ярме сагнулі людзі плечы ў крук.

Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь сьвежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі
І тваю маці-бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часьці, на кускі.

Сыноў тваіх расьсееў па ўсім сьвеце,
Як птушак ястраб з гнёздаў разагнаў;
Бацькі дзяцей, а бацькоў сваіх дзеці
Сярод магіл шукаюць і канаў.

І мерцьвякоў знаходзяць... А жывыя...
Як мерцьвякоў пагляд іх і жыцьцё,
Праклёны толькі шэпчуць векавыя,
Ды вечна чакаюць нябыцьцё.

Упаў народ. Змарнеў народ, забыўся,
Як Бацькаўшчыну, як яго завуць;
Як падарожны бяз пуцьця, зьнябыўся,
Як сірата, якой нідзе заснуць...

Паўстань, Народ! Прачніся, Беларусе!
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе!

Паўстань і глянь, як зьяюць скрозь вагнішчы,
Як носяцца ўсясьветных зьмен віхры,
Як на старога быту папялішчы
Цьвет зацьвітае новае зары!

Паўстань, Народ! Для будучыны шчасьце
Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед;
Ня дайся у гэты грозны час прапасьці,—
Прапашчых не пацешыць шчасьцем сьвет.

Сваю магутнасьць пакажы ты сьвету,—
Свой край, сябе ў палане мець прымусь.
Паўстань, Народ!.. З крыві і сьлёз кліч гэты...
Цябе чакае маці-Беларусь!

29/х—18 г.

## ЧАС!

Час склікаці ўжо грамаду
На вялікую нараду,
На вялікі сход!
Хай рассудзіць, хай разважаць,
Слова цьвёрдае хай скажаць,
Скажаць сам народ!

Як жыць мае, пажываці
У родным краю, ў роднай хаце,
Як заводзіць лад:
Ці жыць далей у няволі,
Ці разжыцца новай доляй,
Новы ўзьнесьць пасад.

Доўга людзі ў дзень блудзілі
Крыўду, сьлёзы, кроў пладзілі,
Усё ня ўмелі жыць,—
А сягоньня ўжо ня тое,—
Усходзе сонца залатое
Роўна ўсім сьвяціць.

Ходзіць ходырам сьвет цэлы,
Сьмела ў бітву йдзе нясьмелы,
У бой за лепшы час.
Дык і нам цапы і косы
Час браць з вышак, покі росы
Воч ня згрызьлі ў нас.

Хай званы зазвоняць з жарам,
Хай музыка ў струны ўдара!
Гэй, паўстань, народ!
За сябе сам пастаяці
І за Бацькаўшчыну-маці
Йдзі народ, на сход!

30/х—18 г.

## БУДЗЬ СЬМЕЛЫМ!..

Будзь сьмелым! Магутна ярмо друзгачы!
Ідзі сам наперад, другіх вядучы!

Будзь сьмелым!.. Ня вер у людзкую брахню,
Вер толькі ў адвагу і сілу сваю!

Будзь сьмелым, хоць путалі-б злыдні ўвакруг—
Адважным ваякам ня страшны ланцуг!

Будзь сьмелым, як вецер, як воля сама!
Знай, сьмелых ня чэпе ні крыўда, ні цьма!

Будзь сьмелым, як бура, што крышыць дубы,
А будзе твой верх, тваё права ўсягды!

3/VII—13 г.

## ГОДЗЕ...

Годзе брахні ўжо, падкупленых зводаў!
Годзе таптаньня праўд вечных,сьвятых!
Сьцежку свабоднаму духу народу,
Сьцежку да сонца і зор залатых!

З году у год мы жылі, як жывёла,
З году да году чакалі сьвятла...
Што-ж нажылі мы, як глянуць наўкола,
Што нам апека тут наша дала?

Тыя, ў дагонцы за блескам часовым,
Брацьцяў запрэглі ў нявольнічы плуг,
Тыя, таргуючы імем Хрыстовым,
Цемру і здраду спладзілі ўвакруг.

*

Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна,
Усе вы, панове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі-б да дна.

Вашу карысьць нам і вашы заслугі
Добра ўжо скеміў таптаны народ;
Добра вядомы і путы і пугі,
Песьціў якімі ваш Захад і Ўсход.

Мы не пакінем свае папялішчы,
З сьцежкі—наперад, ня пойдзем назад.
Сьмела здрузгочам старыя бажышчы,
Новым законам збудуем пасад.

*

Годзе нам сілу прыблудаў вялічыць
Дзецьмі, багацьцем радзімай зямлі!
Нашы загоны даўно ўжо нас клічуць,
Нашы загоны, што зельлем зрасьлі.

Досіць ішлі на чужым павадку мы
Доўгія векі бяз веры ў сябе;
Мы ўжо ня тыя,—інакшыя думы
Вырасьлі з намі, завуць к барацьб е

Станем к змаганьню мы з ведзьмаю-крыўдай
Дружна, адважна, плячо у плячо:
Рухне старое, хоць крэпкае з віду,
Яснае, вольнае створым жыцьцё.

*

Годзе нам есьці аб'едкі і косьці,
Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць!
Ґаспадары мы ў сябе, а ня госьці,
Час к панаваньню нам сьлед церабіць!

Тое, што ўзята маною дачэсьне,
Вечна ня будзе душыць, як прыгон;
Наша вярнуцца к нам мусіць канешне,—
Гэткі ўжо быту народаў закон.

Гібне памрока душыўша ад векаў,
Сонца і зоры к сабе сьвет завуць...
Сьцежку свабоднай душы чалавека!
К вольным дням вольныя людзі ідуць!

26/XI—1912

Инв. 1953 г. 6738888
61530
Беларуская бібліятэка

## БЕЛАРУШЧЫНА.

Сотні лет, няпрыяцелем-братам прыбітая,
Зарастаючы зельлем чужым, як лазой сенажаць,
Ты ляжала няпамяці пылам пакрытая,
А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.

І круцілі цябе, як каму падабалася,
Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад;
Ажно часам жальба, як кляцьба разьлягалася,
Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.

Спаў народ, і ты спала, і ворагі верылі,
Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула на век.
І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі,
Што памерла ўжо ты,—не адзін так казаў чалавек.

Час ішоў. К жыцьцю новаму клікі пачуліся;
Ўсе народы паўсталі на бітву за права сваё.
Ты—як спала—ўскрасла, твае дзеці прачнуліся,
Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыцьцё.

І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны,
Хоць пад права твае падрываецца шмат хто, як крот,—
Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына:
Зразумеў і успомніў цябе твой мільённы народ.

Сьціхнуць віхры, заціхне пара непагодная,
Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыцьцю;
Панясуцца, як звон, песьні вольныя, родныя,
Апяваючы долю, нядолю народу, тваю.

1908 г.

## МОЛАДЗІ.

На цябе, наша моладзь, надзея
Нашай сумнай забранай зямлі;
Твой арліны палёт цьмы разьвее
І запаліць веквечны агні.

Ты разбудзіш прыспаныя сілы
І на вольны паклічаш простор
З забыцьця беспрасьветнай магілы
Да бліскучага сонца, да зор.

Ты на бацькаўскім, моладзь, кургане
Узьнясеш нездабыты пасад,
Што расточыць сваё панаваньне
На ўвесь край, дзе сягне твой пагляд.

Табе будуць ня страшны заломы,
Злыя ворагі, іх варажба:
Долю, праўду з маланак і громаў
Твае выкрасяць гарт, барацьба.

Схамянайся-ж ты, моладзь арліна!
Ў бок другі віхры веець прымусь,
Бяры сьветач, ідзі за судзьбінай,
Ідзі з словам сьвятым: Беларусь!

23/I—14 г.

## МАТЦЫ.

Ты гадуй сынка, матуля,
У пялёнкі спавівай,
Калышы, пей люлі-люлі,
Пей пацíху баю-бай!

Над калыскай з бегам ночак
Песьні роднай не жалей,
Каб, як вырасьце сыночак,
Верным вечна ён быў ей.

Як навучыцца хадзіці,
Маткі мову разумець,
Ты вучы яго любіці
Ўсё сваё ў пашане мець.

Бай яму даўнейшы казкі,
Аб бацькох сваёй зямлі,

Як жылі бяз чужай ласкі,
Як слугамі ня былі.

Як на веча сход ззывалі
І тварылі свой закон,
Як жылі ды панавалі,
Покі ўпалі у палон.

Як-жа ў розум убярэцца
Твой сынок, як мак у ц.вет,
Дужым стане, што здаецца
Павярнуў-бы цэлы сьвет,—

Выпраўляй яго у людзі,
На дарогу блаславі,
Разам з крыжам дай на грудзі
Роднай вузельчык зямлі:

Каб ня даўся ў крыўду зьдзекам,
Не забыў сваіх старон,
Каб вярнуўся чалавекам
К роднай Бацькаўшчыне ён

Ды узяўся шчыра, міла
Сеець шчасьце, гнаць бяду,
Стаў адважна словам, сілай
За с ой край і грамаду.

. . . . . . . . . . . .

Гэта ўсё ўпаі дзіцяці
З малаком сваіх грудзей,
Бо іначай пойдзеш, маці,
Жабраваць хлеб у людзей.

## РОДНАЕ СЛОВА.

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сьне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень навучыла мяне.

Бясьсьмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло!

Свабоднае слова, ты, роднае слова!
Зайграй ты сьмялей, весялей!
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,
Жывеш ты на хвалу людзей.

Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грымні-ж над радзімай зямлёй:
Што родная мова, хоць бедная мова,
Мілей найбагатшай, чужой!

1908 г.

## РОДНЫЯ ПЕСЬНІ.

Гэй, родныя песьні! Вы ў суме і ў горы,
Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны,—
Для роднай зямелькі вы—сьветлыя зоры,
Для роднага краю вы—райскія гымны!

У вас адаб'ецца нядоля і доля,
Ўздыханьні, што ходзяць з сахою, з сякерай,
І холад, і голад, няволя і воля,
І ў будучнасьць ясну надзея і вера.

На сьвеце на белым і праўдай і чэсьцяй
Гандлююць, збываюць за фальш і няславу;
Вы-ж песьні і сьветам маглі-бы затрэсьці,
Паклікаць к змаганьню за добрую справу.

На рукі людзкія наложаць аковы,
Край стопчуць, заграбяць чужыя народы,—
У песьнях-жа родны край, родныя словы
Жылі і жывуць, і жыць будуць заўсёды.

Гэй, песні, гэй, звон Беларусі загнанай!
Зайграйце пацехай на родным загоне,
Што ўжо няма болей няволі, кайданаў,
І людзі ня стогнуць, як стогнуць сягоньня!

1906 г.

## УСЕ РАЗАМ.

Гэй-жа, брацьці, ўсе мы разам
Песьню запяём,
Дружна, сьмела, на сьвет цэлы
Аб жыцьці сваём!

Аб тых хмарах, што так ходзяць
Над нашай зямлёй,
Аб тэй хатцы, што дзюравай
Сьвеціцца страхой.

Аб тэй зорцы, што так часта
Ажыўляла нас
І душу надзеяй сьветлай
Вабіла ня раз.

Вабам шчасьця і дастатку
Падклікала ўсяк,
Аж ізноў тачыць стаў сэрца
Нядолі чарвяк.

*

Гэй-жа, брацьці, ўсе мы разам
Песьню запяём
Дружна, сьмела, на сьвет цэлы
Аб жыцьці сваём!

Аб тэй славе нябывалай
Нашае зямлі,
Дзе мы долю пахавалі,
Скуль бяду ўзялі;

Аб тэй працы неаплатнай,
Крыўдзячай ня раз,
Што так потам, мазалямі
Пацяшае нас.

Як нядолю сваю бачыць,—
Не магчы-ж змагаць,—
Думы сілы маладыя
Дарма марнаваць.

*

Ґэй-жа, брацьці, ўсе мы разам
Песьню запяём,
Дружна, сьмела, на сьвет цэлы
Аб жыцьці сваём!

Хай імчыцца наша песьня
Птушкай па-над гай,
Дзе бяжыць бурлівы Нёман,
Дзе наш родны край!

Хлопец стройны коні пое
Тамака ў браду,
А прыгожая дзяўчынка
Чэрпае ваду.

І адно так на другое
Міленька глядзяць,
Аж іх вочкі, быццам зоркі,
Ясна мігацяць.

*

Гэй-жа, брацьці, ўсе мы разам,
Песьню запяём,
Дружна, сьмела, на сьвет цэлы
Аб жыцьці сваём.

Даляціць мо' наша песьня
Да забытых сёл,
Дзе яе сусед пакліча,
Павядзе за стол.

Хлебам, сольлю прывітае,
Чарку паднясе...
Будзе песьня красавацца,
Як жытцо ў красе.

Нам тады ўсім будзе слава,
Ня было якой...
Дык запейма, хай імчыцца,
Нашых песень рой!

1906.

## КАЛІ ПАЧНУЦЬ...

Калі пачнуць зьбірацца хмары
І неба ўсьцелюць чарнатой,—
Тады ўсплываюць буйны ветры
І віхрам гоняць над зямлёй.

Адвечным борам закалышуць,
Сухі ліст з лесу гоняць проч,
Ніштожаць хмар калматых горы,
І ясным днём зьмяняюць ноч.

Калі прыгнецены няпраўдай
Які зьнябудзецца народ,—
Тады зьяўляюцца прарокі
І ўсенародны клічуць сход...

Расьце на сходзе недавольства,
А дудароў магутны хор
Пяе аб крыўдах і ўсіх кліча
Да новых праўд, да новых зор.

## НЯ ШУКАЙ...

Ня шукай ты шчасьця, долі
На чужым, далёкім полі,
Гэт, за шумным лесам-борам,
За шырокім сінім морам
Ня шукай ты шчасьця, долі!

Ты ўсё знойдзеш гэта блізка,
Там, дзе маці над калыскай
Табе песьні напявала,
Як малога калыхала,
Толькі ўмей шукаці блізка!

*

Ня шукай сабе дружакаў
Між чужынцаў, між піяўкаў,
Ні у месьце, ні ў палацы,
Ні пры лёгкай панскай працы,—
Ня шукай ты там дружакаў!

Ты іх знойдзеш вельмі блізка,
Каля хаты, каля нізкай,
Дзе ганяў жывёлу змалку,
Дзе касой махаў на ранку,
Толькі ўмей шукаці блізка!

*

Ня шукай сабе, мой братку,
З ветрам Бацькаўшчыну-матку,
Ні на сушы, ні на моры,
Ні у шчасьці, ні у горы,
Ня шукай яе там, братку!

Яе знойдзеш вельмі блізка,
Як знаходзіць лес вятрыска,
Толькі ў сэрца глянь сваё ты,
І ў душу заглянь з ахвотай,
Знойдзеш Бацькаўшчыну блізка!

21/VI—13 г.

## ЖАР НЯ ЗГАС.

Цяжка, горка мы жылі
З году ў год, ад веку к веку,
Столькі на сваёй зямлі
Церпім, выцерпелі зьдзеку!

Хто змагаўся, а хто спаў,
Хто ліў сьлёзы, хто сьмяяўся,
Ды з нас кожны не прапаў—
Тым, чым быў, далей застаўся.

Хай там віхры стрэхі рвуць,
Хай там ёрмы чэшуць злыдні,—
Нашы праўды не памруць,
Ночы царстваваць абрыдне.

Хоць і гоніць небарак
Кат з дамоўкай жыць сам-на-сам,—
Нашы маткі нам ваяк
Новых выгадуюць з часам.

Ў сэрцах нашых жар ня згас—
Бухне ў сьвет калісь яскрава,
Бо наперадзе йшчэ ў нас
Барацьба, жыцьцё і слава!

## ПРАЯВЫ.

— Што за плач такі здаецца
Там на лузе, там на рэчцы,
Бы хто сьлёзы ліў паводкай?..
Ці то маці, ці сіротка?

—Гэта маці, маці плача
Над сынамі, ня іначай,
Што яе ў зямлю схавалі,
А сябе ў палон аддалі...

*

— Што за звон бражджыць, скрагоча,
Як-бы сьвет зьніштожыць хоча
І зьвясьці ў канец астатні?
Ці то божы, ці то братні?..

— Гэта путы-сковы звоняць
І дух вольны к нетрам клоняць,
Скрыгацяць свае літаньні,
На пагібель, на скананьне.

*

— Што за голас ходзіць, бродзіць,
Сказы дзіўныя заводзіць,
Ажно йдзе па целе шорах?
Ці то друг наш, ці то вораг?

— Гэта ходзіць кліч па полі
З прыклінаньнем к новай долі;
Пад вакнамі станавіцца
І заве, заве збудзіцца.

*

— Што за віхар закруціўся—
Ў зямлю ўрыўся, ў неба ўзьбіўся,

Бухнуў іскрамі пажару
На сялібы, на папары?

— Гэта бітва йдзе сусьветна
Між сьвятлом і апраметнай...
А хто ўскрэсьне, а хто ляжа...
Глянь на сонца—сонца скажа!

28/II—14 г.

## АПЯКУНОМ.

І трудна-ж, трудна, знаць, прышлося
Шмялём струхлеўшага дупля,
Як наша слова прапяслося,
Як наша дрогнула зямля!

Загаманілі, зашыпелі
Вось так, пасвоему «во всю».
Яшче паказ—пазнаць на дзеле
Ваўка, і ліса, і зьмяю.

Няварта гэтак расьпінацца,
Мае шмялькі, ў чужым вульлі.
Зацесна вам у нашай хатцы—
Гайда! туды, адкуль прыйшлі!

Што вы прынесьлі? Што?.. загляньце
Да беларуса сумных хат:..
З тых самых лык пляце ён лапці,
Якія плёў сто год назад.

Вы песьню хочаце спаганіць,
Якой адвечнасьць не змагла,
І свой паступак затуманіць
Брахнёй—з дабра, а не са зла!..

Мы верым, што жывога слова
Ня пойме цёмны ваш хаўрус,
Але у дружбы вашай сковы
Ўжо не паверыць беларус.

Як трутні, ласыя на соты,
Вы к нам прышлі ў гадзіну бед;
Чуць толькі сталі да работы,
А груганом гатоў абед.

Цямніц і віселькяў асновы,
Слугі нагайкі і штыха,
Сумленьне, край прадаць гатовы
За бліск нагруднага значка.

І з думкай носячысь шалёнай,
Вы! вы! жадаеце з людзей,
Каб вам паверылі мільёны,
Каб вам карысны стогн гудзеў.

Ня вам, ня вам! гасіць паходні,
Што распаліў жывы народ!
І праўда возьме верх нязводне:
Такі ўжо сонца вечны ход.

31/VII—09 г.

## ПЕСЬНІ ВАЙНЫ.

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю.
Як прыжджэшся з пяску ўсходу,
Тады верне сын з паходу.
*(З народнай песьні).*

### 1. ВАРОЖБЫ.

На ўзьбярэжжы, над ракою
Шэпчуць вербы з асакою:
—Што-то будзе, што-то будзе?
Штось трывожны сьвет і людзі!

Па зямлі пашлі пажары—
Неба дымяць дыму хмары,
Там і тутака агнішча,
Над агнішчам вецер сьвішча.

Па сялібах—пошасьць хваляй...
Гэты хвор, таго схавалі,
Тому чэшуць дамавіну...
Жыці, мерці няма ўпыну.

А па небе ў гэта лета
Ходзіць ходырам камэта,—
Хвост яе—ня дай Ты, Божа...
На дабро нам не варожа.

Далей вокал—як магіла...
Сонца круг свой зацямніла,
Ночай глянула ў дзень белы
На жыцьцё ўсё, на сьвет цэлы.

І груган аднекуль выплыў,
Штосьці гыркнуў дзюбай хрыпла,
Як заклён праклённы кінуў,
Дый дзесь згінуў, ці ня згінуў.

За варожбамі варожбы,
Як нячысьцікавы божбы,
Ад варотаў да варотаў
Ходзяць, стукаюць ля плоту.

Засяюць трывогі, страхі
На ўсе сьцежкі, на ўсе шляхі,
Дзе начніцы косым вокам
Пазіраюць ненарокам.

Ой, ня здарма над ракою
Шэпчуць вербы з асакою:
—Што-то будзе, што-то будзе?
Штось трывожны сьвет і людзі!

## II. ПЕРАД БУРАЙ.

Грамадзяцца цёмны хмары,
Грозяць сьвету страшнай карай;
Ня супыняць ужо бітваў
Ні ўздыханьні, ні малітвы.

Сталі ўсюды ўсімі трэсьці
Неспакойства поўны весьці,
Што, забыўшы людзі ўвагі,
Пад крывавы пойдуць сьцягі.

Меч уздыйме брат на брата,
Стане брату брат горш ката...
Зуб—за зуб, за вока—вока...
Як і сказана ў прарокаў.

Ўсё свой к гэтаму шлях знача,
Што так будзе—ня іначай,
Бо шукаць ўжо праўды нечым,
Толькі порахам ды мечам.

Бо ёсьць сіла і на сілу,
Што магілай за магілу
Водкуп дасьць, як сьлед, з паклонам
Ды прымкне крыжом сьвянцоным.

Бо ёсьць воля і на волю,
Што сваю з тэй возьме долю,
Не загубіць, не ўваскрэсіць,—
За ланцуг—ланцуг павесіць.

Так ўсё горшы ад граніцаў,
Ад далёкіх слух імчыцца;
Што раз болей—менш надзеі,
Што віхор гразу разьвее.

Чуткі йдуць, плывуць журбою
Родны краю, над табою;
Ты-ж ня гніся ў завіруху:
Вокам бач і вухам слухай.

Хто за славу выйдзе з славай—
Тых ня зломіць бой крывавы;
Хто за праўду праўдай стане—
Тых сустрэне зьмілаваньне.

## III. Склік.

Напрарачыў, наваражыў
Бяды сабе квол чалавек,—
Крывавых бур ня збыў, ня зжыў,
Заломаў не прарваў, ня сьсек.

Ад самагубнасьцяў дзікіх,
Ад трупам значаных дарог
Не пастрымалі сэрц людзкіх
Ні права іхняе, ні Бог.

Ударыў гром, завыў пажар,
Склікаюць трубы на паход;
Йдзе край на край, на цара—цар,
Народ падняўся на народ.

Скрозь сьвету йдзе аружны склік
Паставіць сілу проці сіл;
Жадае сьвет, як сьвет вялік,
Даўно варожаных магіл.

Устань, хто жыў, устань, хто дуж,
Нясьці аружжа, ў бітвы йсьці!
Кінь матку сын, кінь жонку муж,
І хату кінь у забыцьці!

Устань, устань тачыць штыхі,
Знамёны шоўкавы сьвяньціць!
Яшчэ жыве закон такі—
За сьмерці—сьмерцямі плаціць.

Адважна ў бой рыхтуйся, брат,
Баяцца нечага крыві,—
Твой продак выліў яе шмат,
Ты памяць продкаў аджыві!

Каня буланага сядлай,
У стрэльбу крэпка ўбі набой
І, благаславіўшы бацькаў край,
Едзь па загаду ў грозны бой!

Як дасягнеш чужацкіх гонь,
Патопчаш ворагаву рунь,—
Ты Матку-Бацькаўшчыну ўспомнь
І ў бок кінь вокам сваіх пунь.

А чалавечае на цэль
Жыцьцё узяўшы на прасьцяг,
У грудзі сьвенчаныя стрэль,
Адно ня цэль ў крыж на грудзях!

Адважна ў бой!.. Вайна вайну
Спладзіла—хай-жа бітва йдзе
За шчасьця лепшага вясну,
За волю вольнай грамадзе!

Аб долі роднай старany
Нам сьведчыць не адзін курган,
Дзе дрэмлюць слаўныя сыны;
А страж дзяржыць ноч ды туман.

## IV. РАЗЛУКА.

Вецер завыў па сялібах,—
Звоніць дый звоніць па шыбах;
«Лыска» на прызьбе якоча;
Ў хаце ўдзень сумна, як ночай.

Над сталом бацька журбуе,
Галаву зьвесіў сівую,
Маці у кубле штось шнырыць,
Жонка дзяцей ціхамірыць.

Янка зьбіраецца ўпрочкі...
Ой, не на радасьць дні, ночкі
Сына «старая» пясьціла,
Каб рос у розум і сілу!

Ой, не на помач ў бядноце
Даў «стары» склад у рабоце,
Дый не на ўцехі вялікі
Згралі вясельле музыкі.

Цераз палеткі, палоскі
Склік дакаціўся да вёскі,—
Кліча на збор «запаснога»,
Бо на ўсім сьвеце трывога.

Новыя лапці, аборы,
Новыя шаты-уборы
Стаў на сябе напінаці,
Кланяцца родным у хаце.

Кланяўся нізка татулю,
А яшчэ ніжай матулі,
Прашчаўся з жонкай, з дзіцяткам,
Сьлёзы ўціраючы ўкрадкам.

Ціха, маркотна ў сьвятліцы,
Кожны азвацца баіцца,
Як-бы над імі ў спакою
Сьмерць калыхала касою...

А як «ён« з хаты выходзіў:
«На, хай бароніць ў прыгодзе!»—
Гэтак матуля сказала
Ды штось на шыю ўвязала.

Матчына гэта ахвяра—
З нашых прыдбана папараў:
З роднай вузельчык кудзелькі,
Ў ім—жменька роднай зямелькі.

І вышаў з хаты ваяка,
Ня уздыхнуў, не заплакаў,
Вышаў заціснуўшы зубы,
На тыя бітвы, на згубы.

Вецер адно ня ўнімаўся,
Як-бы варожбай займаўся:
Верне дамоў Янка болей,
Ці ўжо ня верне ніколі.

## V. ЗАСТАЛІСЯ НІВЫ, СЁЛЫ.

Вышлі роднай вёскі дзеці
Паміраць на белым сьвеце,
Расьсяваць па сьвеце косьці
Праз кагосьці, за кагосьці.

Засталіся нівы, сёлы
На той сум-жаль невясёлы,
Засталіся, ой, сіроты
З горкім горам, з адзінотай.

Не пдыне сошка ў полі
З добрай долі, з добрай волі;
Не пачуюць кос пакосы,—
Ржа паесьць сталёвы косы.

Ночкай, вечарам, заранья
Маці, ўдоўка выйдзе, гляне,
Выйдзе, гляне—стане досіць...
Просіць Бога... не дапросіць:

«На каго-ж Ты нас пакінуў?
Чаму-ж лепей дамавіну
За калыску, за ліпову,
Ты ня даў нам дзеля хову?

Для каго-ж Твае законы
Разьвялі на ўсе староны,
Што брат братам ад прадвеку
Чалавек для чалавека?

Як авечак, як ягнятаў,
І у хаце, і за хатай
Ты мальбу людзкую любіш,
Па што-ж Бацькаўшчыну губіш?»

Так лунае ўдзень і ўночы
Той за жалем жаль сірочы
І мальба да ласкі боскай
Каля вёскі і над вёскай.

А за вёскай, дзе магілы,
Дзе ляглі, заснулі сілы,
Пахіліўся крыж да крыжа—
Гэты ніжай, гэты вышай.

На крыжох сава якотам
Гаманіць адказ сіротам
Ды пытаньнем страшным страша:
«Га! дзе-ж Бацькаўшчына ваша?»

## VI. ПАБОІШЧА.

Ноч ня спаўшы, дзень ня еўшы,
Прымадзеўшы, прыкалеўшы,
Меціць куляй, прэцца з штыхам,
Косіць шабляй, мчыцца ліхам;
Вокам, сэрцам ня дрыгне...
Сьмерць яму, або сьмерць мне!

Стрэлы сьвішчуць, дыміць порах,
Зьбіўся ў кучу свой і вораг,
Юшка брызгае у вочы,
Гэты стогне, той рагоча,
Той зваліўся, топча той,—
Не глядзіць—свой, ці ня свой.

Ад крыві зямля чырвона,
Неба чорная заслона
Засланіла, як магіла,
А пад ёю сілу сіла,
Ў сполку з сьмерцяй, сьмерцяй тне,—
Верх таго, хто не засьне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гу-га-га! як бой удаўся!
Вораг дрогнуў, вораг здаўся,
Не прамог, зложыў аружжа;
Як быў дужы—стаў нядужы:
Той уцёк, той у палон
Здаў сябе, як у прыгон.

І вось жніва, што за жніва!
Бокам, сторчам, проста, крыва—
Труп ля трупа, як калоды...
Што за сон, што за выгоды!
Не на сьмехі, не на жарт,
Ката—брат, кат брата варт!

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ціха дрэмле поле бітвы,
Шэпча блізкі лес малітвы;
Выбрыў воўк з сваей бярлогі,
Выць пачаў на ўсе разлогі.
Выць пачаў ў хаўтурны тон,
Зубы скалячы на плён.

А разьняўшы когці-клешчы,
Ў высі ўсплыў груган злавешчы
І закракаў, як-бы ведаў:
Кра-кра, кра-кра! то-ж пабеда!..
Кра-кра-кра! рыхтуй набой,—
Па пабедзе—зноў у бой!..

18/XII—14 г.

## 1914-ты.

Зыходзіш ты туды, скуль ня прыходзяць,
Але сваіх не забярэш сьлядоў...
О год! такіх, як ты, час рэдка родзіць.
О год! ты першы гэткі з між гадоў.

Прыйшоў ня з згоды і свабоды весьцяй
І—не ўзьвялічыць праўду між людзьмі,—
Жыцьцём мільёнаў ты прыйшоў затрэсьці,
Шлях вымасьціць свой трупамі, касьцьмі.

Касьцьлявай зморай з гібелі сталецьпяў
Ты, як праклацьце, будзеш вызіраць,
І будзе маці страшыць табой дзеці,
Ды клікаць той—хто ўздумае ўміраць.

«Не забіваці»—ты стрывожыў права,
На сэрца і душу наклікаў цьму;
Людзей на зьвераў пошасьцяй крывавай
Ператварыў і здаў насьледніку свайму.

Га! Хай-жа льецца кроў, дымяць пажары,
Няхай пад крыжам плача сірата!
Крывавы бог крывавыя ахвары
Сабраць павінен з сьвету да чыста.

Аж прыйдзе іншы год з рукою лёгкай
Агледзіны рабіці новых дзён,
Дзе меч нявідзімага бога-Рока
Напіша бяскрывавы свой закон.

18/XII—14 г.

## ВЯСНА 1915-я.

Дык вось-жа як прыйшла яна—жаданая вясна—
У кароне з зелені і кветак, з пошаптам бяроз!
Ядыная з паміж былых сясьцёр сваіх яна:
Не разьвясельвае душы і ня ўцірае сьлёз.

Ня росы зіхацяцца брыльянцістыя на ёй,
Ня росамі палеткі збожны сьвенціць на зямлі,
А йрдзіцца ўся гарачаю чырвонаю крывёй,
Крывёй палошча ўсходы, што ўзышлі і... ня ўзышлі!

Ня з сонцам вышла блаславіць аратага арбу,
Ня сонцам туліцца да скрыўджаных сяліб і хат,
А грознымі пажарамі распачала сяўбу,
Пажарамі-зьніштожаньнем сьвяткуе сьвята сьвят!

Ня выйшаў сейбіт на загон, як ён калісь ішоў,
Каб з верай і надзеяй кінуць зерне на прыплод,—
А сее... от, абы!.. бо сеяць звык ён з-прад вякоў,
Хоць і ня знае, хто пажне, хто зьесьць яго ўмалот.

І хаты майскім дзераўцом ня ўмаіў селянін,
Як прадзеды умайвалі, як вучыць абычай...
Спытай: Чаму аб спадчыне бацькоў забыў так сын?
Адкажа: Ведама—жалобу носіць наскі край!

Перапалохана кабеціна з дзяцьмі на шлях
Ідзе штодзень пад крыж і пазірае ў даль;
Прагледзела ўжо вочы,—ўсё-ж надзея тліць ў грудзях,
Праслухала і вушы ўжо, а слухае на жаль...

Дзяўчына, распусьціўшы косы, вылецела ў бор
І, прытуліўшысь к дрэву, песьню жуткую пяе—
Ні-то падладжываючыся падхаўтурны хор,
Ні-то спраўляючы ў бары заручыны свае.

А бусел, што на пірамідах зімку зімаваў,
А лета летаваць у любы край свой прылецеў,—
Зьдзівіўся, пасмутнеў... сваёй мясьціны не спазнаў
І не знайшоў гнязда свайго, што летась яшчэ меў.

Адно балюе баль зьвяр'ё з сну збуджана ў лясох,
Пажывы на пабоішчах скрозь маючы ўдаволь,
Ды груганы, што костачкі зьбіраюць па палёх,
Не пашкадуюць, што жылі ў такі ўсясьветны боль.

Дык вось-жа як прыйшла вясна жаданая на сьвет,
Калоцячы, як ліпай, змучанай зямлёй да дна.
Крывёй, пажарам, пошасьцяй—людзям яе прывет,
А напіс на яе агнёвым знамені: В а й н а!

7/VI—15 г.

## НОВЫ ГОД.

Са звонам пут, са сьвістам пугаў,
З брахнёй, з грызьнёю ў чарадзе,
Ў той самай цьме, ў тым самым кругу
Стары зышоў, а Новы йдзе.

Ідзе. А вылюдкі марочаць
Маной мазгі адны адным,
Што будзе сьветамі варочаць
І сеяць зьмены скрозь усім.

Што будзе годам пераменаў,
Тым на дабро, а тым на зло;

Сьляпым і зрачым неадменна
Таго ня будзе, што было.

Кляцьбой, мальбой, дзе хто як можа,
Рабы і іх гаспадары
Карысьці ўсякія варожаць,
Якіх ня кінуў ім стары.

А хто каго ямчэй скатуе,
Ахвотна роюць сны свае,
Той на другіх пятлю рыхтуе,
Той сам сабе вяроўку ўе.

Той на таргоўлю выстаўляе
Свае сумленьне і душу,
А той па тым зьвяром спраўляе
За грошы чорную імшу.

За ліхалецьцем ліхалецьце
Так без канца йшло тут і там;
Гібелі людзі на ўсім сьвеце,
Гібець прыходзіцца і нам.

І так з літаньнем пут і пугаў,
З брахнёй, з грызьнёю ў чарадзе,
Ў той самай цьме, ў тым самым мкругу,
Як шоў Стары, і Новы йдзе.

24/XII,—1912 г.

## СЯРОД РАЗЬЮШАНЫХ САТРАПАЎ...

Сярод разьюшаных сатрапаў,
Паганы зладзіўшы хаўрус,
Свае таргуюць і чужыя
Табой, няшчасны беларус.

Дыхнуць свабоднымі грудзямі
Й зірнуць арліна не дадуць,—
На ўзьлёты дум кладуць аковы,
Як на рабоў сьляпых кладуць.

Здушылі, збэсьцілі ўсё чыста
У чорнай яве, ў зводных снах,
Што ад прыроды шлях свой мела,
Што к сонцу мела вольны шлях.

На зьдзек прадажныя прарокі
І на гніцьцё у царстве цьмы
Вядуць аплучаныя тоўпы
Пад стогны вечныя турмы.

Над пакаленьнем неакрэпшым,
Над бедным краем-сіратой
Груган з начніцаю сьляпою
Банкет спраўляюць чорны свой.

Таўкуцца душы скамянелы.
Крывавы пот цячэ са шчок,
А ўсьлед над ім і за імі
Імчацца гібелі наўскок.

Нідзе ні ладу, ані праўды,
Званы хаўтурныя зьвіняць...
О Божа! ты хоць заступіся
Й ня дай да рэшты нам сканаць!

10/VI—14 г.

## НА СХОД.

На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі аграблены, закованы народ!

Як роўны йдзі жыхар між роўных жыхароў,
Аддай на суд свае ўсе крыўды, сьлёзы, кроў.

Аб вечным катаваньні, зьдзеку далажы,
І пакажы на курганы і на крыжы.

І аб раскопаных магілах не забудзь,
Дзе груганы тваіх там продкоў косьці рвуць.

Як гналі пот з цябе паны і каралі,
Як гналі проч цары з радзімае зямлі.

І як крываўлюць раскаваные рабы,
Як ты ўпадаеш з непасільнай барацьбы.

Як Бацькаўшчыну тваю рэжуць на кускі.
Як гібнеш з дзецьмі ты ад катняе рукі,—

Аддаці ўсё на суд, на ўсенародны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

29/x—18.

## ЦАРУ НЕБА Й ЗЯМЛІ.

За што, о Божа праведны, магучы,
Караеш так няшчасны свой народ?
Чаму на стогн маўчыць Твой гром бліскучы,
На стогн, што да Цябе йдзе з году ў год?

За што над намі даў перамаганьне
Табою створанай бядзе і цьме,
Спладзіўшы быт сірочага кананьня
Сыном і іхняй матцы-старане?

*

Ты пярунамі крышыш горы, скалы,
І пушчам гібелі Твой шле пажар,
А нашых крыўд скрышыць, спаліць і хвалай
Зьмяніць ня можаш, Сьвету Уладар!

Зямлю услаў Ты ў моры-акіяны,
Што год разводзьдзем мыеш рэк сваіх,—
Чаму-ж ня змыеш Ты цярпеньняў раны
З душы і сэрца верных слуг тваіх?

*

Вачамі сонейка і зор агністых
Агляд Ты робіш дзень і ноч міроў,
І толькі сьцежак нашых камяністых
Ня бачыш Ты, ўсясільны Цар цароў.

Ня бачыш тых магіл, што путы родзяць,
Магіл расьсеянных, як мак, Табой,

Еврейский Педагогический Техникум Библиотека

Скуль цені прадзедаў выходзяць
І ўзносяць рукі ўвысь к Табе з мальбой.

*

Ты ў цьвет сваіх нялічаных народаў
Мінуўшчыну і будучыну ўбраў,
А ў нас—караючы чужой свабодай—
Мінулае—і тое адабраў.

Бадзяцца кінуў на нязьмерным сьвеце,
Нявольнікамі кінуў нас гібець
За тую веру, што бацькі і дзеці
Лет сотні ў моц Тваю вучылісь мець.

*

Паўзводзіў царствы, даў ім панаваньне,
І над пасадамі ўзьнёс свой пасад,
А нашу Бацькаўшчыну на'т прыстаньня
Пазбавіў, выгнаў чэзнуць сярод крат.

Прадаў на глум і годным і нягодным
Усё, што ёсьць сьвятым для нас і ў нас;
Мы дома—як ня дома, правам родным
Сваім ня сьмеема пажыць хоць раз.

*

І Ты глядзіш на гэта ўсё, і неба
Твае маўчыць, як падзямельля мур;
Мальбы няшчасных: долі, праўды, хлеба!
Ты глух паняць, паслаць маланкі бур.

Паймі! пачуй! Сон наш і свой стрывожы,—
Закон і суд свой праведны пашлі!..
Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа,
Калі Ты Цар і неба, і зямлі!

24/XII—1912 г.

## СЯВЕЦ.

На заўтра, к налецьцю
Свой сею загон,—
Ад бацькі прымеціў
Так сеяць, як ён.

Лубянку-сявалку
Дзед сплёў мне даўно,
Ў сявалцы бяз малку
Бурштын-сам зярно.

Знаток сваёй рэчы,
Іду к старане,
Каб вецер у плечы,
Ня ў вочы, дзьмуў мне,

Прывычнаю жменяй
Зярняты кладу,—
Дзе болей, дзе меней
Сьляджу на хаду.

Сьляджу, каб абсевак
Ня кінуці дзе,
Бо з ім неспадзевак
Благіх шмат ідзе.

Кулёвай саломай
Дасеў прысьцялю,
Ад злога залому
Сяўбу баслаўлю.

Ляжыце, зярнята,
Ў парадак, у рад,

Усходзьце багата,
Каб сейбіт быў рад.

Абходзь ты наўкола
Рунь, Юр'я сьвяты!
Ты, добры Мікола,
Пільнуй ад слаты.

Дай, хмарка-вясёлка,
Жывучай расы,
Маланкай-агнёўкай
Ня зводзі красы.

Свой град, Градавіца,
Ў пару сутрымай;
Пярун, Грамавіца,
Ў жніво сунімай!

20/xı—18 г.

## ПОЛЕ РОДНАЕ.

Ты і пелікай,
Ты і каменем
Апрыгожылась,
Поле роднае.

Ты і вёскаю,
Ты і горадам
Абнядолілась,
Поле роднае.

З непагодаю
І з няўродаю
Ты змагаешся,
Поле роднае.

Хоць куды, куды
Ты багатае,
Ты і ўбогае,
Поле роднае.

Ты багатае
Горам, сьлёзамі,
Ты убогае
Шчасьцем, доляю.

Асталелыя
Віхры носяцца
Над табою век,
Поле роднае.

Людзі мучацца
Беспрасьветнасьцю,
Праклінаючы
Поле роднае.

Гэй, папраўся ты,
Адмяніся ты,
Разбудзіся ты,
Поле роднае!

1907 г.

## З ПЕСЕНЬ НЯДОЛІ.

Колькі жуткага,
Колькі горкага
Зла ўсялякага
Ходзіць, поўзае!

І як цяжанька
Сэрцу чуткаму
З гэтай брыдасьцю
Сустракаціся!

Вось канвой брыдзе.
Шаблі бліскаюць,
Людзі бедныя
Звоняць путамі.

Вось сіротанька
Пад варотамі

Плача з голаду,
Стыне з холаду.

Там над працаю
Бескарыснаю
Сілы губяцца
Неакрэпшыя.

Там збыдлеўшыя
Брацьці родныя
Забіваюцца,
Рэчкай льецца кроў.

А там дзеванька,
Хлопцам зьменьнікам
Ашуканая,
Прэцца к поламцы.

Чутны воклікі
Ўсё хаўтурныя,
Совы толечы
Сьвішчуць радасна.

Эх, і як тут жыць
Сэрцу чуткаму,
Адчуранаму,
Адзінокаму!

1906 г.

## З ПЕСЕНЬ МУЖЫЧЫХ.

Гора нам бедным, гора загнаным,
Мучаць нас чорныя долі,
Стогнем пад царам, стогнем пад панам,
Стогнем мы дома і ў полі.

Вечна ня знаем суду і права,
Цёмны народ мы сярмяжны.
Б'емся, працуем сьлёзна, крывава,
Едзе па карку нам кажны.

Нас самавольна земскі карае,
Душыць, саджае ў вадседкі,
Крыўдзіць вураднік, поп абірае,
Воласьць з нас цягне пасьледкі.

Гляньце: паліц'я, войска, вастрогі,
Цэрквы, чыгунка, палацы!—
Гэта наш труд, падаткі, налогі,
Наша мужыцкая праца.

Плача ў няволі край наш радзімы,
Самі-ж ня знаем спакою:
Паляць нас леты, студзяць нас зімы,
Мучыць нас голад вясною.

## КУДЫ ТЫ РВЕШСЯ!..

Куды ты рвешся ў зьнемажэньні,
Дзіцё нядолі, цемнаты!
Цярпі, няшчаснае стварэньне,—
Цярпець бо толькі ўмееш ты!

Забудзься бацькаўскіх наказаў,
Што шчасьце будзеш колісь мець,—
Як ты радзіўся, ты адразу
Асуджан доляй век марнець.

Цягай ты зрэбную кашулю,
Цягай ты лапаці з лазы;
Зімы ня слухай грозных гуляў,
Ад летняй сьпекі не бяжы!

Працуй ярэмнаю скацінай
На сытых ворагаў тваіх;
Хай сохнуць грудзі, чахне сьпіна,
Забудзься думак удалых!

Ідзі схварэлы на работу,
Гаруй, бядуй, як год вялік;
Маўчы, хоць сьлепнуць вочы з поту,—
Замрэ твой, як у пушчы, крык.

Гаворацъ—ноч, хоць дзень на сьвецэ,
І ты з усімі так крычы;
Крычаць: галей! Ідзі галеці,
Крычаць: маўчы! І ты маўчы.

Ідзі, куды нядоля гоне,
Рабі, што скажа ўсё яна;
Будзь рад, калі пад'еў сягоньня;
Мучэньня чарку пі да дна.

Павер папом, што там па сьмерці,
За мукі рай мецьмеш свае,
Бо пекла лепшага і чэрці,
Як тут, ня вынайдуць нідзе!

## БЯСПУТНАСЬЦЬ.

Дзе сонца, дзе сонца прытульнага трэба,—
Там хмары, там золкія хмары снуюцца;
Дзе плакаць, дзе сьлёзы крывава ліць трэба,—
Там людзі, там людзі жывыя сьмяюцца.

Дзе песьні, пагудкі прызыўнай дзе трэба,—
Там жальбы там нуднай разносяцца стогны;
Дзе жыць, дзе тварыць жыцьцё новае трэба,—
Там сыплюць магілы, там—сьмерць, пахароны!

## З СІРОЦКАЙ ДОЛІ.

Блудзіла сіротка па полі,
Блудзіла, шукаючы долі,
Якой яна зроду ня мела.
І дарма я бядачка хадзіла,—
Забрала сіротку магіла;
Так долі пабачыць ня ўсьпела.

Нічога ўжо беднай ня трэба:
Ні хаты, ні сьвіткі, ні хлеба,
Ні людзкага жалю, прывету.
Ня крыўдзіць жыцьцё ў бяспрытоньні
Сіроткі гаротнай сягоньня,
Ўдалі ад няпраўды, ад сьвету.

Сьпі ў вечнай, сіротка, хатулі,
Дзе тата сьпіць твой і матуля,
Ты лепшай ня мела пасьцелі!
Ой, каб ты ў дамоўцы ня спала,
Цябе я, мяне-б ты пазнала,
Мы роўную песьню-б запелі.

Запелі-б так шчыра, балесьне,
А гулка сіроцкая песьня
Па сьвеце нясецца з трывогай.
Мы пелі-б, маліліся сьмела,
Каб наша малітва ўзьляцела
Аж там, аж пад неба, да Бога!

У малітве ляглі бы ўсе справы
Якія стварае крывавы
Наш быт у жыцьцёвым пакосе;
Малілі-б, прасілі, каб болей
Шукаці ня трэ' было долі,
Каб лепей сіроткам жылося.

1906 г

## ПЕСЬНЯ.

*(З народнай).*

Каб была я перапелкай,
Каб я волю мела,—
Дзе-б хацела, палящела,
Дома-б не сядзела.

Ці па ягады ў бор шчыры
Туды, за сялібкі,
Ці ў лес цёмны па арэхі,
Дзе ляшчэўнік гібкі.

Ці ў зялёны луг, дзе рэчка
Ўецца і ялее,
Па каліну па чырвону,
Што ў тым лузе сьпее.

Ой, ня быць мне перапелкай,
Крылейкаў ня мецi,
Нi ў бор шчыры, нi ў лес цёмны
Мне не даляцецi!

Найгарчэйшыя у лузе
Ягады калiны,
Найцяжэйшая на службе
Доля у дзяўчыны.

Як я выйду маладзенька
За вароты ў поле,
Палiюцца самi сьлёзы
З цяжанькай нядолi.

Ой, крывава палiюцца
Мае горкi сьлёзы,
Бы расiца ў летнюю ночку
З беленькай бярозы.

Плачуць вочы век да веку
Дома i на полi—
Не па добрым чалавеку,
А па добрай волi.—

## АБ МУЖЫЧАЙ ДОЛI.

Ходзяць гутаркi па сьвеце
Летам i зiмою,
Ад вашэцi да вашэцi,
Ходзяць чарадою.

Па балючай, па вячыстай
Б'юць усё струне:
Абяднеў мужык дачыста,
Аж чуць-чуць дыхне!

Зьвёў сваю нядолю-долю
У казiны рог,
Цёплай хаты, ўдоваль поля
Крыў бяднязе Бог.

Скарб адвечны—гаспадарку
Пераеў, прапіў,
Цемнату, бяду на карку
Возіць, як вазіў.

Думкі славы, долі, волі—
Як і ня былі,—
Дрэмлюць недзе ў чыстым полі...
Ўзыйдуць-жа калі?

Трэба злое ўсё растрэсьці,
Сонных разбудзіць,
Трэба новае ўсё ўзьнесьці,
Новы шлях адкрыць.

...Ці што знаюць, ці ня знаюць,
Вось, абы, з бяды!
Так пяюць, так адпяваюць
На усе лады.

Чуе ўсё мужык наш гэта,
Чуе кожны дзень,
Ды ўздыхае з лета ў лета,
Ды снуе як цень.

Ой, ня грэе, хоць і сьвеціць,
Месяц над зямлёй...
Ходзяць гутаркі па сьвеце,
Ходзяць чарадой.

1908 г.

## НАВУКА.

Знаем мы навуку,
Знаем не адну:
Дзедаў дзед праўнуку
Перадаў свайму...

Ўстаці рана-рана,
Позна легчы спаць,

Працаваць да п'яна,
Ў поце працаваць.

Што было учора,
Мець ва ўсім гаду,
Сеяць зерне-гора,
Жаць жніво-бяду.

Абіваць парогі
Сыценькім людзям,
Кланяцца у ногі
Злыдням і трутням.

Бяспрыпыннай зданьню
Мерыці зямлю,
Віць па прыказаньню
Сам сабе пятлю.

Ў брэдняў верыць кучы,
Ў што ня верыць той,
Хто нас верыць вучыць
Летам і зімой.

Ў родным краю, ў хаце
Быці чужаком,
Праўданькі шукаці
Ў брата кулаком.

І душу і сэрца
Весяліць карчмой,
А як ліха ўпрэцца
Падружыць з турмой.

З Боскага суджэньня
Без пары сканаць,
За ўсе тут мучэньні
Ў пекле мук чакаць.

Гэткую навуку
Знаем не адну
Дзедаў дзед праўнуку
Перадаў свайму.

4/VII 13—г.

## ДУМКА.

Эх, мой братка, эх, мой родны,
Што так спахмурнеў:
Ці ты зьбіўся з пуцявіны,
Ці саўсім ня меў?..

— Якжа мне вясёлым быці,
Якжа ня тужыць:
Доля наша, доля цёмных
Каменем ляжыць.

Глянь на нашы хаты, вёскі,
На шнуры, на край,
На народ зірні сярмяжны,
І тады пытай.

Столькі тэй крыві чырвонай,
Столькі сьлёзных рэк
Разышлося, разьлілося
Крыўдна з веку ў век.

А заплатай, а падзякай
За мільёны ран—
Ўсё крыжы і наспы тыя
Ды нямы курган.

— Ня сумуй, брат! Блісьнуць зоры,
Шчасьця ўскрэснуць дні;
Долі, волі ўзойдзе кветка
Са сьлёз і крыві!

1908 г.

## ХАЙ-ЖА ВАМ ТАК НЕ ЗДАЕЦЦА...

Хай-жа вам так не здаецца,
Што бяда ўжо і заціісьне.
Знайце, ліха пэратрэцца,
І маланкай доля блісьне.

Праўда, поўны сумаў весьці
Буйны вецер нам прыносіць,
Што як з гора, як з балесьці
Каля нашых хат галосіць—

І галосіць, і заводзе,
Плача, як па дзетках маці,
Аж-бы крыкнуў: годзе, годзе!
Годзе сэрца жалем рваці!

Але ўсё-ж, хай не здаецца,
Што бяда ўжо і зацісьне,—
Наша ліха launch пяратрэцца,
І маланкай доля блісьне.

1906 г.

* * *

Сумна, сумна жыць на сьвеце,
Жыць ня меўшы долі;
Ой, сумней-жа долю меці,
А ня меці волі!

Дык завабма ў нашы сеці
Ясназорку волю,
Што людзям, як сонца сьвеціць
Ў радасным прывольлю.

Аб нядолі тады пеці
Ўжо ня будзем болей,
І так шчасьце будзем меці:
Воля будзе доляй!

1907 г.

* * *

Можам часта мы плакаць
У вялікай бядзе,
Можам часта мы плакаць
У вялікай нудзе.

Але ёсьць-жа такі жаль
    Нанясе благі лёс,—
Што хацеў-бы заплакаць,
    Дый ня выцісьнеш сьлёз.

## ТУТ І ТАМ.

Вы тут гуляеце, панове,
У сытай, п'янай чарадзе,
А там—што робіцца у вёсцы,
І ў думку вам не набрыдзе.

Тут у крыві людзкой скупана
Капейка сходзіць задармо,
А там, у вёсцы ў непацешнай,
Расьце, вялічыцца ярмо.

Тут вы прышлі разьбіць аб чаркі
І чэсьць і славу напалам;
Там горы ўзносяць, рыюць ямы,
Каму?—згадаць пара ўжо вам!

1909 г.

## У ХОРАМАХ.

Узносілі муры,
Каб княжыці ў мурох;
Ад зоркі да зары
Купаліся ў ігрох.

Зьвінела серабро
І золата, і медзь;
На зло і на дабро,
На ўсё—ўсё ўмелі мець.

Ня ў страх ім ноч і гром,
Зямля, сьвет цэлы—рай;
Кані-арлы віхром
Імчалі з краю ў край.

Салодкі мёд пілі,
Жыць соладка было,
Забылі адылі,
Што йнакш жыло сяло.

9/XI—18 г.

## З ДУМАК ЖАБРАКА.

Я чалавечак жабрачай натуры—
Жыць ня судзілі іначай багі.
З выгляду важан я: косьці ды скура,
Не далічуся рукі і нагі.

Важна іду ад парога к парогу,
Спора акрайцаў у зрэбным мяху;
На чалавечую добру ўспамогу
Мушу я мецi надзеi крыху.

У дабрадзеяў, або ў дабрадзеек
Грошы ня сьмею шмат вельмі прасіць.
Дайце мне толечы колькі капеек,
Каб мог сабе я вяроўку купіць.

Рэшту прыладаў сабе сам дастану—
Ў лесе асіну, ці дзе які слуп...
Ціж не пацеха пані і пану
Бачыць, як нейкі ўскалышацца труп?!.

Глянеш, і воку аж робіцца міла!
Жыў вось людзіна і шчасьця дарос.
Братняе сэрцайка штось ды зрабіла,
Хоць і ня так мо' як баіў Хрыстос.

## ІДЗЕ ВЯСНА.

Ідзе вясна... На белым полі ложыць ці плямы;
Вада цурком цячэ з-пад сьнегу ў долы, ў ямы,
Зьлятаюцца ды дзіка гракаюць вароны...
Ідзе вясна... каб быццам сьвет збудзіці сонны.

А будзе толькі з гэтага ўсяе карысьці,
Што лес на час—каб скінуць посьле—ўзьдзене лісьце,
Ды зацьвітуць і адцьвітуць адзін раз лішні
У садзе малажавым яблыні і вішні;

Ўсё тую-ж песьню адшчабеча салавейка,
Малітву адгалосіць сонейку жалейка...
Ах, пражывеш ты, чалавеча, не напрасьне:—
Яшчэ адна вясна ў душы навек загасьне.

1/III—15 г.

## НА ПОЛІ ТАЕ.

На полі стаяў бледны сьнег,
Вясна абходзіць поле...
Пакінь у хаце свой начлег,
Устань са сну, саколе!

Паводка б'ецца ў берагі
І ў шляхі б'е нямыя,
Яшчэ разгон адзін, другі—
І ложа тваё змые.

Плакуча шумам стогне бор,
Пракляцьцем бор заводзе,
На тых нясе свой прыгавор,
Што сьпяць на зло прыродзе.

Па небе сонейка дугой
Заносіць круг паволі...
Пакінь начлег у хаце свой,
Устань са сну, саколе!

23/I—14 г.

## З ВЯСНОЙ.

Як зыйшла сьвятая
Вясёласьць васны,—
Цэлы сьвет скідае
Зімавыя сны.

Сэрца шчасьцем б'ецца,
Кроў кіпіць агнём,
Песьня раздаецца:
Болей не засьнём!

Песьня ўвысь імчыцца,
Як званоў біцьцё;
Кожны весяліцца,
Блаславіць жыцьцё.

Гаманяць народы,
Як тэй пушчы шум.
Колькі тэй свабоды!
Колькі сьветлых дум!

Згінуў сон нягодны,
Дзе не паглядзіш...
Чаму-ж ты, край родны,
Як забіты сьпіш?—

## ВЯСНА.

Згінулі сьцюжы, марозы, мяцеліцы,
Болей ня мерзьне душа ні адна,
Сонейкам цёпленькім, зеленьню вабнаю
Абдаравала зямельку вясна.

Рэчкі бурлівыя, ўчора санлівыя,
Сёньня усталі, плывуць і бурляць;
Рыбкі шмыглівыя скачуць, купаюцца,
К небу прыветна з вадзіцы глядзяць.

Пушчы паважныя, зімку праспаўшыя,
Радасна песьні зайгралі свае;
Лісьці зашасталі, птушкі зачыркалі,
Сьвішча салоўка і дзяцел клюе.

Поле травіцаю сочнай адзелася,
Вышла скацінка і дружна скубе,
Каля скацінкі падпасьвіч з жалейкаю
Ходзіць навокал ды йграе сабе.

Грай, грай, жалеечка! грай, грай, вясёлая!
Выйграй з вясною і долячку мне;
З пушчаю, з птушкамі, з вольнымі ветрамі
Грай мне аб шчасьці, грай аб вясьне!

1906 г.

## ЗАПЕЛА ВЯСНА СВАЮ ПЕСЬНЮ.

І шумам задумнага лесу,
І шчэбетам птушак шчасьлівых
Запела вясна сваю песьню,
Запела на збуджаных нівах.

Выходзіць сялянін на поле,
Зямлю уздымае сахою...
О колькі тэй веры, надзеі!
О колькі сьвятога спакою!

Вачыма расістымі водзіць
Па скропленым потам надзеле;
За думкаю думка снуецца,
Як нітка за ніткай з кудзелі.

Хоць буры і сьцюжы гулялі,
Хоць мор сабіраў сваё жніва,—
Жыве ён, як жыў тут спрадвеку,
Жыве яго хатка і ніва.

Вось дрэмле курган на узьмежку,
Ігруша шуміць на кургане,—
Расказвае былі былыя,
Мінуўшаму шэпча літаньне.

А жаўранак звоніць над грушай,
Свой кліч селяніну сьвяргоча:
—Сьмялей, беларусе-араты!
Сьмялей уздымай к сонцу вочы!—

16/іv—14 г.

## ЛЕТАМ.

Выйду, сяду каля саду
У зацішнай старане
І дзівіцца буду цуду,
Што цуднее ўкруг мяне.

Як для сьвета грае лета
Песьню сьпеўную быцьця;
Бласлаўленьне небам, хлебам
Шле сам Бог, сама зямля.

Звоніць поле доляй, воляй,
Звоніць поле ў каласкі:
Ў буйным лузе зьяюць, граюць
Кветкі, мошкі, матылькі.

Рэчка ўецца і сьмяецца
Да зялёных лоз і вольх,
А ў вадзіцы шыбка рыбка
Шмыгаціць на паплаўкох.

Лес адвечны бесканечны
Цягне, цягне разгавор;
Між хвой скачуць птушкі-ўюшкі
І пяюць, пяюць наўмор.

А на небе сьлед цярэбе
Сабе сонца залаты,
Сьвеціць, грэе долы, горы,
Ў сэрцы шле агонь сьвяты.

Так для сьвета грае лета
Песьню сьпеўную быцьця...
Чаму-ж мне ў ім стала мала
І пацехі і жыцьця?..

4/уп—13 г.

## ЎСЮДЫ ЛЕТА...

Ўсюды лета, лета,
Гулі строіць сонца,
Шалясьціць зялёны
Колас на саломцы.

Выйдзі, закрасуйся,
Як зара да ўсходу,
Пакажыся сьвету,
Сьвету ды народу!

І з праменьняў яркіх,
Яркіх, зіхацістых,
Ты сатчы апратку,
Як-бы з кос агністых.

З васілёчкаў сініх,
З муравы зялёнай
Ты спляці вяночак,
Ты спляць карону.

Ў серабрысты росы,
Бы ў брыльянты тыя,
Ты ўцьвяці убор свой,
Шаты залатыя.

Заясьней, зардзіся
Ў славе неразьвеўна,
Нібы дзіва тое—
Ў казцы каралеўна.

Пакажыся сьвету,
Сьвету ды народу,
Родная старонка,
Як зара да ўсходу!

19/VI—13 г.

## ДУНУЛІ СІВЕРЫ...

Дунулі сіверы з поўначы,
Кроў касьцянела у жылах;
Людзі, благаючы помачы,
Шлі за німашто ў магілы.

Выскачыў вецер палудзенны,
З ім—і вясеньнія шумы;
Дрогнулі сэрцы разбуджаны,
Ўдарылі ў сьветлыя думы.

Міла цяпло расплываецца,
Лёгка жывёліне ўсякай,
Зеленьню нівы ўсьміхаюцца,
Хмараў на небе ні знаку.

Шаты паўсюды нядзельныя,
Ў песьнях вялікдзень чуваці,
Згінула доля бясцэльная,
Сонца над хатай і ў хаце.

Думалі душы—ўжо вольныя—
Дні ўсешчасьлівасьці блізка,
Дый знаць гаротным бяздольнае
Суджана з роду, з калыскі.

Дунулі сіверы з поўначы,
Кроў касьцянее у жылах,
Людзі, благаючы помачы,
Сходзяць бясчасна ў магілы.

7/XII—09 г.

## У ВЫРАЙ.

Зашумела нудна восень
Шумам лісьцяў, шумам сосен,
  Даўшы волю хмурам;
Ажно з гоняў Беларусі
Ў вырай выляцелі гусі,
  Паплылі ў даль шнурам.

Съледам з выраем, з гусямі
Паляцелі думкі самі,
Сэрца ўскалыхнулі;
Ўскалыхнулі долі плесьняй,
Азваліся казкай-песьняй,
Ў смутку патанулі...

Ой, вы, гусі-вырайніцы,
Жыць ня доўга ў чужаніцы,
Зноў к нам прыплывеце,
Зноў вас будуць сустрачаці
Нашы рэчкі, сенажаці,
Наша сонца ў цьвеце.

Ой, вы, гусі-гудзіцелькі,
Не забудзеце зямелькі,
Дзе дзяцей пладзілі,
Дзе вы месячык страчалі,
Дзе вы зоркі падлічалі,
Плавалі, хадзілі.

Знаю, зложыце тут косьці,
Толькі зьлётаеце ў госьці,
Асьвяжыці грудзі:
Вы ня ўмееце йшчэ, гусі,
Выракацца Беларусі,
Як умеюць людзі.

31/х—18 г.

## У ДАРОЗЕ.

Цёмна, сумна ў сонным полі,
Як скрозь сіта ймжыць імжака;
Воддаль прэе ў лесе лісьце,
Як шкілет тарчаць галіны.

Скрыгатаюць грудзі больлю,
Сэрца сьсе нуда-вужака,
Звод скрабе ў душы агнісьце,—
Будзіць буднія ўспаміны.

Еврейский Педагогический Техникум

*

Еду, пхнуся бітым шляхам,
Па балоце конь плюскоча,
А ноч крадзецца пацíху,
Сыпле чары ўлева, ўправа.

Пхнуся ўдвойчы з жуткім жахам,
Злыднí зіркаюць у вочы...
Ах, хаця-б ня дацца ліху?
Но, мой косю!.. Стой!.. Канава!..

29/x—18 г.

## АСЕНЬНІМ ВЕЧАРАМ.

За хатай асеньнія шумы,
Чуць сьвецíцца ў хаце газьніца,
А думы, гаротныя думы,
Плывуць і плывуць, як крыніца.

Пяюць аб мінуўшым памінкі—
Бязрадасны гымн пражытому...
Быцьця свайго бачыш дажынкі,
Падводзіш рахунак былому.

І лічыш, і лічыш паволі
Удачы свае і няўдачы—
Чаго меў на сьвеце найболей,
Чым сьцежку жыцьця абазначыў.

І думка адна, злыбядніца,
Назойліва цісьне пытаньне:
Ці-ж варта было і радзіцца,
Каб толькі цярпець бязустанне?

## ПЛАЧА ВОСЕНЬ...

Плача восень за вакном,
Сьлёзы плюскаюць аб шыбы,
Абняла трывожным сном
Няпрытульныя сялібы.

Плача восень, стогне ў сьне,
З пушчай, з ветрамі галосіць,
Як-бы дзе каго кляне,
Ці аб шчасьці моліць, просіць.

Плача восень ноч і дзень,
Сьлёзы плюскаюць аб вокны,
А па хаце чорны цень
Лазіць, тчэ свае валокны.

Гэта ходзіць, бродзіць сум,
Душу мучыць ў сваіх сетках,
І трывожыць сказы дум,
Дум аб шчасьці і аб кветках.

1915 г.

## УДОСЬВЕТАК.

Яшчэ певень пець не масьціцца,
Ня згасла ніводная зорка,—
У хаце дыміцца газьніца,
У хаце ўжо чутна гаворка.

За прасьніцай з мягкай кудзеляй
Папрадуха сучыць пры сьценцы,
За нітачкай нітачку сьцеле,
Вурчыць і вурчыць вераценца.

Хоць мілы сон клеіць павекі,
Хоць будзіць пасьцель успамінак,
Дзяўчына сон гоніць наўцекі,
Расьце і таўсьцее пачынак.

*

А ў полі заходзіцца бура,
Разносяцца жальбы і стогны,
Страхою калоціць віхура,
Дождж хвошча па шыбах сьцюдзёны.

Пуцінай брыдзе падарожны,
Куды ён брыдзе. не згадаці,

Паглёдкаю сочыць трывожнай
Сьцяжыну ў балоцістай гаці.

Над ім неба з хмарамі вісьне,
Цямрыца дзе вокам ня кінуць;
Няўжож вогнік з хаты ня блісьне,
Няўжож падарожнаму гінуць?

*

Папрадуху зморы абселі,
Ў руках верацёнца ня скача;
Галоўку схіліла к кудзелі,
І дрэмле, і сон дзіўны бача.

Ёй сьніцца, што зьнекуля хтосьці
Сьпяшыць у дарозе да хаты,
Што ён так сьпяшыць к ёй у госьці,
Такі малады і багаты.

І ўсьмешка ўсьцьвіла маладая,
І кроў забурліла крыніцай...
Ёй сьніцца... Дый хто там згадае,
Што ўдосьвет папрадусе сьніцца?..

10/XI—18 г.

## ВІХОР ЗАГУЛЯЎ.

Гэй, шумна у боры
Віхор загуляў;
Аб сълёзах, аб горы
Завыў, запяяў.

Аж хіляцца сосны,
Аж стогнуць дубы
Ад гэтай жалоснай
Віхорнай кляцьбы.

Ваверкі-грызухі
Заселі ў дуплёх,
Мядзьведзь ад разрухі
Палез у бярлог.

А людзі, што бор той
На дровы сяклі,
З душою разьдзёртай
У хаты ўцяклі.

І пуста, і дзіка
Пад борам кругом,
Як помсты вялікай
Заплёў хто залом.

Як дзе па пажары—
Жыцьця ані чуць...
Касматыя хмары
Па небе паўзуць.

Віхор-жа у боры
Гудзе і гудзе
Аб сьлёзах, аб горы,
Аб людзкай бядзе.

1906 г.

## ПАЯЖДЖАНЕ.

Распаўзлася па абшары
Сьцюжным пухам, сьцюжнай марай
Папаўзуха-завіруха—
Злога духа злыбядуха.

Ў полі дымна, ў полі цёмна,
Беспатольна і заломна,
Ні пуціны, ні упыньня,
Як у вечнай дамавіне.

Як у моры, ў белым сьнегу,
Без дняваньня, без начлегу,
Ў бездарожжа, ў бяспрыстаньне
Едуць, едуць паяжджане.

Едуць, едуць, ані сьледу,
Ні праслуху, ніпрагледу,

Ні прасьвету, ні надзеі,
Ўсё ў зацьмішчы, ўсё ў завеі.

Папаўзуха-завіруха
Шэпча, шэпча штось да вуха
Аб музыцы-дудаграю,
Аб пшанічным караваю.

Сьнежным надзячы начлегам,
Пасыпае сном і сьнегам,
Лазам лезе ў сэрца, ў вочы,
Зазірае патарочай.

Маладога к маладусе,
Свата к свацьці-пасядусе,
Да закосьніцы закосьню
Жах прытульна прыкаросьніў.

Прытуліліся, як дзеці,
Як галубкі на расьсьвеце,
Як нішто ні знаць, ні ведаць,
І ўсё едуць, едуць, едуць.

А над імі зьбеядуха,
Папаўзуха-завіруха,
Сьнежнай хістаючы вехай,
Захліпаецца ад сьмеху.—

27/XII—18 г

## МЛЕЧНЫ ШЛЯХ.

Лёг па небе шлях млечны, шлях зьлепленых зорак,
Паясом-серабром без канца і пачатку,
І цікуе, як месяц, з узгорку на ўзгорак
Пад ім лазіць, мяняючы што ноч апратку.

І галубіць шлях бледны зямлю яснавіцай,
Сочыць вочак мільёнамі долю людзкую,
То сьвятлей, то мглісьцей зацьвітае, міхціцца,
Сее скрозь нітто сон, нітто яву такую.

Людзі кажуць, што птушкам, зблудзіўшым уночы,
Млечны шлях служыць сьцежкай-пуцінай у вырай.
Яшчэ кажуць, што гэта сьлязінкі сірочы
Замяніліся ў зоркі ды сьвецяць так шчыра.

9/xi—18 г.

## З В А Н Ы.

Гудуць званы, з дня ў дзень гудуць мядзяныя званы,
Як стогн, гук-водгульле гучыць мальбою жудзі;
Дрыжыць званіцы мур сьцюдзёны, цагляны,
Дрыжыць званар, надорваныя рвучы грудзі.

Наводзіць гэта музыка нязводны звод нуды,—
Скрабе душу, як сенажаць жалезныя бароны,
Па сэрцу б'е, як дождж па шклянай шыбе ў халады,
Гадуе ў думах сказ бадучы, забабонны.

Ў мазгі залазіць жах, што гэты буйны звон званоў,—
Хаўтурны гэта звон спакон нямых сталецьцяў,
Што гэтая званіца—мерцьвяковы вечны схоў,
Званар—грабар, што косьці згортвае па сьвеце.

8/xi—18 г.

## СТОНОГАЕ ЛІХА.

Стоногае Ліха-Нядоля
Валочыцца з поля на поле;
А вочы ў яго—што ў начніцы,
А рукі ў яго—чараўніцы.

Дзе ступіць—там кроў выступае,
Дзе гляне—там крыўда сьляпая
Народы хіне, як калосьсе,
Каго-ж абыймае—сьмерць косе.

Трымае сьвет цэлы ў парадку,
Ня мае канца і пачатку,
Ня знае граніцы і меры,
Ня гіне ад кос і сякераў.

Так блукае з поля на поле
Стоногае Ліха-Нядоля;
Над ім-жа сам Бог з пярунамі
Дзяржыць страж, спавіты імгламі.

## НА ПРЫЗЬБЕ.

Сядзіць на прызьбе бледны дзед
І пазірае сьлёзна ў сьвет.

Старэчай думкай ў даль бяжыць,—
Як жыў, жыве, як будзе жыць.

За успамінам успамін
У грудзі лезе, як той клін.

Шлях не малы прайшоў ў жыцьці,
А йшчэ ці многа перайсьці.

Ўсё разважае на свой лад
І, што збудзіў ўспамін, ня рад.

У думкі пруцца стада мар—
І двор, і пан, прыгон і цар.

Бадзяньні тыя, што ўсьлед шлі,
Па роднай, па чужой зямлі,

І тыя новы ўладары,
Што пруць к яму ў гаспадары;

Ўсё важыць розумам дзядуль,
І ня здыбе дабра зьнікуль,

Адно, ад назалістых дум
Што раз, то горшы цісьне сум.

І сам ня бачыць, як расой
Сплыла сьлязіна за сьлязой,

З сухім зьмяшалася пяском
І заблішчала аганьком...

А дзед на прызьбе ўсё сядзіць
І ў дальню даль глядзіць, глядзіць!

30/x—18 г.

## А ТЫ, СІРАЦІНА...

...А ты, сіраціна, жыві,—
Як ветрам лісток адарваны,
Ні месца табе на зямлі,
Ні радасьці з песень жаданай.

Нясі сваю ношку жыцьця
Між наспаў-курганаў магільных,
Бяз веры ў свой цэль, бяз пуцьця,
Расплаканы ў жальбах бясьсільных.

Як цень з таго сьвету, ідзі,
Ня знаючы ў долі сірочай
Ні сэрца з дзявочай грудзі,
Ні сонечнай ласкі дзявочай.

Жыві і сьні сны аб вясьне.
Ды думай адно, сіраціна,
Што нават ніхто ня ўздыхне
Калісь над тваёй дамавінай.

6/xI—13 г.

## ДЗЬВЕ ДОЛІ.

Расьце бярозка серад поля,
Ўдалі ад лесу, сіратой;
Жыве пясьняр з сваёй нядоляй
З сваёй маркотнаю душой.

Ваюе з бурамі бяроза,
Мароз, слата сячэ яе;
Пясьняр з няпраўдай б'ецца ў сьлёзах,
За ўсіх цярпіць, для ўсіх пяе.

З бярозкі сьвежыя галіны
Віхор зрывае, коціць ўдаль,
А песьняровы думкі-гымны
Ламочыць крыўда, гора, жаль.

Жыла бярозка, годзе жыці:
Сячэ на дровы дравасек...
Ідзе пясьняр пад дзёрн зложыці
Сваю галованьку на век.

Бярозка ў печы ўжо вуглямі...
Дымы пад неба ўжо бягуць;
Памёр пясьняр, забыт людзямі,
А песьню ўсе яго пяюць.

## П Е С Ь Н Я.

Там, гэй, на ліпе на расахатай
Птушка гняздо ўе, будуе;
Там, у хаціне, там у пахілай
Маці сыночка гадуе.

Вецер наскочыў, вецер нячулы,
Птушцы гнязьдзечка раскінуў;
Выгнала доля, выгнала сына
З матчынай роднай хаціны.

Цьвіркае птушка, жаліцца птушка,
Вецер, жыцьцё праклінае;

Плача матуля, плача, галосіць,
Сына ў вакне выглядае.

Там, за хацінай, там каля плоту
Ліпа шуміць у гародзе,
І аб тэй птушцы і аб матулі
Песьню ў пашуме заводзе.

Ходзяць там людзі, ходзяць грамадай,
Б'юцца, ўпіваюцца, скачуць,—
Ані тэй птушкі, ані матулі,
Ані тэй ліпы ня бачаць.

12/ıх—08 г.

## КРЫЎДА.

Цягалася Крыўда па сьвеце,
Ад хаты да хаты блудзіла;
Тым строіла вечныя сеці,
Тых гнала бяз часу ў магілы.

Ад хаты да хаты йшла з хвалай,
Ўзьвялічвала троны, кароны;
Нявольнікам путы кавала,
Пладзіла сусьветныя стогны.

Здавалася, ноч не пяройдзе,
Іржа ня згрызе вечных путаў,—
Аж блісnуў пажар на ўсходзе,
І дрогнулі рабскія скруты.

І дрогнула Крыўды ўсяўлада,
Разьлёгся скрозь кліч пяруновы;
Апалі кароны, пасады,
З нявольнікаў спалі аковы.

І мілай пацехай зазьяла
І доля і слава людзкая,
Дый толькі знаць слава і хвала
Недаўгавечнай бывае.

Раскованы раб сябе выдаў—
Ня ўзьнёсься ўвысь дух чалавечы,—
Нявольнік пабратаўся з Крыўдай
І ў помач ёй даў свае плечы.

1918 г.

## КОЦІЦЦА КРЫНІЦА...

Коціцца крыніца,
Коціцца далёка,
А над ёй бядуе
Вольха адзінока.

— Ой, плывеш ты, рэчка,
Бурна і прасторна,
А я прыкавана,
Да зямелькі чорнай!

Рэчка адказала:
— Хоць плыву, ня ўстою,
Але берагі мне
Не даюць спакою.

Жалілася вольха
Ветру сваёй доляй:
— Ты—свабодны, вецер,
Я жыву ў няволі.

Зашумеў ёй вецер:
— Хоць гуляю вольна,—
Выдзірае лес мне
Вочы беспатольна.

Вольха плача далей,
Плача чалавеку:
— Ты жывеш, як хочаш,—
Я марнею ў зьдзеку.

Голас чалавечы
Вольсе адазваўся:

— Ты йшчэ хоць бядуеш,—
Я-ж—адбедаваўся.

Ты хоць ажыўляеш
Выгляд свой вясною,—
Я сплю аднолькова
Летам і зімою.

19/VII—13 г.

## С О Н.

Заглянь, сынок, у соньнік,
Сон мела я пусты:
Прысьніўся мне сасоньнік
Такі густы, густы.

Па ім ішла я, ўночы
За мною зводы йшлі
І зазіралі ў вочы,
І ціснулі к зямлі.

Шапталі штось над вухам,
Сплятали плот з імгліц,
Абхутывалі пухам
Сасонічыхігліц.

Вадзілі па канавах,
Заломах, бадылёх,
Па хворастах крывавых,
Распаленых вуглёх.

Далей, вялі адтуля
Між пнёў гнілых кам'я,
Дзе сьпіць твая бабуля,
Дзе маці сьпіць мая.

Кіўнулі на абліплы
Спляснеўшым мохам крыж,
Захіхаталі сіпла,
І счэзьлі недзе ўзвыж.

За імі і сасоньнік
Захіхатаў глухі.
Дык глянь, сынок, у соньнік,
Што значыць сон такі?

8/XI—18 г.

## ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.

Я ўзноў заснуўшую было жалейку
Бяру і пробую ў ёй галасоў:
Ці хопіць сьветлых, звонкіх думак-слоў,
Ці гладка пойдзе песьня-дабрадзейка?

І пачынаю йграць з трывогай нейкай,
Хоць песьня, як і з даўных б‘е часоў,—
Зьвініць, як вецер паміж верасоў,
І ў перагонкі рвецца з салавейкай.

А ўсё-ж, як тамка сваякі-суседзі
Яе паймуць, хацелася-бы знаць,—
Ці блаславяць, ці ўтопчуць гідка ў гаць?

Адно, снуючы з сумам па прасьледзьдзі,
Я голасна йграць буду ў тайным брэдзе,
Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!

1918 г.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

З зямлёй і небам зьвязывае мяне ніць—
Не разарваная веквечна павуціна:
Зямля мяне галубіць, як вернага сына,
А сонца мне душу ня кідае туліць.

Яшчэ ў калысцы я навучыўся з песень сьніць
Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так, мясьцінах:
Што роднай нівы я мільённая часьціна,
Што зоркі роднай ў сэрцы мне іскрынка тліць.

Так Бацькаўшчыну я здабыў сабе бяз злосьці,
Узрос з яе й чужых з яе ня скінуў косьці,
Грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей.

І калі зьдзекваецца нада мною хтосьці—
Над Бацькаўшчынай зьдзекваецца ён маёй,
Калі-жнад ёй—мяне тым крыўдзіць найцяжэй.

1915 г.

## ПЧОЛЫ.

Мой сад калодамі абведзен мёдных пчол,
Што гаманяць, як неўгамонныя музыкі;
Іх з лета ў лета звоняць звончастыя зыкі
І далятаюць да блізкіх і дальніх сёл.

Я дбаю аб вульлёх,—куру, сьвянчу наўкол,
Запасу ў восень мёду кідаю вялікі,
Сьляджу зімою, каб чарвяк ня ўбіўся дзікі,
Вясною шчыра падчышчаю верх і дол.

Але як дойдзе час выходзіць рою ў сьвет,
Ён не садзіцца, дзе назначу я пасадку,
А коціцца, чужы дзе зацьвітае цьвет.

Або як мёд пайду я падглядаць у кадку,
І тут бяда—ня ўсё ў парадку і даглядку:
Як рой, і мёд падгледзіў ўжо сваяк-сусед.

7/xı—18 г.

## НАША ГАСПАДАРКА.

Спрадвеку мы у родным краю гаспадарым,—
Свае загоны сеем, пасьцім статак свой;
З надзеяй сустрачаем выраі вясной,
З надзеяй ўвосень іх праводзім над папарам.

Спрадвеку ходзім пад панамі і пад царам
На недруга й на бліжняга свайго вайной,
Хоць нам за нашу кроў падзякаю адной—
Крыжы і хаты нашы скошаны пажарам!

Так гаспадарым мы і дома і за домам,
Усё ждучы пацехі з севу і жніва,
Ждучы дарма, як летам жджэ расы трава.

Чужы і свой хлеб станавіцца жорсткім комам
І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам
Варшава панская і . . . . . . Масква!?

7/xі—18 г.

## ЧАМУ?

Няма для духа вольнага граніцы, меры,
Гдзе-б ён сягнуць ня сьмеў, гдзе-б ён не узлунаў;
У хаосе быцьця, у цьме ўсясьветных зьяў
Ён ня ністожыцца, ў сябе ня губіць веры.

Яму да тайнаў душ і сэрц адкрыты дзьверы,
Усё тое спазнае, што бег сталецьцяў не спазнаў;
Як фэнікс з попелаў, узносіцца з канаў,
На дно якіх яго сьпіхаюць цемраў зьверы.

Магучы, векавечны, створан з сонц мільёнаў,—
Гром, пяруны ў руках трымаць, спыняць ня слаб,
Хоцьбы ў вагні кіпеў, ў віхрох марозаў зяб...

Аднак, чаму-ж ты там нішто, дух няпрыгонны,
Дзе дружна звонячы ў кайданы ўсімі тоны,
Крывёй, пажарамі частуе раба раб?

## МАЁ ЦЯРПЕНЬНЕ.

Маё цярпеньне, мой крывавы боль—
Што значаць перад мукамі мільёнаў,
Дзе безнадзейны стогны родзяць стогны,
А сьлёзы грызуць вочы ўсім, як соль!

дух мой ўзносіцца пад неба столь,—
рой аб мур, там б'е паклоны,
л мой гэты ўздых шалёны...
к перад малітвай сьвету—ноль!

І веру я, што я нішто ў быцьці—
Іначай думаць не дае сумленьне.—
Аднак, чаму-ж здаецца мне нязьменьне,

Што меж майму цярпеньню не знайці,
Што так вяліка мне яно ў жыцьці,
Як мільёнаў разам ўсіх цярпеньне!

3/1—15 г.

## ТАВАРЫШ МОЙ.

Ідзе за мной у сьлед касьцісты, бледны труп,—
Як цень—за мной, пры мне, куда я ня ступлю;
Ці я устану, ці ў пасьцелі мёртва сплю—
Са мной заўсёды ён, заўсёды гэты жывы слуп.

Вакруг мяне пабудаваў жалезны зруб,
Пературвыў ў турму бязьмежную зямлю,
Садраў чуцьцё—ці я цярплю, ці не цярплю,
Здушыў вужача грудзі ў сто сталёвых шруб.

Таварыш шчыры мой, люблю, люблю цябе!
Ні час, ні чалавеча злосьць цябе ня зьесьць;
Ты—пасланец мой, ты—сама аб шчасьці весьць!

Цябе, мой труп, я ў сьне і ў явы барацьбе
Ня кіну, як ня кінеш ты мяне ў жальбе...
О, чэсьць табе, мае ты Адзіноцтва, чэсьць!..

20/1—15 г.

## СЯРОД МАГІЛ.

Сярод магіл, на плечы ўзьняўшы крыж свой, стану,
Як пасланец з магіл ад сьпячых там прарокаў,
І ў даль сягну, дзе толькі можа сягнуць вока,
І скрозь туды, дзе вольнай думкаю дастану.

І кліч пушчу скрозь ад кургану да кургану..
Як віхраў лёт па ўсёй бязьмежнасьці шырокай,

Кліч-закліnаньне векавечнага зароку,
Што ў гусьлях толькі дрэмле, ў песьню ўчараваны.

Прадсьмертнаю кляцьбою канаючага раба,
Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку,
Зьвярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку.

Хай спаліць мне душу, як ствол разьбіты граба,
Хай вочы высмаліць, як кветку ў ліліі слабай,
Але і крыж мой спапяліць хай папарадку!

15/п—15 г.

## НА СУД.

На суд вам, кніжнікі, сябе я аддаю,
Судзіце па стацьцёх, як піша ваш закон;
Было-ж жыцьцё мне—узаконены прыгон,
Хоць я ня даў вам і ня дам стаптаць душу сваю.

Мінаў я вашу фарысэйскую сям'ю,
Мяне ня збэсьціў вашым ідалам паклон,
Калі-ж з грудзей і вылятаў пракляцьця стогн,
То кляў я сам сябе і мук сваіх зьмяю.

Нічым грашыць ад вас грашнейшым я ня ўмеў,—
Піў чарку крыўды і цярпеньня—ўсё да дна,
І не спаганіла мяне аблуда ні адна.

Адзін грэх толькі лёг мне на душу, як леў,
Праступак, судзьдзі, мой: я сэрца, сэрца, меў!
Але ці-ж гэта так страшэнная віна?—

20/I—15 г.

## НА ШЛЯХУ.

Ляжыць, уецца ў бел-сьвет, як вужака,
Стары, утоптаны вякамі шлях,
Сьнючы былыя сказы, небарака,
Што перачуў на змучаных грудзях.

Бярозы—плачкі сумныя—павісьлі
Абапал, як нямая варта-страж,
Нядбаючы чаго стаяць, скуль выйшлі.
Адно ківаючы на шлях—ты наш!

А вецер ім блзбожныя напевы
То ціха шэпча, то гудзіць, як зьвер,
Галубячы, цалуе іх, як дзеваў,
І кліча іх на радасны бязьмер.

Паміж бярозаў-плачак гэтым шляхам
Іду я з ношкаю разьбітых дум, :
Адзін іду, а падганяе тайным жахам
Прыяцель верны мой—бясьсьмертны сум.

Я—шлях, якому век няма спакою
Ні ў чорны дзень, ні ў месячную ноч,
Пасьвечаны нядбалаю рукою
Жалобнае жыцьцё вясьці апроч.

Я—тая плачка сумная—бяроза,
Увосень абгалочана з лістоў,
Дрыжачая зімою ад марозаў
І ад бушуючых разьюшаных віхроў.

Я—вецер той, што сьлёзна ў сонным полі
І ў буйным лесе вые сіратой,
Начлегу не знаходзячы ніколі
З сваёю горка-жаласнай журбой.

Іду па шляху я і пазіраю,
Як сьфінкс, у сьфінксаву нямую даль,
І не знаходжу мукам сваім краю,
І сіл ня маю вырваць з сэрца жаль...

Закалыхаўся ястраб быстравокі,
Між небам і зямлёй, як лунь, завіс—
Мяне і дзень мой сочыць адзінокі,
З насьмешкай мерачы вачамі ніз.

О, каб ён вылушчыў душу мне з цела
І затрымаў на хвілю у высях,
Каб раз, адзін раз толькі паглядзела
Адтуль, з-пад сонца, на зямны свой шлях!

27 I—14 г.

## З ВЯЧЭРНІХ ДУМ.

Як нябеснае згасьне за лесам сьвятло,
А ноч крыльле распусьціць па ўсёй Беларусі,
Штось мне шэпча: ідзі! Я іду за сяло
І на ўзгорку пад крыжам паклонным саджуся.

Счараваны вячэрняй глухой цішыной,
Прыслухаюся шэпту далінаў і гораў;
Недзе-недзе губляюцца нікла са мной
Задуманыя вочы ў нязгледным прасторы.

Тонуць думы ў спакоі трывожна-сьвятым,
Над зямлёй расплываюцца з сумнай цямрыцай
Аж да высі, што макам мігціць залатым—
Міліёнамі зор без канца, без граніцы.

Ночна-сонная даль мае мову сваю,
Былі зьяўныя шорахам тайным [складае,
Песьню з небам снуе—праслаўляе зямлю;
У песьню лучыцца гэту душа маладая.

Аб квяцістым зямнога жыцьця харастве,
Аб праменьнях, што долю галубяць людзкую
І аб з сілай благою пабеднай бітве
Чую голас прарочы і ў думках мяркую...

Гледзячы, як загон наш калосьсямі сьпеў,
А сявец яго радасна з сонцам сваіўся,
Песьню далі і неба так сама я пеў,
А калі?.. Знаць, тады, як яшчэ не радзіўся!..

6/VII—13 г.

## НА ВУЛІЦЫ.

Блудзіў па вуліцы я тэй, дзе сустрачаў яе,
Яе—ня ўцямлю—шчасьце ці сваё няшчасьце...
Час быў такі, калі ўжо першы певень устае,
А злодзей сьмела з ложа выпаўзае красьці.

Па небе месяц бледны, як нябошчыкавы твар,
З-над воблакаў сьцікаўся, быццам-бы ён шляху
Свайго ня мог знайці паміж расплаканых там хмар,
Ці, каб стуль не зваліцца, блукаўся так з страху.

Паволі горад на сябе ўскладаў аковы сну,
Сьвятло ў вакнох адно ўсьлед за адным канала;
Дзе-не-дзе ржавы ключ пужаў скрыготам цішыну
Ды спозьнена павозка дзіка ляскатала.

У дроце, што паміж слупамі віўся густа ўдоўж,
Як-бы напяты былі там людзкія жылы,
Гудзеў, заводзіў вецер, бы па дроце рэзаў нож;
Як вісельнік, выў, вырваўшыся з-пад магілы.

Здалёку, ад чыгункі данасіўся сьвіст—выцьцё,
Ўпіваючыся ў сэрца вытачанай стальлю,
Як-бы з тым сьвістам адлятала шчасьце і жыцьцё,
Ці гінуў нехта наймілейшы там—за дальлю.

Аб сьцены рэха стукалася ад хадзьбы маей,—
Цагляны мур сачыў за мною бязупыну;
Цень ад лятарняў мой усё то даўжэй, то карацей
Выцягваўся, дваіўся, то зусім дзесь гінуў.

Лічыў за крокам крок я й пазіраў ўвакруг, як здань,
На заміраючы да заўтра горад грэшны,
І чуўся я, як здрадай схопленая ў клетку лань,—
Такі бясьсільны, пазабыты, бязуцешны!

За думкай думка жалам сьвідравала галаву:
Што ёсьць, няма,—судзіў суды і перасуды,
І думаў усё: зашто, пашто сябе на часьці рву,
Калі за гэта маю толькі камняў груды?

Так сноўдаўся па вуліцы і самзгараў ў сабе...
...Іду і чую: туж з-за муру, ў сутарэньні
Рагоча музыка, як сумашэдшая ў кляцьбе,
Пад музыку—бражджаньне ног, грудзей хрыпеньне...

І жутка стала!.. Ёсьць-жа яшчэ людзі на зямлі,
Што могуць дзіч сабой зьмяніць і весяліцца,
Ня бачачы сваіх бяспутнасьцяў, што іх змаглі
І душаць адусюль, як зьмеяў навальніца!

З нявольніцай нявольнік тут танцуе на забой,
Пад зьдзекам рабскія свае сагнуўшы шыі,
А там, на акрываўленых палёх крывёй людзкой,
Нявольнік для нявольніка грабніцу рые.

Стыд спанаваў мяне, што я на вуліцы тэй быў,
І аддаваўся нейкай візьі ўсёй душою,—
Тым горкім думам аб сабе і сэрцу тым, на зьдзіў
Так заўладаўшым маім сэрцам-сіратою.

15/II—15 г.

## ВЕЧАР.

Мой вечар, знаю, блізка, недалёка—
Ёсьць раніца—павінны й вечар быць,

Але ня счэзну я з-пад долі вока—
Дзень, вечар, ноч, а трэба, буду жыць.

Зямлі і сонцу нізка пакланюся—
Я сын зямлі, і сонца вольны сын!

Як з братам, з ветрам шчыра абыймуся—
Я—ветру, а мне вецер друг адзін.

Сум вечны пасаджу свой на пасадзе—
Ён заслужыў даўно ў мяне на трон,—

Ўзлажу карону з сьлёз яму ў парадзе—
Така карона ўсіх важней карон.

Слугой яму прызначу адзіноту—
Яна сама вярнейша з слуг,—бяз здрад;

Асьветлю хорам сваіх дум яснотай—
Дум шмат я маю, ах, як шмат, як шмат!

Душы дам волю, заручуся з песьняй—
Душа і песьня—сьвет мой, скарбы ўсе мае...

Хай раніца жыцьця майго ускрэсьне,
Хай вечар мне жыцьця ноч дапяе!

4/II.—15 г.

## МОЙ ЦЕНЬ.

Як прыйдзе дзень майго збаўленьня,
З крывавых церняў вызваленьне,—
А веру, прыйдзе гэткі дзень,—
З імглы адвечнасьці паўстане
І крыжам стане на кургане
Майго жыцьця бяссьмертны цень.

Бяз воч, бяз косьці, жыл і сэрца,
Сам крыж, на крыж ён абапрэцца,
І, ўвесь удумаўшыся ў даль,
Сачыць пачне ўвесь ад пачатку
Мой шлях, якім шоў дааста́тку,
Які мне толькі кінуў жаль.

Сачыці будзе, як арліца
Дабычу сочыць над крыніцай,
Чаму з жыцьцём ня ўмеў я жыць;
І наракаць, клясьці ня будзе,
Што я, што мне зрабілі людзі,
Ня будзе плакаць ён і выць.

Ня будзе нават уздыхаці,—
Адно мо' вырвецца пракляцьце,
Якім я жыў ад малку лет,
Адно сам аб сабе цень скажа
Крыжом, адвечнай сваёй стражы:
Каб не радзіўся лепш на сьвет!..

Еврейский Педагогический Техникум

## НАШТО?

Нашто губляць парывы чыстыя
Таёмных дум сваіх, сваёй душы
Для тых, што стопчуць іх бязьлітасна,
Ці высмакчуць з цябе іх, як вужы?

Нашто трывожыць сэрца беднае,
Жаданьнем ласк, сардэчнага цяпла?—
Усё роўна збэсьцяць тваё сэрцэйка,
Сьвятое вырвуць з яго ўсё да тла.

Нашто, як жабраку, вымаліваць
Усё тое, што ты заслужыў жыцьцём?..
Знай, доля к тым не прысуседзіцца,
Хто жабрані́наймоніць дзень за днём.

Ідзі праз сьвет з вачмі адкрытымі,
У грудзёх гадуй, як сталь, і моц і гарт,
Глядзі ўвакруг свабодным сокалам,
І крэпка знай, чаго ты ў сьвеце варт!

Не паніжай сам духа вольнага
І ў паніжэньне іншым не давай;
Над рабскаю таўпой асьлепленай,
Над злом зямлі у высь, да зор сягай!

15/II—15 г.

## СЬМЕЙСЯ!..

Ха-ха-ха-ха! Будзь весел, кінь хныкаць,
Уцішца кроўю сваёй не спадзейся!
Можаш сэрца рваць, выць і клікаць,—
Можаш з сэрца свайго молат выкуць,
Толькі ўдарыць ня сьмей ім, а сьмейся!

Сьмейся сьмехам-сычэньнем праз скрогат
Перадсьмертны зубоў і расьсейся
У гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат!
Каб аж косьці ўстрасаў дзікі дрогат,—
На пацеху сьляпой дзічы, сьмейся!

*

Вырывай з сябе жылу па жыле,
Ві ў вяроўку, ў пятлю і павесься,
І пакуль у зямлю не зарылі,
Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі,—
На сваіх вісі жылах і сьмейся!

Сьмейся сьмехам - скавытам вядзьмачым,
У віхровым пасьвісьце разьвейся,
І над сьветам разьюшаным, сьпячым,
Над жывымі трупамі і плачам
Ты лунай, вочы рві сабе... й сьмейся!

*

Ха-ха-ха-ха! Душу сваю выні,
Палажы на далонь і надзейся,
Што паверацъ табе, што ня згіне
Уся прысяга твая ў чорнай ціне
Перасудаў людзкіх... Ха-ха! сьмейся!

Сьмейся сьмехам-хрыпеньнем быдляці
З перарэзаным горлам і грэйся
У гэтым храпе скрозь стогн і пракляцьце,
І не важся да сэрца ўздыхаці,
Ласкі ждаць... Хоць крывёю, а сьмейся!

3/1—15 г.

## У БЯССОНУЮ НОЧ.

Ах, як страшна мне гэта бязсонная ноч!
Колькі мукі, цярпеньня прыносіць з сабой!
Я змагаюся з ёй, ад сябе ганю проч,
Дый самлела ўпадаю з сваёй барацьбой.

Разарваў-бы, здаецца, я грудзі свае,
Сэрца-б вырваў і кінуў на уцеху ўрагом...
Дайце сьмерць, хай ня чую, што ноч мне пяе!
Дайце сілы!.. О, Божа! Нікога кругом!

Ах! што гэта?—Раскрылася неба й зямля,
Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну,

Здань за зданьню паўзе, кожна здань—як зьмяя,
Тая прэцца уверх, тая цісьнецца к дну.

Абняліся з сабой у шалёну гульню,
Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым...
Гэй, дружкі, што сьпіцё? Дайце жыва агню!..
Скуль іх столькі ўзяло, што їм трэба усім?

Путы звонка бражджаць і ўгары, і ўнізу,
Жутка вісельні граюць, сьлізгоча пятля;
Той аблїўся крывёй, той сьцірае сьлязу...
Што за людзі—зьвяр'ё?! Ах, якая сям'я!

Мілы братка ты мой, ці ты жыў, ці памёр?
Што так плечы сагнуў, як нявольнік дрыжыш?
Грудзі ўпалі твае, рукі цягнеш да зор,
Над табой, прад табой, ах, які чорны крыж!

Служка польскага пана, твой брат і мой брат,
З бізуном над табою, як кат той стаіць...
Божа праведны, Божа! над братам, брат—кат!..
І за што-ж катам той, а той гэтак цярпіць?

А што тут? Разам тут і дзяўчынка-краса...
Я галубіў калісь... Твар чаму твой бляды?
Пакрываўлены грудзі, зблытана каса...
І чаго-ж, і зашто ты папала сюды?

Брат, поэт! і ты тут—як быдлё, ў ланцугох...
Дзе свабодны твой дух, што ня рвеш ты кайдан?
Божа! Золата йскрыцца ў кастлявых руках...
Песьняй роднай таргуе, як коньмі цыган.

Адбіваючы тут-жа паклоны плашмя,
Нейкі нехрысьць крапідлам махае, пяе
Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя,
І за золата гэта імя прадае...

І там здань і тут здань, закружыліся ў круг,
Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў,
Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг,
Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.

Цень пры цені, над ценьмі той крыж у крыві,
Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі,
Як-бы змора вісіць... Стогн адно: не даві!
Ня губі, да Хрыста сьцежку дай, данясі!..

Разыграліся гурмай за зданяю здань,
Як вужакі ў гаршку мятусяцца яны,
Песьню выюць хаўтурна: ты ляж, а ты ўстань!..
Здалі чутна, павоўчаму выюць званы.

І пачатку няма і канца ім няма!..
Ці тут ява, ці сон?., Проч вы, здраднікі, проч!
Ах, скарэй-бы дзень вечны, ці вечная цьма!
Яна згубіць мяне, бессанлівая ноч!

20/VI—13 г.

## ЎВЕСЬ ДА ДНА...

Ўвесь да дна трэба выпіць свой келіх жыцьця,
Ці з вадой жыватворчай, ці з ядам;
З роўнай меркай чакаць вечнаты й нябыцьця,
Заадно абыймацца з анёлам і гадам.

Не мяркуйся свой быт давясьці да канца,
Ня скрывіўшы ні каплі душою,—
Не сягоньня, то заўтра ўпрагуць малайца,
Запішчыш і здружышся з таўпою.

Днём з агнём не задумай ты праўду знайці,
Паспытаць, што за смак гэтай праўды,—
Бо што зробіш, як знойдзеш, ты з ёю ў жыцьці?
Сам спужаешся гэтакай знайды!

Хтось там скажа, што церні на шляху ляглі,
Што сіротам дзьме вецер у вочы,—
Ну, дык будзь цернем сам, будзь сын верны зямлі,
Віхрам будзь і бушуй сярод ночы!

Кажуць, кветку стаптала быдляча нага...
Няхай топча, і ты рабі тое;

Сам Анцыхрыст ня пойме, што нельга, што льга...
    Ты ня стопчаш—цябе стопчуць ўдвое.

Мо' захочацца сэрца, каханьня, пяшчот...
    Плюй, бо йнакш аплююць і самога.
Ліжы золату рукі і карк гні, як скот,—
    Купіш ўсё: сястру, брата і бога.

З сонцам, з зорамі ўздумаеш збратацца, жыць,
    Вольнай птушкай лунаці па сьвеце...
Сьмейся!.. Лепш вось старайся ты з катам здружыць,
    Калі горшых ня хочаш пут меці.

Бачыш, косьці па полі зьбірае груган,
    І твае так калісь зьбіраць будзе...
Дык жыві-ж з сабой сам ці цьвярозы, ці п'ян,
    І з людзьмі так жыві, як і людзі.

Ўвесь да дна выпівай чорны келіх жыцьця,
    Ці з вадой жыватворчай, ці з ядам;
З роўнай меркай чакай вечнаты й нябыцьця,
    Заадно абыймайся з анёлам і гадам.

4/п—15

## БЛІЗКІМ І ДАЛЁКІМ.

Вам, цемратворцам блізкім, далёкім,
Шлю свой прывет і ласку ад сэрца;
Дзякуй шлю вам, шмялём сьлепавокім,
Дзякуй! хай далей моц ваша прэцца!

Піце, смакчыце кроў маю з жылаў,
Будзе хай сьлюням, піяўкам завідна,
Рыйце, капайце брату магілу,—
Вам толькі гэткай працы нястыдна!

Можаце рыці, віцца, кусацца,—
Мне ўжо ня страшны рык ваш зьвярыны;
Вырвіце жылы, сэрца ня дасца,
З вашай крывавай вырвецца ціны.

Мне ўжо нястрашны крыўды аковы:
Любасьці братняй ясным пажарам
Кіну у попел цемры асновы
Гніць пад нагамі лозным папарам!

Жыў і бяз вас я, жыў і між вамі,
Толькі як воблак быў я свабодны,
Спутаць ня даўя дум ланцугамі.
Не аплуціў іх сьвіст ваш нязводны.

Дух мой свабодна з вашых цянётаў
Выйці здалее к яснасьці божай.
Не апаганен выйдзе з балота.
Далей, к высотам, шлях свой пралажа;

Далей, дзе йшчэ беларуская думка
Зоркаў сягнуці часу ня мела,
Дзе толькі злосна чорны птах крумкаў,
Дзе хітры зьвер панюшыўся сьмела.

Дзе торг з адвечнай праўды зрабілі,
Сьлёзамі ўткалі радасьць і шчасьце,
Дзе толькі сонца звод не асіліў...
...Сонца ня вашай чэрні раскрасьці!

Славу маю ня вам, падваротні,
З гразьзю мяшаці хлысьцьбай падлыжнай,—
Сам я судзьдзёю! І прышлых лет сотні
Выдадуць суд свой правы, ня кніжны.

Вы мне маіх год не гадавалі.—
Летаваў сам я, зімку праводзіў;
Віхры і буры сілу давалі,
Крыльле даў новы промень на ўсходзе.

А хоць бяз часу ўдасца вам нетрай
Вычасаць гроб мне, косьці скрышыці,
Я не памру ўвесь, як ня мруць ветры,—
Будзе пракляцьце вам усім жыці.

Цень з таго сьвету ўстане мо' ноччу,
Прыдзе пад вашы сховы гнілыя
І засьмяецца грозна у вочы,
Аж ваша хэўра гібельна ўзвые.—

12/VII—11 г.

## МАЯ ВЕРА.

Ня веру ідалам паганым,
Што выразаюць разьбяры,
Баж кам ня веру маляваным,
Што мажуць фарбай маляры.

Ня веру купленым прарокам,
Што з казальніц за грошы лгуць
І сочаць прагавітым вокам,
Скуль больш чырвонцаў ім нясуць.

Ня веру ў фокусьнікаў цуды
Усіх народаў і вякоў,
Што ўход пускаюць хітра ўсюды
Туман на цёмных сьлепакоў.

Ня веру ў каменны багоўні,
Ў людзкой асьвенчаны крыві,
Дзе толькі вяжуць, бы ў прыгоне,
Жывому духу ланцугі.

Ні за якую плату, меру
Ня дамся гэтай варажбе...
Ў народ і край свой толькі веру
І веру ў самага сябе.

## ПЕСЬНЯЙ ТОЛЬКІ.

Песьняй толькі на сьвеце жыву я,
Праз яе тапчу толькі расу;
Пасьцігаю, як ёй запаную,
Недасьціглую быту красу.

Са сьвятламі бязьмежна ўсясьвету,
Як сьвятло сам. лунае мой дух;
Аглядаю міры, як у сьне тым,
І жыцьцё абыймаю ўвакруг.

Над душамі, што шчасьця даўно весьць
Загубілі з адвечных нягод,
Я тварыў-бы нягадану повесьць
Вечных радасьцяў, вечных яснот.

Пяруны залатыя хапаў-бы,
Што у хмарах бушуюць агнём,
І страламі народны дух слабы
Развагняў, патрасаў-бы, як гром.

Млечны шлях, што нябесны дзядзінец
Засьцілаець, я-б зьняў на зямлю
І масьціў-бы ім новы гасьцінец
Цераз родную ніву сваю.

Сонца ўзяўшы агністае ў рукі,
Што гарыць над бязьмерам палёў,
Я па млечным тым шляху бяз мукі
Чалавека да шчасьця-бы вёў.

Гэтак песьняй мой дух маладзіцца,
І на сьвеце жыву толькі ёй,
Хоць пішу кроўю гэты страніцы,
З свайго сэрца гарачай крывёй.

20/VII—13 г

## ПЕРШЫЯ ПЕСЬНІ.

Першыя песьні—першыя чуткі
Шчасьце зазнаці хаценкі нясьмелай,
Першыя думкі вольнай мінуткі
Птушкамі вымкнуць на сьвет гэты белы.

Што іх чакае, што іх спаткае,
Чым блаславяць маладога музыку:

Ці прыгалубіць ласка людзкая,
Ці заплююць яго сьмехам, прытыкай?

Грошы за песьню рэдка хто плаце,
Часта абкінуць нямілым паглёдам;
Песьня паэту ўсё тут багацьце,—
Цешыцца, плача ў песьні з народам.

Што людзі скажуць, што зробяць з песьняй,—
Бог з іхнім судам, насьмешкай, пахвалай!
Зганяць—дык будзе трохі балесьне,
Выхваляць—шчасьце хоць раз-бы спаткала.

Вечна рвучыся думкай да сонца,
Кепска нікому ня думаў ніколі,
А калі й кінуў лішняе слоўца,—
Гэта знак толькі жыцьця ў нядолі.

Сьмерць пяўца возьме мо' і сягоньня,
Чорнай зямелькай накрыюць павекі,
Песьня жыць будзе, ў магіле ня ўтоне,
Блага, ці добра—жыць будзе навекі!

1906 г.

## ПЕСЬНЯ.

Як крыніца, льецца, рвецца
З сэрца песьня ў сьвет, за сьветы;
Сьветла йскрыцца, рэхам прэцца,
Тутка, тамка, дзе я, дзе ты...

Скрозь гамоніць, звоніць звонка
З сэрца ў сэрца б'е, ірдзіцца,
То ўжо ў хаце, то ўжо вонках
Маладзіцца маладзіцай.

Скочыць к сонэйку, ўсхахоча,
Пацалуецца лісьліва;
Ясну-месячыку ў вочы
Зірка не тугой тужлівай.

Стрэціць зорку-заранiцу,
Прасьлязіцца з ёй сьлязою.
І сплыве ўплаў на зямліцу,
Разаўецца дзермязою.

Ў полі здольна з ветрам разам
Зажартуе, ў танок сходзе,
Згодна з борам важным сказам
Завурчыць аб непагодзе.
Ў лесе лісьцем зашалесьце,
З птушкай птушкай зашчабеча;
Па пуціне кіне весьці
Суму, шчасьця хаце нейчай.

І лунае, так лунае
Гэта песьня па ўсім сьвеце.
Плоту, путаў ані знае
Ад сталецьця да сталецьця!

29/x—18 г.

## МУСІЦЬ ТРЭБА БЫЛО.

*Пасьвячаю Вл. Станкевічанцы.*

Ці на небе ня мільён зорак льсьніць!
Кожна зорка дзесь кагось весяліць.
Толькі-ж месца там ня стала
Для аднэй, што мне-б міргала...
Мусіць трэба было!

Ці-то мала ўдоўж і ўшыр вырас сьвет?—
Для ўсіх даў ён і прыпын і прывет.
А я век, як тое зданьне,
Не знайшоў сабе прыстаньня...
Мусіць трэба было!

Ці дарожак і на захад і ўсход
Легла мала на зямлі з году ў год?
Бо сьлед к шчасьцю на ўсім сьвеце
Ня судзіў мне Бог сустрэці.
Мусіць трэба было!

Ці-то вецер толькі ў волі жыве—
Дзе захоча і ляціць і плыве?
Я-ж куды не пасуліўся,
Ўсюды ў путах толькі віўся...
Мусіць трэба было!

Ці зямелька не гадуе людзей,—
Ці ў іх сэрца ястраб выпіў з грудзей?
Бо дзе з сэрцам не зьвяртаўся—
Я на камень натыкаўся...
Мусіць трэба было!

Ці дзявочы ручкі зьвялі ў бядзе?
Ці-ж нікога не галубяць нідзе?—
Каб я лёг і ў дамавіне—
Воч ніхто мне не зачыне...
Мусіць трэба ўжо так!

## ДАЙЦЕ МНЕ...

Дайце мне волю, дайце арлінуую,
Вырвіце з путаў, аковаў!
Душу напасьціць перад скончынаю
Дайце шчасьлівасьці новай!

Дайце мне долю, дайце багатую,
Вызвальце з горасьці чорнай;
Дайце пацесе ў хаце, за хатаю
Быці ўва ўсім мне пакорнай!

Дайце мне сонца, сонца агнёвае,
Выведзьце з цёмнасьці ночнай;
К знаньню, к навуцы сьцежкі шчасьлівыя
Мне пакажыце нязбочна!

Дайце мне праўду дня ясьней яснага,
Дайце прасьветласьці божай;
Выражце з сэрца, сэрца няшчаснага
Ўсё то, што мучыць, трывожа!

1907 г.

## ДУМКА.

Покуль старасьць неўдалая
Костак з ног ня вале,—
Рвіся, думка маладая.
Туды, вышай, далей!

К тaей праўдзе ненапраснай,
К шчасьцю і свабодзе,
Рвіся, покуль будзе ясна,
Покуль будзе годзе.

Гарапашна, непрасьветна
І ў душы і ў хаце,—
Стане горай няпрыветна,
Калі будзем спаці.

Дык жывучы скокам-бокам,
Покуль сэрца точыш,
Рвіся, думка, ненарокам,—
Знойдзеш, што захочаш!

## КУДЫ НЕ ЎЦЯКАЮ...

Куды не ўцякаю
Ад долі сваей,
Усюды спаткаю—
Раней, ці пазьней.

Надзеі ўсе скруціць,
Засьвішча бядой,
І сэрца засмуціць,
І ліне сьлязой.

Магільную песьню
Ў душы запяе,
Нашле нуды плесьню
На думкі мае.

І б'юся-ж напрасна,
Як рыба аб лёд,
Ад долі няшчаснай
Няма мне варот!

1906 г.

## Я КАЗАК—НЕ КАЗАК...

Я казак—не казак,
Што нагайкай сьвісьціць,
А казак, што калісь
Знаў, як волю любіць!

Што гуляў за Дняпром
Ад зары да зары,
Ў вольнай Сечы грымеў,
Як парогі ў Дняпры.

Што на бел-сьвет сьпяваў
Песьні з поўных грудзей
І гасьцінна прымаў
З сьвету вольных людзей.

Што умеў пастаяць—
Палящець у паход—
І за волю сваю,
І за ўвесь бедны род.

Што кароны пікой
І пасады ўстрасаў,
А законы крывёй
Самаўладцам пісаў!

7/VII—11 г.

## Я І ВОЛЯ МАЯ.

Мы радзіліся на сьвет—
Я і воля мая;
Шчыра нас прыняла
Ўся людзкая сям'я.

Мы расьлі у дваём—
Я і воля мая;
Небу міла было,
Мела радасьць зямля.

Мы жывём удваём—
Я і воля мая;
Воля песьні пяе,
Разумею іх я.

Толькі ўмром не ўдваём—
Я і воля мая:
Я памру,—воля век
Не пакіне жыцьця!

1909 г.

## МАЯ НАВУКА.

Мне мудрасьці кніжнай ня даў Бог пазнаці,
Мой бацька ня мог даць раскошаў такіх—
Наўчыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх бяз школы і кніг.

Ад самай красы маіх дзён невясёлых
Настаўнікам быў беларускі абшар;
Усходы палеткаў і гоманы ў сёлах
Навуку сваю мне прыносілі ў дар.

Душу акрылялі прыгожасьці сьвету,
Па гонях пад небам лунала яна,
Купалася ў сонцы вясёлкай расьпетай,
Сама, як вясёлка, як казка-вясна.

І п'яная чарамі, п'яная песьняй,
Як сон заварожаны райскіх мясьцін,
Шаптала мне дзівы цьвітучых прадвесьняў
І песьняй лілася з паходам часін.

Бурлівая рэчка і млын гутарлівы
Адмерным, раскоцістым плюскатам вод
Складалі мне рытму мастацкія зьвівы,
Парадквалі складаў раскоцісты ход.

Цяністыя бітага шляху прысады
І, ў вырай лятучыя, гусяў шнуры

Гармонію ўводзілі ў песельным складу,
Сачылі нязгоднай зваротак ігры.

Зялёнае поле рунеючым збожжам,
Цьвітучая ў сонечны цьвет сенажаць
Мне песьню квяцілі узорам прыгожым.
Вучылі, як словы ў вянок завіваць.

Ад шопату сьпелых пшанічных калосьсяў,
Ад шэлесту лісьцяў узьмежных ігруш
Музычнае водгульле ў песьню лілося,
Зьлівалася з жальбамі скрыўджаных душ.

Шум бору адвечнага казкавым сказам
Нашэптываў смутную повесьць жыцьця
І песьню ў шум-гоман захопліваў разам,
Заснуўшыя думы будзіў з нябыцьця.

А сонца, скрозь сеючы іскры па сьвеце,
Мне песьню іскрыла нябесным сьвятлом,
А вецер, што ў полі рве дзёрны і сеці,
Даў волю і крыльле лунаці арлом.

Каса і сякера, і цэп малацьбітны
Магутную волатаў сілу далі;
Марозы і сьпекі далі гарт нязбытны—
Мне песьню, як звон, як пярун адлілі.

Так іншай ня знаўшы навукі і школы,
Ў пацёмках шукаў і знайшоў божы дар;
Цяпер маймі скарбамі—думы-саколы,
Цяпер беларускай я песьні ўладар.

1919 г.

## ЯНАІЯ.

### I. СТРЭЧА.

На крыжавых пуцінах з ёй сустрэўся—
Куды ісьці, ня ведала яна,
І я ня ведаў—ў полі я ці ў лесе,
І мне ляжала сьцежка не адна.

Як путнікі заблуканыя ўночы,
Стаялі мы пад труднай ношкай дум;
Адно другому пазіралі ў вочы
І слухам клікалі найменшы шум.

Стаялі мы. Нявіданыя дзівы
Нас абымалі крыльлямі сваймі,
Шапталі мне: вазьмі яе, шчасьлівы!
Шапталі ёй: сабе яго вазьмі!

І рукі злучывалі нам навекі,
Багаслаўленьне далі нам сваё
Ісьці у сьвет праз горы, долы, рэкі,
Ісьці супольна праз усё жыцьцё.

Вясельны гымн, як плачкі, нам запелі
І заракалі крыльлямі зарок—
Над ёй, заручанай, у шлюбнай белі,
І нада мной, ахутаным у мрок.

А каб вас злыя не змаглі заломы!
А каб ня зналі душы вашы ран!
А каб вас не кранулі буры, громы!
А каб к сабе ня звабіў вас курган!

Такія клалі дзівы нам зарокі
Мядовых асалод, квяпчаных крас,
І расплыліся, як сон ветру лёгкі,
Нас кінуўшы ў благі ці ў добры час.

І мы пашлі, як тыя цені-мары,
Няспынна ад расы і да расы;
Запаланелі нам бліскучыя пажары,
Закуранелі чорныя лясы.

## 2. У ХАЦЕ.

У хаце ўжо маёй будзь гаспадыняй,—
Няма ў мяне нікога проч цябе.
Сядзь на пачэсны кут, мая багіня,
I будзем думы думаць аб сабе.

Палац мой, бачыш, хоць і небагаты,
Але я сам яго узбудаваў,
Сам сьцены вывеў, клаў на кроквы латы
I сам пад стрых саломай пакрываў.

Ня выбіты атласам сьцены, лавы.
Падлога не заслана дываном
Турэцкім, што сваёй красой яскравай
Гарыць, зіяе, як той жар агнём.

Над печкай, што стаіць каля парога.
Не працавалі мудры рэзьбяры,
Сам з гліны зьбіў яе й з пяску сырога,
Ды вапнай пабяліў разы са тры.

Вось ложак зроблены маёй рукою,
З смалістай сосны дошкі выслаў ў ім;
Пасьцель пуховую пасьцелем мы з табою,
Каб мягка спаць было нам абаім.

У ночнай цішы, ў любым упаеньні,
У патаеньні ад жыцьця, людзей,
Агонь душу і сэрца распрамене,
Агонь гарачых, злучаных грудзей.

I многацьветныя акружаць нас вясёлкі,
Маланкі залатыя замігцяць,
А думкі нашы, верныя саколкі,
Да неба з добрай весткай паляцяць.

Так мілаваньне к шчасьцю сьлед атчыне,
А мілаваньне—над царамі цар,—
I будзеш век маёй ты гаспадыняй,
А я твой вечна буду гаспадар.

## 3. ПРАТАЛІНЫ.

Ўжо на зямлю ляглі праталіны,
Сьнягоў спаўзае зімавая бель,
Узгоркі сьвецяць—як апалены,
Вада ў лагчынах жаліцца, як шмель.

Дзе-не-дзе глянула нясьмелая
Пралеска вочкамі на божы двор.—
Людзкіх сьлёз кветка сіня-белая
Шукае сонца днём, а ночкай—зор.

Крылатыя стварэньні з выраю
Па млечнаму пуці плывуць, як шнур,
І творачы малітву шчырую,
Сваіх шукаюць кінутых пячур.

Спагаднае сьвятло нябеснае
На колькі вёрст зьвялічыла свой шлях,
Па нівах промені пачэсныя,
Як лён той, сьцелюцца ў жывых агнях.

І ў хатку заглядаюць промені—
Дармо што нізкія ваконцы ў ёй,—
Гуляюць радасна па коміне
Бліскучай і вясёлаю сям'ёй.

Па ложку, па пасьцелі ласяцца,
Цалуючы яе і мой гарачы твар,
Як тыя ветрыкі на пасецы,
Гуляючы ў пякучы летні сквар.

Устань, галубачка бяскрылая,
Заспаны зоры-вочанькі пратры,
Зьбяромся з думкамі і з сілаю
Жыцьця парадак валачы стары!

Праталіна лягла на гонейка,
Збудзілася пралесачка ад сна...
Устань, устань, маё ты сонейка!
Залатаструнна йграе ўжо вясна.

## 4. ЗА КРОСНАМІ

За кросны ненаглядная сесьці трэ' было,
Ядваб-кужэль сівенькі ткаць,
Але да гэтага прыладаў не было.—
Прылады стаў я майстраваць.

З бярозы вычасаў ставы ёй новыя.
Набіліцы кляновыя зрабіў,
А панажы выстругаваў кляновыя.
Навой, як трэба, зарубіў.

Узяўшы дзічку-яблыню крамнястую.
Стругаў чаўнок гладзей ад шкла.
Купіў на рынку берда густа-частае.
Ніты сама яна спляла.

Садзіцца маё сэрца-ткаля ў кросенкі.
Набіліцамі громка б'е,
Кладуцца ўтоку гусьценька палосанькі.
Сучу я цэўкі для яе.

Так шчыра з ёю ўзяліся да рэчы мы;
Яна ўсё тчэ, а я сучу,
І ўкрадкаю любуюсь яе плечамі,
За белымі грудзьмі сачу.

Тчы мая, ткаля! Кроў твая ўзыгралася;
Маланкай гойсае чаўнок.
О, каб хаця аснова ўжо ня рвалася!
Каб моцны й спорны быў уток!

Няхай ад берда часта ўток калоціцца,
Кладзе шырокі гладкі сьцяг.
А доўгі—як рака, што ў мора коціцца,
Як між прысад гасьцінец-шлях.

Каб сьцежка, коцячыся, палатняная,
Дзе парастае дзівасіл,
Дайшла ў старонку знаную-нязнаную,
Туды, да бацькаўскіх магіл.

## 5. ВЫГАН У ПОЛЕ ЖЫВЁЛЫ.

Спаўзьлі з загонаў зімнія сьнягі
І ў мора паплылі ракой-вадзіцай,
Запелі жаўранкі. І чорныя лугі
Ўсьмяхацца сталі першаю травіцай.

У поле статак выганяць пара.
Кароўку маем мы—завецца Аўтарыняй,—
Багацьце кожнага гаспадара,
Скарб і пацеха кожнай гаспадыні.

«Мая» ня выгнала яе за край
Платоў, на пашу дзе яна хадзіла,
Пакуль таго, што вучыць абычай,
Над ёй сваёй рукою ня ўчыніла.

Сьвянцоным хлебам, сольлю і вадой
Абнесла навакол яе тры разы,
Паставіла да сонца галавой
І загавор чыніла ад заразы.

Ў крыніцы тры разы кусочак шкла
Скупала, і перад вачмі кароўкі
Трымаючы, шаптала, як з мала,
Такія мудры заклінаньня слоўкі:

«Ты, ясна сонца, месяц, ясен сьвет,
І вы, на небе часьценькія зоры,
Вы ўсе, што кропіце расою цьвет,
І асьвятляеце сушу і моры,—

Зямлю агрэйце, вырасьцьце траву,
Не пашкадуйце есьць і піць жывінам,
Шаўковую сьцяліце мураву,
Абгарадзіце жалязяным тынам.

Вартуйце, сьцеражыце ад цара
Ляснога, палявога, вадзянога,
Ад царанят яго, ад упыра
І ад людзкога вока нялюдзкога!»

### 6. Агляд поля.

Вялікі сьвет!. Ня згледзець тых абшараў.
Што прадзеды пакінулі і нам:
Дзе лес, дзе лозы. дзе ляжаць папары,
Дзе рунь абходзіць ўжо на хлеб людзям.

Сягоньня, мілая, быць хочу я з табою,—
Дык ручку на плячо мне палажы,
Я стан твой атулю рукою
І ў поле пойдзем, пойдзем пад крыжы.

Як дзеці, пазабытыя тым сьветам,
Свае палеткі будзем аглядаць
І, пад загонам седзячы сагрэтым,
Пачнем аб жніве будучым гадаць.

Багата мы з табою маем гоняў,
Ў пару абсеяць, зжаці толькі-б іх,
Ды ў добры час зложыць у застароньне
Сям'ю снапкоў пасьпелых, залатых.

Так, станам песьцячысь яе прыгожым,
Ідзём, ідзём з загона на загон,
Дзе перш араць, дзе сеяць перш—варожым—
З надзеяй дачакаць нядзельных дзён.

Абняўшыся пад крыжам адным селі,
З бакоў стаяў другі і трэці крыж,
З крыжамі мы, як зданьні, ў сьвет глядзелі,
І душы нашы ўзносіліся ўзвыш.

Мы блаславілі неба воблік сіні,
Што нашы думкі ўзносіў да сябе,
І ў думках кланяліся той часіне,
Што нас злучала ў шчасьці і ў жальбе.

Жыцьцё, зямлю і сонца блаславілі,
Старыя грушы, вербы на мяжы,
А праклінаглі толькі скону хвілі
І тыя вечныя па нас крыжы.

### 7. РАДАЎНІЦА.

На Радаўніцу мы на могілкі пайшлі,
Сьвянцонага з сабой астаткі ўзяўшы,
Як гэта з давен-даўна на нашай зямлі
Дзяды і прадзеды рабілі нашы.

Маніліся нябошчыкаў адведаць мы.
На могілкі народу шмат вышлося,
І людзі сноўдаліся між крыжоў, як цьмы,
Хістаючысь, як ветрам гнутае калосьсе.

На плітах каменных парос зялёны мох,
Бярозы, хвойкі плакалі над імі,
А пасярод капліца жутка, як астрог,
На сьвет глядзела вокнамі сьляпымі.

Ля насыпу мы з мілай селі ўстаране,—
Пад насыпам тым спала яе матка,—
І прашаптала мілая схіліўшыся ка мне:
«Адзін, адзін цяпер ты ў мяне, братка?»

Як боб, буйныя сьлёзанькі з яе вачэй
Пасыпаліся на магілку градам,
Здалося мне—заплакала і неба з ей
Над гэтым здушаным зямлёю садам.

Штось сэрца сьціснула, зірнула ў дно,
І паплыла сьляза ўсьлед за сьлязою,
А думаў, што ўжо ўсе іх выліў я даўно,
Што ў сьвет гляджу ўжо зрэнкаю сухою.

Ў магілках дрэмле бацька мой і два браты.
Сясьцёр малых вямелька абымае,
А я жыву на сьвеце доляй сіраты,
Мяне зямля за нейкі грэх трымае.

Пусьціўшы гэтак сумным думам павады,
Бязьмежны жаль паплыў ў душу крыніцай,
І я так сама, як яна тады, шаптаў:
«Адна на сьвеце ты ў мяне, сястрыца!»

## 8. ВОРКА.

Саха мая зусім ужо гатова,—
Зрабіў к ёй новенькую плаху,
Нарогі павывострываў нанова,
Даў на паліцу тоўсту бляху.

Вось толькі коніка ў яе упрэгчы,
Махнуці пугаю нягрозна,
Ў загоне на рагач крывы налегчы,—
Барозна пойдзе за бароздай.

Сьняданьне зьелі з ёю у дваёчку—
Каб сыта—трудна пахваліцца,
Хлеб падзялілі разам па кусочку,
Сьцюдзёнай запілі вадзіцай.

Пашоў з сахой, пусьціў нарогі ў гоні,
Нагамі толькі конік мой цярэбе,
І сьцелецца загончык пры загоне,
Аж сонца цешыцца на небе.

Вам, людзі, што сваёй рукою белай
Зямлі ня кратаеце сэрца,
Не дагадацца цераз век свой цэлы,
Як сэрца чалавека б'ецца

Таго, які увосень, ці вясною,
Зямлі сахой чапае грудзі,
Або зярно хавае бараною,
Каб вырасла для вас-жа, людзі.

У важны час заворкаў, ці засеўкаў,
Імша абходзіцца сьвятая,
Душа сяўца лунаецца, як дрэўка,
Якому вецер ліст зрывае.

Арыце, сейце, людзі, хто што можа,
Старым ці новым абычаем!
А вашу працу доля упрыгожа
Шчасьлівым, буйным ураджаем.

### 9. БЕЛІЦЬ ПАЛАТНО.

Чачоткавы зрабіў ёй пранік ёмкі,
З'аздобамі і ручкай гладкай.
І палатно панёс з ёй да пагонкі,
Дзе сажалка была і кладка.

Усю трубу укінулі ў вадзіцу;
Яна, свой скінуўшы каптанік,
Кашулю паткасаўшы і спадніцу,
Ўзыйшла на кладку, ўзяўшы пранік.

І пярыць стала мокра палаценца,
Складаючы на кладцы ў складкі,
На ножкі пырснула і на каленцы
Вадзіца, як раса на градкі.

Распырсківаліся, як іскры, пырскі,
Мігцелі ўсюды многацьветна.
На гладзі воднай рысавалі крыскі
І ніклі ў гладзі няпрыметна.

Бліскучыя агністыя праменьні,
Купаючыся ў сажалчыным версе,
К маёй галубцы ў мёдным уміленьні
Туліліся і грэлі персі.

Так палаценца мілая бяліла
Вадзіцай, пранікам на кладцы,
Пасьля сабе на плечы узваліла
І слаць нясла на сенажатцы.

Нясла. Вада па ёй цурком сьцякала.
І на аселіцы ля плоту
Тканіну мыту распускала.
Цяперка сонца ўжо работа!

Бяліся наша палатно, бяліся,
Як дзень, як месяц бледны, бела,
Як бела малако ў глінянай місе,
Як та саломінка пасьпела!

## 10. СЯЎБА.

Ральля падсохла, мягкай стала воўнай,
Ўжо час узяцца за сявалку,
Ў зямлю зярнят насыпаць жменяй поўнай,
Як ад бацькоў наўчыўся змалку.

Ад тэй, што ад зімы засталась, часткі,
Штось кінуўшы на час нязбыты,
Адмерылі мы з ёй са дзьве шаснасткі
У мех, рукой яе пашыты.

І выйшаў сеяць я. Яна стаяла
Непадалёк мяне, на ўзьмежку;
У высях сонца золатам зіяла,
Ўнізу плыў вецер сваёй сьцежкай.

Пасыпаліся дробныя зярняты
Ў ральлю, як пацеркі янтарны
На наш загон, сахою узараны,
На мой шнурок—палетак ярны.

Яна, як ніцая бярозка тая,
Стаяла, за сяўбой сьлядзіла,
І, як-бы Багародзіца сьвятая—
Здавалася мне—блаславіла.

Лажыцеся ў ральлю, зярняткі, спаткі,
Накрыйцеся пасьцілкай-скібкай,
Пасьля збудзіцесь, выгляньце з краваткі,
Як воўна—густа, як дзень—шыбка!

Расьціце высака, расьціце буйна,
Як гэта пушча за дарогай!
Маліцеся да бела-бога чуйна,
І чорнага ня гнеўце бога!

Каб не паспалівалі вас сьпякоты,
Дажджы каб вас не пазмывалі,
Каб не пабілі грады і грымоты,
Каб вам заломаў не ламалі!

## 11. ПОЛІЦЬ АГАРОДНІНУ.

Я выган плотам гарадзіў, яна палола грады;
Благое зельле вырывала, кідала ў пасьцілку,
Дзе каліў ня было,—дасаджывала там расады,
Там прарывала, дзе ўзышло за густа праз памылку.

Чырыкалі над ёю верабейкі на чарэсьні,
Нязгледна час ад часу вецер пралятаў крылаты.
І адазвалася мая палея сумнай песьняй,
Такой, якую ў нас пяюць вясеньнім днём дзяўчаты.

*Вясьнянка.*

Ой, брала вясна у сонца ключы,
Адчыняла сырую зямельку,
Пускала на сьвет траву-мураву,
Адзявала у лісьце бярозы.

Дзе толькі ня йшла яна,—з прыпала
Густа сеяла, сеяла кветкі,
На край сьвету гнала рэчкі яна,
Птушкам волю і голас давала.

Ой, выйду я, выйду на сенажаць,
Буду віць, завіваць вяночак,
Пяяць з салавейкам буду у тахт,
Сэрцу песьняй вясну выклікаці.

Прыдзі ты ка мне. сагрэй ты мяне,
Абымі ты мяне, як друг мілы,
Пасей на душы мне долейкі мак,
А на сэрцы—пшанічку каханьня!

Каб доля, як мак цьвіце, зацьвіла,
Каб каханьне расло, як пшанічка,
Каб мілы мяне мой верна любіў
І галубіў ў сьвятліцы, як шчасьце.

Зьвінела песьня і зьлівалась з музыкаю птушак,
Бярозавыя на гасьцінцы плакалі прысады,
Заводзіў вецер, б'ючысь аб асінавы асушак...
Я выган плотам гарадзіў, яна палола грады.

## 12. ЯБЛЫНІ ЦЬВІТУЦЬ.

Яблыні цьвітуць, так хараша цьвітуць,
Як белым высыпаны пухам,
Пчолкі на цьвяткі па мёд сабе лятуць,
З вульля ў вулей нясуцца духам.

Селі з ёю мы пад яблыню ўдваіх
На траўцы сьвятачнай нядзеляй;
Сонца разьлілося ў променях сваіх,
Лісткі на яблынях зардзелі.

Вецер плыў лісткамі, песьціў, калыхаў,
Галінкамі трос, як крапілам,
Птушак жвавых шчэбет хвілі ня сьціхаў,
Кружыўся з белым кветак пылам.

Раем на зямлі выглядываў нам сад,
Я ў ім—Адам, яна ў ім—Эва;
У раі гэтым вецер быў нам бог і сват,
Вяцьвямі шлюб давала дрэва.

Птушкі ў мільён струн вясельле гралі нам,
Пасажнай маткай была пчолка,
Сонца несла ўцехі думкам і грудзям,
Пасьцелю слала нам вясёлка.

Ка́паў нам на вочы яблыневы цьвет,
На нас валіўся, як сьнег белы,
Мысьлі нашы беглі сіняй далі ўсьлед
І сьвет сабой тулілі цэлы.

Мілая! О, колькі радасьці даеш
Майму ты сэрцу маладому!
Нават ты сама таго не спазнаеш,
Які ты скарб у маім дому!

Мілая, сагрэй мяне сваймі грудзьмі!
К маім грудзям прыліпні шчыра;
Богамі хай станем мы паміж людзьмі,
Нябеснага князямі міру!

## 13. НА СЕНАЖАЦІ.

Выйшлі з ёй, дзе сенажатная краса
Зіхцела, як вясёлкі многацьветны ўзор,
Вострая яшчэ дзе не забразгала каса,
Дзе ў кветках луг ірдзеў, як неба ўноч ад зор.

Вышлі, як душы дзьве злучаны навек
Выходзяць, кінуўшы магільную жарству,
Сьветы аглядаць, якія ўзводзіць чалавек...
Прышлі мы й дзівімся такому харastву!

Краскамі ўсьміхаецца ўся сенажаць,
Гараць урочнікі, румянкі, і званкі,
Жоўтыя званцы зялёны луг жаўцяць,
На кветку з кветкі шыбка скачуць матылькі.

Рэчка бурбаліць па каменях між вольх,
Вадзіца бліскатна лялее ў бегацьбе,
Сьціха штосьці шэпча, шалясьціць трысьнёг,
А сонца сочыць у вадзе само сябе.

Кветкі з ёю рвём, вянок сабе пляце—
Карону ясна-цьвет з нявысьненай красы;
Хораша, да твару ідзе ён сіраце,
А з-пад вянка плывуць па плечах валасы.

Шчасна так, абняўшыся, ў траве плывём,
Купаюцца у кветках ногі да калень,
Шчокі, грудзі нам гарацъ, гараць агнём,
Іскрацца вочы, цела просіцца пад цень.

Сонца што раз больш у жылах кроў вагніць
Калені што раз больш ласкоча нам трава,
Блогасна аб сэрцы сэрца ў жары сьніць
Жаданьнем забыцьця п'янее галава.

Ногі падкасіліся і мне і ей,
Зьліліся вусны з вуснамі самі сабой,
Полымем прыпалі грудзі да грудзей,
Зьмяшаліся мы з сонцам, з кветкамі, з травой.

## 14. КРАСА СЬВЕТУ.

Вясна, вясна! О, колькі ў табе шчасьця!
О, колькі радасьці прыносіш ты з сабой!
Умееш ты ў душы агонь расклaсьці
І грудзі распаліць агністай барацьбой.

Сьвятлом сьвет цэлы заліла гарачым,
Раскінула з зялёнасьці жывы шацёр,
На ўсім зямлі абшары доўга-сьпячым
На сваіх кроснах выткала чароўны ўзор.

О, цешся з гэтага сама, вясна ты!
Ўжо славу бласлaвяць цяпер усе тваю—
Зямля і неба, і вецер крылаты,
І я красе тваёй сваю дань аддаю.

Гэй, ажыло зямлі старое папялішча!
Зайгралі рэчкі, плечы выраўнаваў бор,
Спраўляе птушак жвавы рой ігрышча
І падлятае з радасьцю чуць не да зор.

І думка ў высь ляціць на вольных крыльлях,
Як-бы самому богу мела расказаць
Аб тых нягаданага сьвята хвілях,
Якім вясна яе умела шчараваць.

Ляці, імчыся, думка, вышай, далей,
Як вокам стрэліць можна у блакітну даль!
Схапі стуль песьню з пяруновай сталі,
І прынясі мне волю сільную, як сталь!

Я песьняй мілую сваю праслаўлю
Паміж народамі сваіх, чужых зямель,
Каб не загінула, як кветка, у безпраўю,—
Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасьцель.

А воля мне жалезная патрэбна
За крыўды маёй мілай помстай заплаціць,
Што гаравала так яна бясхлебна,
Што ланцугамі мусіла шмат лет званіць.

21/VII—1913 г.

## ПАХАВАНЬНЕ.

Пахаваў я сярод злому
    Ў пушчы песьню аб шчасьці—
Так глыбока, скуль нікому
    І ніколі ня ўкрасьці.

А каб хто аб гэтай справе
    Не сказаў дрэнным сказам,—
Хаўтуры-памінкі справіў
    З пушчай, з ночкаю разам.

Быў і вецер на магіле
    На абрадку бядачым,
І русалкі не забылі—
    Шчырым плакалі плачам.

А цяпер адно паставіць
    Толькі памятку важну,
Каб нябошчыцу праславіць,
    Каб праславіць, як княжну.

Хай прыходзіць ка мне тая
    Чараўніца-дзяўчына,
Праз якую так спраўляў я
    Гэты сховы-ўспаміны,

І з грудзей маіх гарачых
    Няхай выдзярэ сэрца,
Ды на трох нажох стаячых
    Хай нясе і сьмяецца.

Як паложыць на магіле,
    Дзе аб шчасьці сьпіць песьня
Само сэрца ў тэй-жа хвілі
    Загарыцца, ускрэсьне.

І гарэці вечна будзе
    На тым схове-пасадзе,
І дадуцца дзіву людзі,
    Як кахаў я папраўдзе!

13/VII—15 г.

## БЫЎ ГЭТА СОН...

Быў гэта толькі сумны сон
Душы расплаканай маей,
Што сярод бледных будніх дзён
Я сьвята меў, глядзеў сьвятлей.

Быў гэта толькі сумны сон,
Што у вачох яе скрозь сьмех
Чытаў сьвяты сабе закон
Каханьня шчырага і ўцех.

Быў гэта толькі сумны сон,
Што вось інакшая яна,
І пойме болю майго стогн,
Зірне ў душу маю да дна.

Быў гэта толькі сумны сон,
Што разьвяду я з ёй бяду,
Што пад яе напеваў звон
Лягчэй к магіле дабрыду.

Усё для мяне быў гэта сон;
Хтось іншы яву меў ў жыцьці,—
Ён ёй і мне стварыў прыгон,
А сам зыйшоў, каб... ня прыйсьці!

3/і—15 г.

## Ў С П О М Н І!...

*Ўл. Станкевічанцы.*

Ўспомні, як згубіш крыльлі арліны,
Што моц у высях даюць лунаць,
І сіл ня хопіць табе, дзяўчына,
Сьвет і самую сябе змагаць!

Ўспомні, як сетку з пут павуціных
Мачыха-доля спляце у жыцьці;—
Як на растайных станеш пуцінах
І не згадаеш, кудэй пайці!

Ўспомні, як згубіш ворага й друга,—
Жыць пачнеш ценем з-пад курганоў
Бяз веры ў шчасьце, бяз верных слугаў—
Думак дзявочых, дзіцячых сноў!

Ўспомні, як ночка ляжа навокал,
Вецер засьвішча ў хаўтурны тон,
А сэрца дрогне, бы ў клетцы сокал,
І ў душы ўскрэсьне здань быўшых дзён!

Ўспомні ня ў хвілю радасьці дзіўнай,—
З іншым разьдзеліш радасьць сваю,—
І не мяне ты ўспомні, дзяўчына,—
Ўспомні, от... гэту думку маю!

13/XII—14 г.

* * *

*Ул. Станкевічанцы.*

Гэй, ты, дзяўчына, кветка-лілея,
Вольная птушка сумнай зямліцы!
Сееш ты сьлёзы. думак уроду,
Сьлёзы-брыльлянты яснай крыніцы.

Буйнай расіцай сыплюцца, льюцца,
Ніву багацяць... а што за жніва?!
Крыўда іх топча, гора марозіць,
Ведзьма-насьмешка п'е іх лаячыва.

Суд негадзівы жаласьць-гадзюка
Судзіць над шчырай сьлёзаў малітвай,
Розум бязбожны над сэрцам сьлёзаў
Поўніці чын. катъ точанай брытвай.

Зорка, што бітвы й згоды варожыць
З неба нямога гэтаму сьвету,
Толькі яна йшчэ іх не пакрыўдзіць.
Сьлёзы атуліць у промень прывету.

Ды, што плянэты гэтай аковы
Скінуў і воляй вечнай маяча,
Дух такі вольны вольнага духа
Пойме і такжа ўкрадкам заплача.

13/xii—14.

## НЯ СУДЗІЛА ДОЛЯ.

Ня судзіла ты мне, доля,
Быці рэчкай сярод скалаў,
У якой яна-бы вочкі
На паранку умывала.

Ня судзіла ты мне, доля,
Быці сонцам над крын'цай,
У якім яна-б сушыла
Ад сьлёз беленькае ліца.

Ня судзіла ты мне, доля,
Быці ветрам з-пад нябёсаў,
Аб які яна-б часала,
Заплятала свае косы.

Ня судзіла ты мне, доля,
Быці птушкай у садочку,
Да якой яна-б паслухаць
Песьню вышла з церамочку.

Ня судзіла ты мне, доля,
Хоць далёкай зоркай быць,
На яку яна-б зірнула
Мо' хоць раз, хоць раз у жыцьці.

3/i—15 г.

## А Я Н А...

Гэткім шчырым каханьнем яе атуліў,
З гэткай ласкай глядзеў ў яе сумныя вочы,—
Як і сонца ня туліць расквечаных ніў,
Як і зоры людзям ня ўглядаюцца ўночы!

Так пясьціў, так галубіў галубку, яе,
Так цяпліў сваім сэрцам сірочым ёй грудзі,—
Як і маці ня песьціць дзіцё—як спаўе,
Як і вогнішча зьзябнутых грэці ня будзе!

Столькі песень над песьнямі ёй я напеў,
Столькі думак злажыў аб ёй важных, таёмных,—
Як і бор гэтак з ветрам шумець ня шумеў,
Як і *век* гэткіх дум не зложыў для патомных!

Гэткі ў сэрцы сваім збудаваў ёй пасад
І такую ўзлажыў ёй з каханьня карону,
Як і неба з зямлёю, на божы загад,
Ня прыдбаюць такіх ні кароны, ні трону!

Так уславіў яе ў славу сонца і зор,
Так маліўся дзень, ноч к ёй мальбою нябёсаў,—
Як і мудрасьць ня ўславіць ўсясьвету прастор,
Як і каня ня моліцца ўлетку да росаў!

Утварыў з яе шчасьце з-над шчасьцяў сваё—
Чарадзейную княжну з аповесьці дзіўнай,
І пад ногі ёй кінуў жыцьцё сваё ўсё...

. . . . . . . . . . .

А яна?.. А яна была толькі... дзяўчына!..

7/v—1915.

## НОЧЦЫ.

К табе, мая ночанька цёмная,
І к вам, мае зораньки-кветкі,
З паклонам іду, няпрытомны я,
І клічу вас, клічу за сьветкі.

Пасьведчыце, як мне тут маецца
Ў маёй адзіноце, нядолі,
Як сэрца ў грудзях разрываецца,
Як плача душа без патолі.

Пасьведчыце там перад мілаю,
Як тутка па ёй я журбую...

Мо' хоць над маёю магілаю
Я вотклік ад мілай пачую.

К табе-ж, брат мой, вецер, зьвяртаюся
З закляцьцем-прысягай такою:
На сьмерць і жыцьцё прысягаюся,
На шчасьце сваё маладое:

Мілей мне яна і ад сонейка,
Мілей ад маіх сноў дзяцінных,
Ад красак квяцістага гонейка,
Ад песень вясной салаўіных.

Вось гэты заклён з загаворамі,
Ты, ветра, мой шчыры дружача,
Дамчы к маёй мілай за горамі
І кінь ёй пад ногі—хай бача!..

13/VII—15 г.

## НЕ ГЛЯДЗІ...

Не глядзі на мяне, не глядзі, адыдзі,
Не чаруй так сабой і на яве і ў сьне!
Ты сьмяешся з мяне... Дык ідзі-ж, не глядзі,
Бо замучыш, загубіш навекі мяне!

Погляд вочай тваіх душу змучыў маю,—
Праз яго я сябе не змагу аніяк:
То я рвуся к табе, то як слуп той стаю,
То жалею цябе, то кляну горка так.

Ты-ж ня любіш мяне, ты шукаеш другіх,
Туды пнешся, дзе звоняць дукаты, рублі...
А што я табе дам? я-ж бядней ад усіх,
У бадзяньні цяжкім жывучы на зямлі.

Бедзен я, дык чым я за цябе заплачу?
Знаю—мала табе душы, сэрца майго:
Ты за грошы сябе прадасі панічу,—
Будзеш ліжкай яму, будзеш жонкай яго.

Будзеш паняй ты жыць: смачна есьць, доўга спаць,
Шапкі будзе зьнімаць прад табою народ,
А я буду цярпець і свой дзень праклінаць,
Праклінаць і цябе, і твой гэты паглёд.

Дык ідзі, не глядзі! Я баюся цябе;
Не мая ты цяпер, і ня будзеш маей.
Дык ідзі, бо загубіш мяне і сябе,
Бо кіпіць мая кроў, сэрца рвецца з грудзей!

1906 г.

## У ЗЯЛЁНЫМ САДОЧКУ.

Ой. ня раз удваёчку
Пад шырокай вярбой,
У зялёным садочку,
Мы сядзелі з табой.

Друг на дружку глядзелі
Па днях цэлых, даўгіх,
Салаўі песьні пелі,
А мы слухалі іх.

Вецер шумны у поле
Песьні гэтыя нёс,
Нёс у поле, дзе воля,
Дзе няма гора, сьлёз.

І з табой мы кляліся
Дружку друг век любіць,
Хоцьбы людзі ўзяліся
Нашу любасьць згубіць.

Ой, так думкі снавалі
Залацістыя мы,
Покуль нам не сагналі
Беды гэтыя сны.

Цябе выгнала з хаты
Ведзьма-мачыха́ вон;
Мяне ўзялі ў салдаты,
У чужацкі палон.

Так навек адляцела
Любата ў неспадзеў.—
Ты мяне больш ня стрэла,
Я цябе больш ня стрэў.

1905 г.

## МАГІЛА ЛЬВА.

*(З народнага паданьня).*

I.

Нам продкаў кемкасьць захавала
Шмат весьцяў дзіўных з быўшых год,
Хоць гэтых весьці ўжо нямала
Ў няпамяць кінуў сам народ.

Усё-ж яшчэ штось засталося
Унукам з прадзедаў жыцьця...
Няхай-жа гэтыя калосьсе
Мінуць скараньне нябыцьця!

Няхай той час, што згінуць мусіў
У беспрасьветнай векаў мгле,
Для бяспрыпыннай Беларусі
Хоць толькі ў песьні ажыве.

Зьбіраць пачнём зярно к зярняці,
Былое ў думках ускрашаць,
Каб быт на новы лад пачаці,
І сеўбу новую пачаць.

Пачнём дакапывацца самі
Разгадку нашых крыўд і бед,
Што леглі цёмнымі лясамі
На нашай долі з даўных лет.

Пачнём някратаны паданьні
Сачыць пад бацькаўскай страхой,
Шукаць ад раньня і да раньня,
А толькі хай шукае свой.

II.

Над быстрым Днепрам, дзе сягоньня
Стаяць Магілева муры,
Драмала пушча ў сотні гоняў,
Змагала громы і віхры.

На дрэва дрэва нагінала,
Адно к другому прыгняла,
Сукі з сукамі пасплятала
І з ветрам гутарку вяла.

Ваўкоў, дзікоў, ласёў, мядзьведзяў
Была там днёўка і начлег
У летні час і ў галаледзьдзе,
І ў зімавы глыбокі сьнег.

Людзей ня знаў лес гэты хмурны,
Зайздросна сьцежкі свае крыў,
Адно сваім дном Днепра бурны
З вясны да восені ў даль плыў.

А з пушчы вырваўшысь на поле
Шумеў і грозны слаў праклён,
Што не даваў яму лес волі—
Давіў гальлём з усіх старон.

У гэтай пушчы з перадвекаў—
Што так драмала ўдоўж і ўшыр,—
Сялібу меў сабе Машэка,
Разбойнік страшны на ўвесь мір.

III.

Даўней ня зналі так марнеці,
Як мы марнеем з году ў год,
Асілкаў шмат было на сьвеце,
Быў шмат дужэйшы наш народ.

Асілкам гэтакім адроду
Машэка быў у сваёй радні,—
Дзіцём нясьці ўжо мог калоду,
Якой трох сталых—не маглі.

Але хоць сілу меў такую,—
Нікому крыўды не рабіў,—
Нагуру меў ён залатую,
Як-бы ягнём, патульны быў.

Чаму ён так зьмяніўся з часам,
Што да разбойства давяло,
І да крыві людзкой стаў ласым,
Сваё пакінуўшы сяло?

Ці дома хлеба меў замала,
Ці крыўду вызнаў ад каго,
Ці мо' прастору не ставала,
І ў пушчы стаў шукаць яго?—

Ўсё гэта ня было прычынай,
Але, як вестка падае,
Была прычынаю дзяўчына.
Машэка згінуў праз яе.

IV.

У вёсцы тэй, дзе жыў ён змалку,
Дзе пасьціў, дзе араў, касіў,
На воку дзеўку меў, Натальку,
Аб ёй аднэй ён толькі сьніў.

Былі з сабою аднালеткі,
На прызьбе рыліся ў зямлі,
На сенажаці рвалі кветкі,
Ўдагонкі разам часта йшлі.

Як толькі ён яе дагоніць,
Як пёрка носіць на руках,
Сьмяецца, весела гамоніць,
Хоць там дзяўчыну мучыць страх.

Калі ўжо сталі падрастаці,
К рабоце трэ' было ісьці,
Дык ці то ў полі, ці то ў хаце
Умелі той таго найсьці.

Аб чым з сабой тады ўдваёчку
Снавалі думкі, сеўшы ў рад,—
Пытаць аб гэтым трэба ночку
І за вакном вішнёвы сад.

Жылі... Дзянькі за днямі гналі
Так ад вясны і да вясны,
Пасьля і самі не спазналі,
Як палюбіліся яны.

## V.

Каханьне лёгкая прынада
Для сэрцаў чуткіх, маладых,
Хоцьбы гнязьдзілася ў ім здрада,
Хоць гэта-б яду быў кяліх.

Усе мы п'ём яго з дурноты,
Жывём ні явай і ні сном.
А прападзе к яму ахвота,—
Тады—па часе ўжо—плюём.

На гэту вудачку каханьня
Папаў Машэка, як ня свой;
Ані спакою, ні прыстаньня
Ня меў ён з гэтаю бядой.

Сябе сам кінуў у няволю
Дзявочых ласк і пустаты;
Пацех меў шмат, цярпеньня болей,
То весел быў, то—як струты...

Дзяўчына... ведама, дзяўчына—
Хто там згадаў, што ў ёй сядзіць;
Любіла-ж, пэўна, хоць часінай,—
У лес па гэта не хадзіць

Машэка гэтакі асілак,
Што рваў дзярэўе з каранём,
Ў руках яе стаў, як апілак:
Яго забрала хараством.

## VI.

О, шмат прыгожанькіх дзяўчатаў,
Старонцы нашай Бог прыцбаў!
Царэвіч ехаць мог-бы ў сваты
К ёй не аднэй, каб толькі знаў.

Душы і сэрцайка такога,
І тэй бязьмернай дабраты
Шукаці хіба толькі ў Бога,—
Ў другіх людзей ня знойдзеш ты.

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем ня кінуў
І не паважыцца кідаць.

Наталька ў вёсцы між сваімі
Найпрыгажэйшаю была,
Грудзямі, шчочкамі, вачымі,
Як мак між макамі цьвіла.

Павеўна, як дасьпелы колас,
Ішла наперад у танок,
З грудзей гарачых звонкі голас
Зьмяняла ў песьню—як званок.

Прыхільна хлопцы аглядалі
Яе павабны гібкі стан,
Дый толькі сьціха уздыхалі...
Адзін Машэка быў тут пан.

## VII.

Той панства меў недаўгавечна,
Канаў пацехі час сьвяты:
Па Днепру выпала канечна
На Украіну гнаць плыты;

Машэку йкраз чарга папала.
Спачатку слухаць не хацеў;
Быць можа на яго-бы стала,
Бо не на жарты сілу меў,

Але Наталька ўгаварыла:
«Едзь! штось заробіш к жаніцьбе».—
Ну, як тут не паслухаць мілай!
І наш Машэка у жальбе

Па ненагляднëнькай дзяўчыне
Паплыў з плытамі ў край чужы
Таей Дняпровай гладзьдзю сіняй
Ад роднай прадзедаў мяжы.

Зямля сябе у зелень скрыла,
Лес цёмны з ветрам гаманіў,
Зязюля век людзям лічыла,
А сонца цешылася з ніў.

Машэка плыў, марнеў з нягоды
Аддуху рэдка меў калі,
І думаў, каб хаця ўжо воды
Яго Дняпровы не змаглі.

## VIII.

Ў дарозе шчасьце паручыла,
Загнаў да Кіева плыты,
Дамоў вяртаўся з новай сілай
Пабачыць родныя куты.

Натальку любую сустрэці,
Аджыць агнём яе вачэй,
Бо гэткіх вочак на ўсім сьвеце
Ён ня сустрэў ані ў аднэй.

Сьпяшыць няўпынна, крок за крокам,
Мінае поле і лясы;
Зямлі сваёй жаданым вокам
Шукае, як канюх расы.

Штось каля Ўзьвіжаньня дабраўся
Дамоў з далёкай чужыны...
О, лепш-бы першай не даждаўся,
Як нарадзіўся ён, вясны!

Бядак дачуўся ад суседаў,
Што ўжо Натальк і маладой
Не засталось даўно і сьледу.—
Як-бы Дняпровай сплыў вадой.

Сплыла і ўся яго надзея
Дажыць у радасьці жыцьцё.
Каханьне ў сэрцы гэтак сеяў,
А жаць прышлося пракляцьцё.

IX.

Непадалёк, дзе жыў Машэка,
Быў двор вялікі, а ў двары
Стаялі харамы ад векаў
Над самым Днепрам, на гары.

Абведзен быў высокім мурам
Палац, як той астрог, кругом,
Столетні ліпы ўкруг панура
Стагналі ночаю і днём.

Баярын тамка жыў багаты,
Яшчэ лятамі малады,
Да сваевольства быу заўзяты.
Пасвойму час губляў з нуды.

Усюды броіў самазбродам,
Тварыў закон свой і свой суд
Над абнядоленым народам,
Што збыць ня меў сіл сваіх пут.

Паціху толькі ў вёсках людзі
Маркотну гутарку вялі
Аб крыўдах тых, што ім на грудзі
Праз пана каменем ляглі.

О, як адзін хто праз другога
Цярпіць, то йшчэ тут паўбяды,
Але ня скрыці ад нікога
Нам крыўды цэлай грамады!

X.

Праз вёску са сваёй дружынай
Баярын гэты ехаў раз,
I ля Натальчынай хаціны
Ён затрымаўся на папас.

Тут хараство яму дзявоча
Упала ў вочы, бо нідзе
Яго ня бачылі йшчэ вочы
Штось прыгажэй у прастаце.

Як грозны быў, дык стаў лісьлівы,
Пачаў к дзяўчыне падсядаць,
Пускаць туман і, як-бы дзівы,
Ёй брэдні ўсякія складаць.

Што гаварылі, чым ёй кадзіў
Ня варта паўтараці тут,
Але з тых пор, як па загадзе
Ён спадабаў вясковы кут.

Тады-сяды стаў заглядаці
Ўсё да Натальчыных вакон,
Хоць і глядзелі бацька, маці
На гэта коса з першых дзён.

Пасьля к сабе яе стаў клікаць,
Яна ішла за ім, як цень,
Аж пачала ўся вёска тыкаць
На дзеўку пальцамі што дзень.

XI.

Людзкая хітрасьць даніманьнем
Патрапіць шмат зла натварыць,
Калі прыкінецца сьвятляным
Сьвятлом, што праўдаю гарыць.

Душу вам лёстачкамі выйме,
I павядзе на павадку
Яе пуцінамі крывымі
I ўжо ня ўскрэснуць бедаку.

З Наталькай вышла гэтак сама,
Сама к бядзе пашла сваей,
Зьвязаўшы дружбай сябе з ямай,
Ня дбала сьвету і людзей.

Забыла ўсе Машэкі ласкі,
Каханьне шчырае яго,—
Пад чарам ворагавай казкі
Зраклася мілага свайго.

Не прачувала горкай долі,
Якую лёс людзям нашле;
Раз, як пашла у двор, дык болей
Яе ня ўбачылі ў сяле.

Сваю так сетку распускае
На мух услужлівы павук,
Пакуль ня ўваліцца якая
І ўсіх ня выведае мук.

XII.

Мінула восень, а за ёю
Прышла з марозамі зіма.
Машэка жыў з сваёй сям'ёю,—
Ня жыў, а блукаўся, як цьма.

Як-бы ня чуў дакучных кпінак,
Адданы гору і жальбе;
Ўжо ведаў, дзе нашла прыпынак
Яго Наталька для сябе.

Падчас бліжэй к двару падходзіў,
Страшэнна кляў і выгражаў,
І страх на стражу ўсю наводзіў,
Якую пан сабе дзяржаў.

Але ня меў Машэка сілы
Такой, што сьцены-б разваліў
Туды, дзе ворагз яго мілай
Пасьцель пуховую дзяліў.

Ня мог на мак яму зьмяць косьці,
Праклянцце толькі прызываў,
Ад сьцен адходзіў з большай злосьцю
І штосьці жуткае кнаваў.

З дня ў дзень хмурней ён станавіўся,
Расла ў ім помста, як зьмяя—
І сам, як гадзіна, ў ёй віўся,
Ў жыцьці ня бачачы пуцьця.

XIII.

Што ёсьць на сьвеце горш ад помсты,
Што знойдзеш ад яе страшней,
Каго ня згоніць з сьцежкі простай,
Ня ўкіне ў цьму, за ноч цямней?

Душу і думы атумане,
Ачэпіць зводным павуцьцём,
Ї распасьцяжыць уладаньне
Над целам, над усім жыцьцём.

Засела так яна ў Машэкі
І суладаць з ёю ня мог,
Крыві-б пусьціў, здаецца, рэкі
І ў іх-бы з крыўдай сваёй лёг.

Крывёй ці віннай, ці нявіннай
На сьмерць упіўся-бы з душой,
Другіх губіў-бы і сам гінуў,
Абы цярпеў чужы і свой.

У муках страшных дачакаўся
Машэка першых дзён вясны.
І з вёскай роднай папрашчаўся,
Уцёк з радзімай стараны.

У пушчу ўцёк, у ёй асеўся,
Зьмяніўся ўвесь, як ваўкалак,
У скуру воўчую адзеўся
І стаў на жыр выходзіць так.

## XIV.

Так страшным стала яго імя
На ўсю аколіцу з тых дат
Паміж сваімі і чужымі,
Як страшны імем сваім кат.

З сваёй бярлогі на дарогу
Вылазіў грозны, з булавой,
Як пошасьць, сеяў скрозь трывогу,
Загоны росячы крывёй.

Спачатку дань жыцьцём плацілі
Яму адны багатыры,
Пасьля знаходзілі ў магіле
Спачын і вёсак жыхары.

Не памагалі мольбы, чары,—
Крываві суд тварыў, караў;
Абезгалоўлены ахвяры
З сабою ў пушчы забіраў.

Дарма шукаюць яго схову
Бацькі забітых і сыны,—
Адно зьбірае больш галоваў
Ён з непамернай тэй вайны.

Што дзень расьце Машэка ў славу,
Расьце з крывавага жніва,
Бароніць пушча яго справаў,
А гымн пяе яму сава.

## XV.

Ці доўга йшчэ-бы гаспадарыў
Ён гаспадаркаю такой,
Крывёй палошчучы папары,
Крывёй гарачаю людзкой,

Каб ня сустрэў сярод дарогі
Адно здарэньне, як той вір,
Калі раз, выбрыўшы з бярлогі,
Йшоў з булавой сваёй на жыр.

Ішоў і ўбачыў, як карэта
Напроць кацілася якраз;
Машэка рады знайдзе гэтай
І не марнуе дарма час.

Мінута. Ўжо стрымаў ён коні,
Як сноп, зваліўся ўжо фурман,
Ўжо булавой у дзьверцы звоне,
З карэты скочыў к яму пан;

Але ня ўсьпеў і азірнуцца,
Як на зямлі няжыў ляжыць;
Машэка доўбняй замахнуцца
Яшчэ на некага сьпяшыць...

І дзіва дзіў: рука самлела,
Сьлязамі вочы заліліс...
Наталька тут яго сядзела
І так глядзела, як калісь!

## XVI.

Як чалавек не азьвярэе
З якіх там колечы прычын,—
Надойдзе час і азарэе
Яго душа хоць міг адзін.

Чуцьцё прабудзіцца людзкое,
Дабро у сэрцы ажыве,
І зацьвітуць красой сьвятою
Дзіцячы думкі ў галаве.

Чуць толькі ўгледзіў у калясцы
Машэка любую сваю,—
Ў яе ўтануў даўнейшай ласцы,
Ёй пакарыўся без баю.

Бы тую пёрынку птушыну,
Ў сваю бярлогу яе нёс.
З лісточкаў мягкую пярыну
Ёй слаў, і сам у радасьць рос.

Быў рад сваёй так доўгай згубе,
Ў нагах з пакораю сядаў,
Як здаўна, песьціў і галубіў,
І словы чулыя складаў.

А толькі бедную Натальку
Жыцьцё з ім цешыць не магло,
Як тую грэшную русалку—
Жывыя людзі і сьвятло.

XIX.

Спазнаўшы панскія раскошы,
Дзіцё сяла і грамады,
Ня мела сіл змагчы ў пустошы
І адзіноцтва і жуды.

Хоць на Машэку спазірала
Прыхільным поглядам падчас,
А ўсё у думках штось кнавала,
Агонь благі ў вачох ня гас.

У думках думала няўпынна,
Як ёй разбойніка згубіць,
Якога не магла нявінна
Ўжо так, як некалі, любіць.

Раз, калі спаў Машэка з ёю,
Зрабіць надумала сваё—
За кроў пралітую крывёю
Яму яго забраць жыцьцё.

Пацiху ўстала, нож агромны
Ўзяла ў яго з-пад галавы
І утапіла ў шыі соннай,
Ды той застаўся йшчэ жывы.

Яна другі раз замахнула
І трэці раз перавяла,—
Яго і жылка ня дрыгнула,—
Душа ад цела адышла.

## XVIII.

Так страшна той разбойнік згінуў,
Што ўмеў любіць і забіваць;
На грэх пусьціўся праз дзяўчыну
І мусіў праз яе сканаць.

Яна сваё зрабіўшы дзела,
Ўжо страхам гнаная нямым,
У вёску родную ляцела
І расказала аб усім.

Прынесла добрыя ўсім весьці,
Што ўжо разбойніка няма;
Яе віталі добрай чэсьцю,
З усімі цешылась сама.

Вяла з сабой сяло народу,
Дзе спаў Машэка вечным сном,
Куды йшчэ ўчора усе ходы
Былі закрытыя людзём.

Зышлася вёска над Машэкай
Нядаўну бачыці гразу,
І ня было там чалавека,
Каб хоць адну пусьціў сьлязу.

Йшлі ад яго к гары вялікай,
Ахвяры дзе яго ляглі,—
Касьцей знаходзілі бяз ліку,
Галоў бяз ліку там знайшлі.

## XIX.

Капалі ў пушчы дол глыбокі,
Дно высьцілалі у кару
І насып сыпалі высокі—
Машэку насып, як цару.

А на гары тэй недалёкай
Хавалі косьці у зямлі
Ахвяр, што ад рукі нялёгкай
Бяз часу на той сьвет зышлі.

За днямі дні пабеглі шпарка,
Ў няпамяць шоў за годам год,
Мянялась сьвету гаспадарка,
Жыцьцё-быцьцё зьмяняў народ.

Той насып, дзе ляжаў Машэка,
У мох і дзерава аброс;
Пякла улетку яго сьпека,
Зімой трашчаў над ім мароз.

Машэкі імем сталі маткі
Пужаць, калышучы. дзяцей,
А кумкі, зьбегшысь на папрадкі,
Аб ім шаптаць адна аднэй.

Яго высокую магілу—
Дзе лес ды вецер панаваў—
Знаць, што вялікую меў сілу,
«Магілай Льва» народ назваў.

XX.

Над ёю з часам дрэвы палі,
І горад вырас, як з зямлі,
Яго Магілевам назвалі,
Бо йнакш прыдумаць не маглі.

Там, дзе пушчар быў і балота,—
Муры глядзяцца у раку,
Зіяюць вежы пазалотай,
Жыцьцё кіпіць, як у гаршку.

Пры самым месьце, дзе хаваці
Людцы нябошчыкаў нясуць,
Гару з магілкамі відаці—
Яе Машэкавай завуць.

І ціха, ціха на гары тэй,
Чарнеюць пліты і крыжы,
То летнім сонейкам сагрэты,
То зьзябшы ўзімку, ў маразы.

Падчас вясной заблудзіць птушка,
Зазвоніць песенькай сваей,
Павесялее сьпяча душка,
Ды ўзноў засьне яшчэ мацней.

А пад гарой Дняпровы хвалі
З вясны да восені шумяць
І штось гаворадь цёмнай далі,
А што?—нам грэшным не паняць!

2/VII—13 г.

## БАНДАРОЎНА.

*(З народнай песьні).*

I.

Ня віхор калыша лесам,
Не ваўкі заводзяць,
Не разбойнікі таўпою
За дабычай ходзяць.

На Ўкраіне пан Патоцкі,
Пан з Канева родам,
З сваёй хэўрай гаспадарыць
Над бедным народам.

Дзе заедзе, банкятуе
Сам ён, яго варта,
Ні старому, ні малому
Ня спускае жартаў.

Калі-ж дзе ўпадзе у вока
Хараство дзявоча,—
Абняславіць, абнячэсьціць,
Бацьку плюне ў вочы.

Стогне змучана Ўкраіна,
К небу шле пракляцьце,
Дый Патоцкага збаўляе
Хэўра і багацьце.

Да сягоньня жыве памяць
Аб злым гэтым дусе
На ўсёй чыста Украіне
І на Беларусі.

Ў сёлах, як клялі дагэтуль,
Так і праклінаюць.
У палацах яго толькі
Міла ўспамінаюць.

Аб прыгожай Бандароўне
І аб справах пана
Засталася у народзе
Песьня з давен-даўна.

II.

Ў слаўным месьце Берастэчку—
Слаўны Бандарэнка,
Ў яго дочка-Бандароўна,
Пашукаць—паненка.

Хараства такога ў сьвеце
Ня было, ня будзе;
Аб ёй людзі гаварылі,
Як аб нейкім цудзе.

Як маліны, яе губкі,
А твар, як лілея,
Як дзьве зоркі, яе вочы,
Гляне—сьвет ясьнее.

З плеч сплываюць яе косы,
Як-бы сонца косы,
І іскрацца, як на сонцы
Брылянцістыя росы.

Рост высокі, стан павабны,
Ўся, як цень, павеўна,
Як ідзе яна, бывала,
На-бок каралеўна!

А сягоньня-ж выглядае
Лепей, як заўсёды,—
У карчомцы з казакамі
Цешыцца з свабоды.

У гульні сама рэй водзіць,
Весела міргае,
Задзіўляе усіх чыста,
Як зара якая.

Ой, гуляй-жа, Бандароўна,
З вечару да ранку!
Цябе вораг ужо сочыць,
Сочыць на каханку.

III.

К таму часу ў Берастэчка
К дружыне казачай
Прыблукаўся пан Патоцкі
З хэўраю лядачай.

Як пачуў ён у карчомцы
Зычную забаву,
Туды йдзе сваю бясчэсну
Паказаці славу.

Банкятуе з казакамі,
Мёд, віно п'е квартай,
К маладзіцам і дзяўчатам
Лезе смольлю ў жарты.

А найгорай к Бандароўне
Ён прыстаў абрыдна;
Цалаваць, абняці хоча,
Ажно глянуць стыдна.

Асьцярожна, пан Канеўскі!
Будзе ліха, будзе,
Не забудзься, што сумленьне
Ёсьць і ў простым людзе!

Не папусьціць ў крыўду славу,
 Славу ды свабоду,
Хоць і дуж ты, і багаты,
 Ды панскага роду.

Ох, патрапіць народ часам
 За сябе ўступіцца,—
Асьвяціць зямлю пажарам,
 Сьвежай кроўю ўпіцца!

Лезе пан да Бандароўны,
 Ўвесь гарыць, бы ў жары;
Тая жартаў не пазнаўшы,
 Зьехала па твары.

IV.

Жутка, жутка дым пажарны
 Бухае уночы,
А жутчэй яшчэ у пана
 Задымелі вочы.

Выгражае кулакамі
 Ўсёй казачай брацi:
— Ўсе адказ дасьцё мне зараз—
 Дочка, бацька, маці!

— Асьцярожна, ясны пане,
 З грозьбамі сваімі!
Забурчала старшына ўся,
 А моладзь—за імі.

Выбег з хаты пан Патоцкі
 Зваць сваю дружыну,
А старэйшы людзі вучаць
 Бедную дзяўчыну:

Уцякай-жа за пагодай,
 Донька маладая,
Покі дзень засьвеціць ясны,
 Покі сіл хапае!

Пан з Канева не даруе
Хараству тваёму,
Як ня ўмее даравацi
Ён нiдзе нiкому.

Уцякала Бандароўна
Ў поле з цёплай хаты,
Абымала яе ночка,
А вецер крылаты

Расплятаў ёй косы буйны,
Песьцiў белы грудзi;
Болей жалю меў над ёю,
Як якiя людзi.

V.

Уцякала Бандароўна
Ды памiж платамi,
А за ёю тры гайдукi
З голымi шаблямi.

Бегла поле i другое,
Ўзьбегла i на трэцьце,
Ды ўжо сiлы не хапае
Далей так ляцецi.

Ой, няшчасна Бандароўна,
Адпачнi часiну,
Памалiся за сябе ты,
За сваю Ўкраiну!

На сырой прыляж зямельцы,
Атулiсь касою,
Няхай сэрцайка дзявоча
Прыдзе да спакою.

Думай думкi, што чынiцi
У бядзе паганай,
Калi панскiя служакi
Прывядуць да пана!

Ня прышлося спачываці
Доўга Бандароўне,—
Наляцела, адшукала
Дзікая пагоня.

З дзікім сьмехам учапілісь
За косы і рукі,
Пацягнулі нешчасьліву
На вялікі мукі.

Ночка цёмная глядзела
Ды цямнейшай стала,
Адна зорка мігацела
І тая прапала.

VI.

Хто галубку убароніць
Ўсьцеражэ ад згубы,
Як няўбачна пападзецца
Ў каршуновы дзюбы.

Вырве сэрцайка няшчаснай,
Вып'е кроў чырвону,
Застануцца толькі косьці
На зямліцы соннай.

Застанецца памяць толькі
Ў стадзе галубіным,
Што ім выдзер хтось галубку
Крываждным чынам...

Прыцягнулі Бандароўну
К пану у сьвятліцу,
Як праступніцу якую,
Ці як чараўніцу.

Ўбор дзявочы абарваны,
Зблытаныя косы,
Ў вочках толькі рдзяцца сьлёзы,
Як улетку росы.

Ці то сьлёзы з крыўды страшнай,
Ці з бясьсільнай злосьці,
Што к чужынцу бяз пытаньня
Прывялі у госьці.

І стаіць яна прад панам,
Як калінка тая,
Што у лузе, над ракою
Вецер пахіляе.

Сабірае у галоўцы
Думанькі дзявочы,
Глядзіць сьмела, ані моргне,
Ворагу у вочы.

VII.

Пасадзіў пан Бандароўну
У куце на лаве,
Як-бы тую маладую
У вясельнай славе.

Застаўляе стол дубовы
Сытаю ядою,
Мёд, віно ў жбанох б'е пенай,
Як-бы мора тое.

Яшчэ мала: пан вяльможны
Клікае музыкаў;
Знаць, заход вялікі робіць
Ён к гульні вялікай.

Не чакае Бандароўна
Тут сабе пацехі,
І ня верыць панскай ласцы
І ў панскія ўсьмехі.

Ручкі белы заламала,
Зьвесіла галоўку,
А тымчасам пан Патоцкі
Вышаў у бакоўку.

I прыносіць ён стуль стрэльбу,
Куляй набівае,
Ў рукі ўзяў, і Бандароўну
Голасна пытае:

— Ну, што воліш сабе выбраць,
Пышная паненка:
Ці ў бяседзе засядаці
Вось пад гэтай сьценкай

I са мною піць, гуляці,
Ночкі каратаці?
Ці навекі косьці парыць
У зямельцы-маці?

VIII.

Затраслося помстай сэрца
У грудзі дзявочай,
Спахмурнелі чорны бровы,
Заіскрыліс вочы.

Не такую, ясны пане,
Бачыш прад сабою,
Што захоча чэсьць і славу
Прадаваць з табою.

Сваё золата, палацы
Застаўляй сабе ты,
Сам заморскае віно пі
I насі саеты.

Ці, гуляй з сваёй раўнёю,
Покі ваша сіла,—
Бандароўне больш да твару—
Чымся ты—магіла.

Не прадасьць яна дзявоцтва,
Як ты, пан, сумленьня;
Твае ўгрозы ёй нястрашны,
Нястрашна цярпеньне.

Перад панам тым з Канева
Сьмела дзеўка стала,
Сьмела гледзячы у вочы,
Сьмела адказала:

—Дужы ты з сваім багацьцем,
А я сілы большай,—
За мной праўда і народ мой,
За табой-жа—грошы!

Чым з табою піць, гуляці.
Ночкі каратаці,—
Лепш навекі косьці парыць
У зямельцы-маці!

IX.

Тут як стрэліў пан Канеўскі
Ў лева яе вуха,—
Стала наша Бандароўна
І нема і глуха.

Палілася кроў чырвона,
Сэрца абамлела,
Павалілась на зямельку
Як бярозка бела.

Парасплеценыя косы,
Як тыя галінкі,
Леглі пасмамі хваліста
Тут-жа ля дзяўчынкі.

Толькі з крыўдай адналькова
Вочы пазіралі,
Як-бы ўсіх пытаць хацелі:
За што пакаралі?

Дый заглянулі, знаць. крэпка
Ў ворагава сэрца:
Пан Патоцкі ўжо ня рад стаў
Сам сабе і дзеўцы.

Праклінае сам самога
І такую ночку;
Кліча бацьку, кліча матку,
Каб забралі дочку.

Як прыходзіў Бандарэнка,
А з ім—Бандарыха,
Галасілі над дачушкай,
Галасілі сьціха.

Ой, ламалі свае рукі
Стары са старою:
—Налажылась, донька наша,
За ўсіх галавою!

X.

Забіралі бацька, маці
Родную дачушку,
Несьлі ціха, асьцярожна
Сваю мёртву служку.

Дзе йшлі з ёю, кроў чырвона
Капала паволі
І блішчала па ўсёй сьцежцы,
Як раса на полі.

Як прынесьлі Бандароўну
Да сьвятліцы новай,
Палажылі памаленьку
На лаве дубовай.

Прыбіралі, як да шлюбу,
Ў белю і вэлёны,
Заплятали буйны косы
Ў касьнікі чырвоны.

Пазлацістыя на пальцы
Персьцені ўзьдзявалі,
У замшовы чаравічкі
Ножкі абувалі.

З руты-мяты ёй вяночак
Вілі у дамоўку,
Як карону каралеўне,
Клалі на галоўку.

Зьбілі з дошак габляваных
Белу дамавіну
І складалі ў ёй няшчасну
Забіту дзяўчыну.

Сьпіць сном вечным Бандароўна
І болей ня ўстане,
А над ёй пяюць старыя
«Вечна спачываньне».

XI.

Неспакоен пан Патоцкі
У сваёй правіне,
Што ўчыніў такую крыўду
Ні пращто дзяўчыне;

Хоча грэх свой чым загладзіць
І віны убавіць;
Бандароўну хоць па сьмерці
Думае праславіць.

Ён сьпяшыць на баль хаўтурны
Пыхай паганяны,
Шоўкам кажа абіваці
Гроб той дзераўляны;

Шоўку, золата, атласу
Браці, колькі хваце,
Кутасамі залатымі
Труну абчапаці.

Загадаў капаці яму,
Мураваці з муру,
Каб магілкі не размыла
Ні вада ні бура.

Загадаў слаць да магілак
Сьцежку дыванамі
І пасыпаць дываночкі
Белымі цьвятамі.

Як панесьлі Бандароўну
На вечна хаваньне,—
Загадаў іграць музыкам
Сумнае іграньне.

Як спушчалі Бандароўну
На той сьвет вялікі,
То яшчэ сумней зайгралі
Панскія музыкі.

XII.

Пахавалі Бандароўну
У вянку і ў белі,
Толькі думак украінцам
Пахаваць ня ўмелі.

Шмат цярпець народ умее,
Ўмее-ж і памсьціцца,
Як дадзене вельмі крыўда,
Як зло разгасьціцца.

Весьць аб сьмерці Бандароўны
Скрозь пашла, як мора;
Зашумела Украіна—
Гора панам, гора!

Бандарэнка сходы кліча,
Ўсім аб крыўдзе кажа;
Войска сільнае зьбірае,
Роўна сіле ўражай.

Задымелі у пажарах
Панскія сялібы,
Палілася кроў ракою
На лугі, на скібы.

Дарма рэзь стрымаць казачу
Войска шле Варшава,—
Шмат казацтва нацярпелась—
Бітва йдзе крывава.

Колькі выцекла крыві йшчэ,
Ня будзем казаці,
Бо крывёй сваёю роднай
Трэ' было-б пісаці.

З долі-ж горкай Бандароўны
І з таей часіны
Засталіся толькі казкі,
Песьні ды ўспаміны.

24/VI—13 г.

## З І М О Ю.

Калядная ночка ўвесь сьвет пакрывае,
Па белай ад сьнегу зямельцы снуе;
Мяцеліца ў полі сапе, завывае,
Сьвіст віхраў спакойна заснуць не дае.

У коміне вецер заціхнуць ня хоча,—
Заносіцца песьняй магільнай, дзікой;
То стогне, то плача, то дзіка рагоча,
Як быццам сьмяецца з нядолі людзкой.

Дарожкі і сьцежкі занесла віхура,
Ня знаць, дзе балота, дзе лог, дзе папар;
Воўк, вышаўшы з лесу, скаголіць панура,—
Каб чым пажывіцца—пакінуў гушчар.

І сіняе неба ад зор ня рунее,
І месяц дзесь згінуў, ня ходзіць па ім,
Што хвіля, цямней ноч, мароз не вальнее,
Сьнег сыпле і сыпле, як прыскам якім.

Бяда падарожнаму гэткай парою
Дарогу вялікую перабываць,—
Як стой загавецiся можна душою,
Сьняжніца—засыпаць, зьвяр'ё—разарваць!

Але вось у гэту рабінаву ночку,
Бач, нехта мя вытрываў, полем ідзе,
Руку апірае на тонкім кіёчку,
На плечах і сьпераду ношку нясе.

Хто гэткі шалёны ў такую завею
Пакінуў хацінку, ў дарогу пашоў?
Аж жутка на сэрцы, душа ажно млее:
Там з дзіцем кабета пляцецца дамоў!

Гістор'я старая: Убогая дзеўка
Пашла ў двор на службу для хлеба куска,
Пашла, паганяная гора прыпеўкай,
Ад хаты радзімай сьвятога кутка.

Семнаццаты год шоў прыгожай Ганулі,
Век самы, што толькі жыві, прыпявай!
Сам век, што ахвоціць да працы, да гуляў,
А што ўжо любіцца—на ўсё забывай.

На звадку для хлопцаў, на зайздрасьць дзяўчатам
Слыла паваблівай дзяўчынай яна,
І гэта-ж павабнасьць яе стала катам:
Скасіла і радасьць і песьні спрытна.

О, моладасьць, моладасьць! Колькі з табою
Прыгод падчас горкіх ідзе для людзей!
Ты сэрца узбурыш, гульнеш ты з душою,
Ты, ломячы думкі, кроў смокчаш з грудзей.

Я также, змагаючы долі завею,
Надзеі вялікія сьніў, будаваў,—
Ты-ж, моладасьць, мачыхай стала маею...
Эй, што гаварыці! Цябе я ня знаў!

Прыхільна дзяўчына на сьвет гэты боскі
Глядзела і верыла зьменным людзям;
От, знама, прастачка, дзіцё нашай вёскі,
Што з беднасьці, з невуцтва знаная нам.

Нямала ў двара слуг, шмат хлопцаў ўсялякіх,—
Сумленных, праўдзівых і шальмаў благіх.
Цімох-жа найлепшы: няма ў ім ніякіх
Паступкаў нягодных, як ёсьць у другіх.

Дзяўчына прыгожая, хлопец прыгожы,—
Вось пара ўжо сэрцаў, вось пара людзей,
Што могуць забыцца на ўсё, на сьвет божы,
Як кроў маладая заходзіць жывей.

Хто з нас ня любіўся, хто ўцехай каханьня
Хоць міг сваіх лет маладых не правёў?
Сам-на-сам дзяўчыны з малойцам шаптаньня,
Двух сэрцаў хто слухаў вясёлых размоў?

Цімох і Ануля—вось роўная пара:
Яна бедна дзеўка, ён бедны дзяцюк;
Любілісь і мелісь пабрацiся зара,
Дый здрадзіла шчасьце, мінула іх рук.

Гаротнага хлопца пагналі далёка,
Пагналі ў салдаты на зьдзекі, на плач;
Засталася Ганна адна-адзінокай,
А з доляй — хоць сонца, хоць сьвету ня бач!

Сягоньня, во', ў гэткую сьцюжу пляцецца,
Пляцецца з няшчасьцем, з пацехай свaёй,
Хоць вые віхура, хаўтурна сьмяецца,
Як людзі, так дзіка рагоча над ёй.

Ідзе і ідзе, а сьнягамі дзьме неба,
Дзіцё ў руках плача. Ноч, жудка... бяда.
Ў хатомцы на плечах нясе булку хлеба
І сала хунт — служкі за труд—каляда.

Па гурбах, па насках ідучы сьняжаных,
Змаглася, халодны пот цела заліў,
А рукі і ногі мароз няспыняны
Даўно замарозіў, даўно зьнячуліў.

Чуць дух пераводзіць, зьліпаюцца вочы,
Яшчэ дабыла сіл, ды дзе больш дабыць?
Скасіліся ногі, ямчэй вецер скочыў,
Схіснулася, й з дзіцем і з хлебам ляжыць!

---

Ляжыць сярод поля шырокага
Ў пасьцелі пуховай са сьнегу.
Спачні з дзіцянём, адзінокая, —
Вам лепшых ня знаці начлегаў!

Ня бойцеся!.. Ўтуліць ад холаду,
Спаўе, як пялёнкай, сьнег белы,
Зацягне вам песьню мяцеліца,
Воўк жальбай завые скалелы.

Але віхраў сьвісты магільныя
І воўчыя выцьці пад борам
Няхай ня пужаюць вас, бедныя,
Сваім нялюбым загаворам.

І неба хай гэта вас хмарнае
Ня страшыць сваёй цемнатою,
І доля вам гэта цяперашня
Хай вельмі ня здасца благою.

Ці-ж хаты для вас былі лепшымі,
Як гэта сьнежная ніва?
Скажы ты мне, маці бязмужная,
Была-ж ты дагэтуль шчасьліва?

Жыла-ж з табой маладасьць ясная,
Вясёлыя песьні ці пела?
Былі-ж для цябе людзі добрымі,
Іх злосьць над табой не шалела?

Падумай, падумай, гаротная!
Я ў песьню пральлю твае думы,
І разам сьпяём гулкім голасам
Пад дзікай мяцеліцы шумы.

---

Бядак жыве толькі сягоньня,
Дзён лепшых яму не чакаць;
Цар-голад няшчаснага гоне
Крывавага хлеба шукаць.

Пакінуўшы роднаю хатку,
Калі йшчэ такая дзе ё,
Замучан бядой даастатку,
Ідзе, каб здабыць на жыцьцё.

Ідзе, а пражорнікаў вочы
Цікаюць з усіх са старон;
Ідзе, а ці днём, ці уночы,
З дарогі зьбіваецца ён.

Так блудзячы, валіцца ў сеткі,
Растаўленыя спатайка,
І сілаў нараз апасьледкі
Ссуць п'яўкі, вужы з бядака.

Заплацяць пагардаю дзікай
За кроў, за мазолі, за труд,
Дадуць медзяка для прыліку,
Што ліў пот ня толькі за кнут.

Як выцісНуць дух увесь чыста,
Прызнаюць няздатным к труду,—
Прагоняць на шляхі цярністы,
Прагоняць на сьлёзы, бяду.

І пойдзе бядак нешчасьлівы,
Здароўя упякаўшы цьвет,
Праз цёмныя боры, праз нівы
З жабрацкаю торбаю ў сьвет.

---

Што?—дрэмлеш ужо ты, дзяўчына?
Ня сьпі, яшчэ штось прапяём!
Эй, што там, каліна-маліна!..
Запейма—пець лёгка ўдваём!

А будзе цікавая песьня,
Бо выскажа думы твае.
Ну, слухай, хоць сэрцу балесьне—
З тваёй мая доля пяе!

---

Ты помніш, як маці цябе твая родная
Дзень першы у лапці абула,
Як ты, падрастаючы, цьвёрдую, зрэбную
Кашулю на целе пачула.

Галела, калела у полі ты, з пугаю,
Куску жадна будучы хлеба,
Па лесе, па пасецы з стадам цягалася,
Патолі ня знала ад неба.

Пякло лета сьпекай, ты, ўся зацяганая,
Зьлівалася потам крывавым,
А восень студзіла слатою бязьлітасна,
Трос вецер адзеткам дзіравым.

Ці йшла ты на поле шырокае, вольнае,
Ці з стадам вярталася з поля,
Ніхто ня вітаў цябе шчыра, прыветліва,
Ні свой, ні чужы, і ні доля.

Вось вырасла, стала дзяўчынай прыгожаю,
Ды горкім жыцьцё было далей:
Бацькі твае бедна і трудна жыць мусілі—
У людзі чужыя паслалі.

Паслалі па цьвёрды, па хлеб на пакідзішча,
На зьдзек, на бадзяньне няміла,
І ты без апекі прытульнай, бяз бацькаўскай
Навекі сябе загубіла.

З насьмешкай благой на цябе, заблудзіўшую.
Цяперака ўсе паглядаюць;
І сэрца крывёю тваё абліваецца,
І вочы у сьлёзах плываюць.

У губу ня лезе яда гаспадарская—
Кусок іх палічаны кожны;
Ў калысцы ад крыку дзіцё захліпаецца,
Патомак твой плача сярмяжны.

Бацькоў гэтым грэхам сваім не пацешыла—
Ўжо з дзіцем ты лішняя ў хаце;
На службе цябе разьлічылі, адправілі—
Ня стала там хлеба дзіцяці.

І што-ж цябе, маці, чакае, бязмужняя?
Ня бачыш ты сьвету, ў сьвет глядзя;
Ня ўзложыш вянка ты ўжо болей дзявочага,
Ня сядзеш ужо на пасадзе.

Навекі твая ўжо зламаная моладасьць,
Асуджана мучыцца вечна,
І ў гэтай дарозе, у гэту мяцеліцу
Ты спраўды шчасьлівай, бясьпечнай.

Сьнег так адусюль спавівае плёнкаю
Сваёй прыліпаючай, белай,
І сыспаду мягка і зьверху накрытая,
Начлегаў такіх ты ня мела.

Ня мела папраўдзе, бо гэтак, во соладка
З дзіцём—бачу я—ты заснула.
Сьпі!... Пэўна і песьні маёй, табе выснутай,
Усёй ты, бядачка, ня чула.

Сьпі, сьпі! покі сонца на небе нячулае
Узойдзе гуляці над сьветам;
А можа засьні лепш навекі, няшчасная,
Як маеш з жыцьцём біцца гэтым.

---

Вечна ня можа мучыць мяцеліца,
Вечна ня можа ноч панаваць;
Зімняе неба сонейкам беліцца,
Вецер нямее, хмар ня відаць.

Іскрыцца пол сьнежнае, белае,
Бор гутарлівы ціха стаіць,
Воўчая песьня, дзікая, сьмелая,
Жудасна ў полі ўжо ня гудзіць.

Радасна ўсходзіць раніца стройная,
Сьвеціць для сьнегам засланай зямлі;
Вокал абшары, ўсё дзіўна-спакойныя,
Шалы віхураў як ня былі.

Гоманы, скрыпы з вёскі даносяцца,
І там ужо сонца робіць сваё;
Па саламяных стрэхах дым коціцца,—
Знак, што пад імі госьціць жыцьцё.

Будзяцца людзі, з хат выбіраюцца
Яркі калядны дзень прывітаць;
Цёплая пара з губ выбіваецца,
Шэрань на бровах, шчокі гарацъ.

Бабы заняты важнай заняткаю,—
Вілкі, чапёлы ў дзела ідуць,—
З нейкай паважнай ходзяць аглядкаю,
Сьвята сягоньня—бліны пякуць.

Рана і жонка ўстала Рыгорава,—
Мужа з дарогі жджэ і дачкі,
Носіць ваду, змарылася здорава,
Печ падтапіла, ставіць гаршкі.

Можа яна ўжо разы і сотныя
Глянула ў шыбы з хаткі на двор;
Мучаць старую думкі маркотныя:
Штосьці ня едзе з Ганнай Рыгор.

Выехаў ўчора цёмнаю раніцай,
Меўся вярнуцца на-нач дамоў;
Праўда, кабылка худа, чуць цягнецца,
Але вялікі ўжо час прайшоў.

Што за прычына, што так задлякаўся,—
Трудна згадаць, хоць як варажы;
Ці мо' дзе ў гурбу сьнежную ўпякаўся,
Ці мо' начуе у Рубяжы.

...Скрыпнулі сані... ў вокны марозныя
Хутка, пакуль там бегчы на двор,
Вочы свае Рыгорыха сьлёзныя
Ўставіла й бачыць: ўзьехаў Рыгор.

—Дзе-ж ты дзеў Ганну?—ў мужа пытаецца
—Няўжо,—ён кажа,—Ганны няма?
І абаім ім сэрца сьціскаецца,
Дум усялякіх хлынула цьма.

Ганна з двара ўжо іншай дарогаю
Йшла, як ехаў Рыгор па яе;
Думаў, што дома. Бачыць з трывогаю:
Дома няма. Дык дзе-ж яна, дзе?

Дарма шукаці рвуцца ў ваколіцы,
Ў вёсцы пытаці, на мшы даваць;
Дарма ён стогне, а яна моліцца:
Ганны нідзе няма, ня чуваць.

Толькі ад часу, як гэта сталася—
Гутарка ходзіць так па сяле:—
Ў сьнег як зямелька ўся адзявалася
Неба мяцеліцу грозну пашле,—

Ночнай парою з бара недалёкага
Нейкае зданьне—глянуці страх—
Чуць лезе з гурбаў, з сьнегу глыбокага,
Йдзе на дарогу з ношкай ў руках.

Хто йдзе, ці едзе, страх таму гэтае
Дзіва сустрэці, голас пачуць,—
Страшная мара, напаў-адзетая,
Зблытаны косы, вочы пякуць.

Грудзь да касьцей дзявоцкая вырвана,
Ранай аднэю сьвецiцца ўся,
Стане... кроў люне чырвана-чырвана;
Рукі калышуць мару-дзіця.

Тулаў дзіцяці толькі хістаецца,
Ручак, галоўкі, ножак няма;
Да падарожных з ім падбліжаецца,
Жальбу заводзіць жудка сама.

Жаліцца ўперад, посьле жалобную
Страшную песьню сьлёзна пяе;
Гэткую песьню чуем падобную,
Як сьмерць запусьціць жалы свае.

Аб тых, што з сьветам гэтым разлучаны,
Аб затрутым бяз часу жыцьці,
Аб маці з дзіцем плача замучанай,
Моліць крыху сагрэць, падвясьці.

Хрысьцяцца людзі, чуючы гэтае,
Месца мінаюць тое барждзэй,
Зданьне зноў ў лесе з песьняй нясьпетаю,
З дзіцем, з хатомкай нікне сваей.

Памяць аб гэтым людзі вясковыя
Шчыра гадуюць, вера жыве:
Яміну тамка ў гушчы сасновае
«Ганьніным Ярам» вёска заве.

1/II--1906 г.

## СТРАШНЫ ВІР.

Ёсьць месца, дзе ўпоўнач над рэчкай,
Пакуль йшчэ пявун не пяе,
Выходзе здань дзіўная з віру
І творыць варожбы свае.

Таёмныя знакі рукамі
На ўсход і на захад кладзе,

Як быццам каго заклінае,
Ці песьню на мігі вядзе.

Сьцюдзёная льецца вадзіца
Па целе з распушчаных кос,
А вочы блішчаць, як дзьве зоры,
А вочы глядзяць да нябёс.

І рыцар у тую часіну
На белым агністым кані
Над вірам зьяўляецца зьнекуль,
Ці проста выходзіць з зямлі.

З каня свайго злазіць і к здані
Падходзіць, галубіць яе,
У мокрыя косы цалуе,
Яна-ж толькі нема пяе.

Хто ў час той заблудзіць тудою,—
Спужаецца сам, задрыжыць,
І здань ад яго уцякае,
У віравы сховы бяжыць.

А рыцар маланкай садзіцца
На быстрага свога каня
І нікне у цемры паўночнай,
А з ім—і трывога уся.

Шмат чутак аб віры і зданьнях
Чуваць у народзе здаўна;
Што праўда, няпраўда—ня знаю...
Мне ўспомнілась чутка адна.

Былі сабе ў бацькі тры дочкі,
Як кветкі прыгожы былі,
А меншая ўсіх прыгажэйшая,
Другой не знайсьці на зямлі.

Жылі і нядолі ня зналі—
Свабодна, як рыбкі ў вадзе,
А толькі малодшай паціху
Зайздросьцілі старшыя дзьве.

Раз нeяк тудою князь ехаў,
Што бітвамі славу прыдбаў;
Заехаў да іх на папаску,
Заехаў—і іх спадабаў.

Адну з трох за жонку ўзяць хоча,
Катору—ня знае і сам,
І князя яны спадабалі...
Ручыць, як-то кажуць, князям.

Вось ён ім і кажа загадку,
Работу такую дае:
Вазьму я з вас тую за жонку,
Каторая лепей сьпяе.

Запелі дзьве старшыя князю,
Запелі, як той салавей;
Запела малодшая князю,
Запела ад тых прыгажэй.

І меншую выбраў за жонку,
Чакаці ёй кажа сватоў;
Сам ладзіцца едзе к вясельлю,
Склікаці гасьцей і дружкоў.

А старшые думаюць сёстры,
Як зьвесьці малодшу сястру,—
Атрутай няшчасную пояць
І кідаюць цела ў віру.

Як страшнае скончылі дзела,
Напаў і на іх самых страх:
Адна паляцела на захад,
Другая на ўсход знашла шлях.

Князь едзе з дружынай у сваты
І з скарбамі княжства свайго...
Находзіць маркотнага бацьку,—
Дачок не знаходзіць яго.

Дружыну сваю князь кідае,
Пушчаецца ў сьвет сам адзін
Шукаці сваёй наймілейшай,
Шукаць да апошніх часін.

За годамі годы плятуцца...
Што далей, ня знаю—было,
Адну толькі чутку аб віры
Сказаць вам на памяць прышло.—

23/I—14 г.

## КАЗКА АБ ПЕСЬНІ.

Даўно ўжо, даўно з тэй пары адбылой
Сталецьцяў мінула нямала, —
Між небам блакітным і чорнай зямлёй
Сьвятляная думка лунала.

Яна аглядала бязьмежна прастор,
І пасынкаў бачыла долі,
Што рукі з зямлі працягалі да зор
І ў цемры канали паволі.

Быў жыць адзінока надзел бедакоў,
Нішто іх з сабой ня лучыла—
Ні крыльлі свабоды, ні скруты акоў...
Адна толькі маці-магіла.

Ня ўмелі змагаць грамадою нягод
І бога хваліць грамадою;
Па шчасьці нязьведаным грэшны народ,
Як каня, ўздыхаў, за вадою.

І шкода зрабілася думцы людзей,
Што чахлі, як чэрві у плесьні,—
І з высі зышла к ім, як дух-яснавей,
І вольнай зьмянілася песьняй.

У тысячы сьветычаў, сонц залатых
Яна разьлілася між імі,
Разьвеяла цемры, ўзьлячыла сьляпых,
Сваё, іх праславіла імя.

Пры песельным звоне народ акрылеў,
Заруxаўся шчасьцем, свабодай,
У бітвах верх браў і свой боль адалеў,
Ня страх быў змагацца з прыродай.

І многа лет цешыўся, ў радасьці цьвіў
І ў долі, і ў волі бяз меры,
Аж покуль ён песьні сваёй не ўгнявіў,
І сьветлай ня здрадзіў ёй веры.

За ласыя словы, за золата звон
Чужацкай шукаць стаў апекі;
Чужынцы запрэглі народ у прыгон,
А песьню аддалі на зьдзекі.

Як славай праз песьню палаць стаў, так згас,—
Хілецi ізноў стаў памалу;
Папробуе песьню—йшчэ звоніць падчас,
Толькі ня так, як бывала.

Гібелі зноў людзі у сьпеку, ў мароз,
І долі і волі збыліся,
І страшная кара пасьцігла іх лёс:
Народ сваёй песьні забыўся.

Мінае сталецьце, другое ідзе,
Ня песьняй, а путамі звоне,
І вечную гібель народу вядзе,
Народ-жа ўсё стогне і стогне.

З лет бегам патомкі, пасьля доўгіх бед,
Аднекуль зноў песьню дасталі,—
І думалі з ёй, як калісь, дзівіць сьвет,
Палаць зноў у даўнешняй хвале.

А толькі іх душ ажывіць не магла
І к шчасьцю масьціці гасьцінец...
Бо думка... бо песьня... чужая была...
З ярмом даў і песьню чужынец!

## «БРАТКА І СЯСТРЫЦА».

*(З народнага).*

Ой, у лузе у зялёным,
Каля быстрай рэчкі
Маладзенькая дзяўчына
Пасьціла авечкі.

Залатое сонца з неба
Грэла, спаць гарнула,
Аж пастушка у цянёчку
Лягла і заснула.

Па гасьцінцы жаўнеранька
Зьнекуль заблудзіўся,
Ён к дзяўчыне маладзенькай
З сядла нахіліўся.

«Ўстань, галубка, мае сэрца,
Годзе спачываці,
Кладзі ножкі у страмёна,
Будзем вандраваці!»

Уставала маладзенька,
Ножкі ў стрэмя клала
І з малойчыкам удалым
У сьвет вандравала.

Едуць поле і другое,
Ўзьехалі на трэцьце,
Пад дубочкам, пад махнатым
Селі пасядзеці.

Прытуліўся жаўнеранька
Да грудзей дзявочых,
Абымае і цалуе
Губанькі і вочы.

Гэтак песьцячы галубку,
Стаў яе пытаці:
«Скуль, дзяўчынка, будзеш родам,
Хто твой бацька, маці?»

А яна яму гаворыць,
Пахіліўшысь нізка:
«Старшыні я дочка буду
З гэтай вёскі блізкай.»

Спахмурнелі ясны вочы
Ў хлопца маладога;
Ён адказу ад дзяўчыны
Не чакаў такога.

«І я, кажа жаўнеранька
Да таей дзяўчыны,
З тэй-жа самай вёскі родам,
Сын таго старшыні!»

. . . . . . . . . . .

Зацямнілі хмары неба
Чорнымі крыламі,
Пачалася шура-бура
З громам, з пярунамі.

І ударыў пяруночак
У два сэрцы тыя,
Што пасьмелі снавацъ грэшна
Думкі маладыя.

Пад тым дубам іх абое
Пахавалі людзі,
Насып сыпалі жвіровы
На вочкі і грудзі.

На тым насьпе ўзышлі кветкі,
Як вясной сьнег стаяў—
Адна жоўценькая кветка,
Сіняя—другая.

Хто ў магілцы сьпіць, усьпелі
Людзі ўжо забыцца,—
Тыя-ж кветкі ахрысцілі:
«Браткай і Сястрыцай.»

23/v—13 г.

## ПЕСЬНЯ.

*(З народных матываў).*

Ах, адкуль-жа гэта вестка,
Што удовіна нявестка
Мужа роднага зраклася
І чужому прадалася,
Як пайшоў муж на вайну
Ў чужа-дальню старану?

Спадабала маладога,
Як яшчэ ў жыцьці нікога,—
У садочак з ім хадзіла,
Зоркі ясныя сачыла.
Не знаходзіла аднэй,
Што сьвяціці мела ей.

А удоўка сыну піша,
Што нявестка ўжо калыша
У калысаццы малое
Не яго, але чужое...
Прыяжджай хутчэй, сынок,
Бяры жонку пад замок!..

Не бядуй, удоўка-маці,—
Ўсёй бяды не зьбедаваці—
З чужа-дальняе старонкі
Сын твой вернецца да жонкі,
Будзе суд над ёй судзіць,
Як з другімі ў сад хадзіць.

Стаў пісьмо сынок чытаці,
Што пісала ўдоўка-маці;
Каня быстрага сядлае,
І да хаты пасьпяшае,
Дзе яго чакае ўжо
Маці, жонка і дзіцё.

Як прыехаў ён да дому,
Ня йшоў кланяцца нікому,

Толькі жонку сваю ўбачыў,
Як над дзіцем горка плача.—
Даставаў ён востры меч,
Галаву зьнімаў ёй з плеч.

З маткай роднаю страчаўся,
Ня вітаўся, не прашчаўся,
Не маліўся Спасу-Богу,
Зноў каня сядлаў ў дарогу,—
З ветрам буйным ехаў жыць,
Галаву навек злажыць.—

2/VII—13 г.

## АДСТУПНІК.

Дажывае стара маці
Сірацінаю у хаце
Ў соннай волі, ў чорнай долі,
Як та груша сярод поля.

Мела сына, але сыну
Захацелася ў чужыну:
Ён пашоў шукаць там шчасьця,
Або згінуць, запрапасьці.

Мела дочак, але дочкі
Пабрылі так сама ў прочкі:
Тая замуж, тая ў службу
На нядолю, на нядружбу.

Дажывае веку маці,—
Ўжо ня можа з ложка ўстаці,
Кліча дочак, кліча сына,—
Але пуста ўсё хаціна.

Сабраліся добры людзі,
Гаманілі: што-то будзе?
Са старою мала ладу—
Трэба даць якую раду.

І да сына лісты пішуць:
—Прыяжджай, бо ўжо чуць дышыць
Маці стара і маячыць:
Цябе хоча ўсё пабачыць.

Сын варочаўся з чужыны
Да матулі, да хаціны
Ніто князем, ніто панам,
Ніто трэзвым, ніто п'яным.

Падышоў да ложка бліжай:
Маці сьпіць, як зьнята з крыжа;
Пахіліўся над ёй нізка,
Як яна здаўн над калыскай.

І старую разбуджае,
Нейкім словам пацяшае,—
Штось гаворыць і гаворыць,—
Тая слухае, як зморы.

Прыглядаецца матуля,
Што зрабілася з сынуляй:
Ён, ці не—стаіць у хаце,
Усё сіліцца згадаці.

І згадала, ой, згадала!
Енкнуць голасу сабрала,
Бы та каня над крыніцай:—
—Чужаніца, чужаніца!

Легла маці ў дамавіну;
Сын зноў ехаў у чужыну,
А за ім шумелі людзі:
Што-то далей з яго будзе?

22/п—14 г.

## РУНЬ.

Абходзіў зважна гаспадар
Свае абсеяныя межы,
Глядзеў, ці добра божы дар
На сьвет зірнуў з зямелькі сьвежай.

На небе хоблачная сінь
Лягла пасьцілкаю махнатай,
А на зямлі, дзе вокам кінь,
Цьвіце, рунее рунь багата.

Над ёй круг сонца залаты
Плыўнём плыве, палае, йскрыцца;
За ёй, трывожачы кусты,
Бурліць, плюскочыцца крыніца.

На ўзьмежку, збыўшыся кары,
Тырчыць ігруша, як сухотнік,
Над грушай ястраб угары
Цікуе кінуты заплотнік.

Як вучыць нас варожбаў лунь,
Як варажыў і летась гэтак,—
Лёг гаспадар плашмя на рунь,
Стаў слухаць сёлета палетак.

Абняўшы рунь ляжыць, як сноп,
Жывых і мёртвых выклаў ў сьведкі;
Прысьмерціў сэрца, зморшчыў лоб...
І чуе руні шопат геткі:

„Забіў ты бацьку, каб на рот
Адзін паменшала у хаце,—
Прышоў твой сёлета чарод,
Жніва табе не дачакаці!“

Ўстаў гаспадар. Як дурнап'ян,
Сказ руні раны разварушыў...
Ён, зьняўшы пояс-саматкан,
Павіс над руняю на йгрушы.

21/XI—18 г.

## 1. ЗАБЫТАЯ КАРЧМА.

Павыбіты вокны, сарвана страха,
Паўлазілі ў гліну вуглы,
Абдымлены комін тырчыць, як вяха,
Як здань, вызірае з імглы.

Стаіць, як абскубаны зьверам шкілет,
Забытая сьветам карчма,
Начніцы пяюць ёй магільны прывет,
Галубіць праклядьцямі цьма.

Разьбітая напал калісь пяруном,
Асіна ўздыхае над ёй,—
Калыша, матае кастыльным гальлём,
Шыпіць, уздыхае зьмяёй.

Як вісельнік, зьвісла галіна адна,
Бы цэпам калоціць ў камель,
І сьведчыць, што некалі, вельмі здаўна
На гэтай галіне...
Як шмель,

Шумела, гудзела карчма усю ноч,
Музыка рваў струны і смык;
Бяда і нуда адыходзілі проч,—
Рашаў гаспадарку мужык.

Вось поўнач...Звон чарак...Сьмех, крыкі, кляцьба...
Ня сьцяміш, дзе свой, дзе чужы...
Гахх!...цьвякнуў тапор...Міг, зьнямела гульба...
Ляжыць труп, як крыж на мяжы...

—Мярцьвяк!!.—загудзеў разбуялы народ
І рынуў з сьвятліцы пад тын...
—Дзе ўбіўца?..На горкай асіне, бы кнот,
Хістаўся нябожчыкаў сын...

Мінула гулянка...Замёрла жыцьцё...
Канае карчма у журбе;
Навокала блудзіць зданьнё, страхацьцё,
Па шчылінах вецер скрабе.

І толькі упоўнач адзін раз у год
Карчма ажывае на міг:
Музыка іграе, гамоніць народ,
Кружыць за кяліхам кялїх.

І ў саму гульню, наганяючы жах,
Зьяўляюцца госьці туды:
Стары—з тапаром у кастлявых грудзях,
На шыі з пятлёй—малады...

13/XI—18 г.

## II. ЗАБЫТАЯ КАРЧМА.

Ля дарогі, ля далёкай,
Каля крыжавой,
Сьпіць карчма там адзінока
З злупленай страхой.

Пахілілась на старонку,
Прылягла к зямлі;
Невясёлыя карчомку
Думы прыгнялі.

Аб мінуўшай славе, дзівах—
Як была п'яна,—
Аб дзяньках былых, шчасьлівых
Думае яна.

Як ня думаць пра былое,
Поўнае прыкрас!
Перайшло, і ўжо ня тое,
Ўжо ня той, ох, час!

Калісь гоманам шумела,
Людна ў ёй было,
Падарожных многа мела,—
Ўсё ня раз сяло.

І жылося, і вялося,
Гэй, інакш карчме!—
Рэха рогату нядлося
Ўлетку і ўзіме.

Адбывалісь вечарынкі
І вясельлі ўраз,
Захапляючы дзянінкі
Ў ночны добры час.

Рэжа музыка званліва,
Топат ног такі!
Разгуляліся на дзіва
Дзеўкі, дзяцюкі.

Кругам старшыя пры чарцы
Селі, люлькі цьмюць,
Аб пагодзе, гаспадарцы
Гутаркі вядуць.

А гарэлка рэчкай льецца,
Бегае шынкар,
Песьня ўдалая нясецца,
З твару сыпле жар.

Ой, дзянёк так кожны праве
У карчме шум, крык...
Счэзла доля. Па забаве!
Час вясёлы зьнік.

Ўсё прапала, згібла недзе,
Як сон, як туман;
У карчму ўжо не заедзе
Ні мужык, ні пан.

У стадоле ня ржуць коні,
Коз ня бэчыць зброд,
Не гамоніць пры шынкоўні
Выпіўшы народ.

Косьці парыць у магіле
Ўжо шынкар даўно,
Аб нячыстай людзі сіле
Баюць на адно.

Кажуць: поўнач як настане,
І сяло засьне,—
Адбываецца гуляньне,
Як здаўна ў карчме.

Чэрці, ведзьмы, ваўкалакі
Сходзяцца гуляць;
На стол зьяўляцца прысмакі,
Музыка чуваць.

Бліск сьвятла заблісьне яркі,
Пойдзе ходам клум
Звоняць міскі, пляшкі, чаркі...
П'янства, скокі, шум.

Жэняць ведзьму з ваўкалакам,
Сватае шынкар,
Попам—рабін, ведзьма—дзякам,
А чорт—гаспадар.

Так гуляюць, покуль недзе
Ня кігне пятух...
Гіне ўсё, і па бяседзе!
Пуста, сумна ўкруг.

Цень са сьцен плыве пануры,
Як з якой турмы,
Кот зьдзічэлы ловіць шчуры
У сянях карчмы.

Крыльлі ў цемнаце лапочуць
Кажаноў, начніцы;
Віхры ў коміне хіхочуць
Жудка без граніц.

Жах карчма ўвесь чуе гэты
І думу сnуе
Пра мінуўшыя дні, леты
Лепшыя свае.

1907 г.

## БУСЛЫ.

Падчысьціла Ўзьвіжаньне ўсю землю шчыра,
Ліст зводзе хмызьняк заскарусы...
Зьлятаюцца буслы к адлёту у вырай,
На сходку зыходзяцца буслы.

Дзе плотам граніцу адвёў сабе выган,
За прасла пасчэпліваў прасла,—
За выганам буслы рашаюць суд мігам,
Пакуль дню лучына ня згасла.

Хто млечны шлях ноччу дагледзіць, ня зблудзе,
Хто мора адмерыць крыламі,—
Той вылеціць толькі ў далёкія людзі,
Той вылеціць ў вырай з буслямі.

Клякочуць, хлапочуць. І крыльлі і скабы
Сусед аглядае суседу,
Разводзяць і дзеляць, хто дужы, хто слабы,
Хто болей, хто меней сьвет зьведаў.

Зрабілі агледзіны, зрадзілі раду,
К канцу прыбліжаецца сходка,
Шнур зладзілі к выраю ў згодзе і складу,
Сьціхае гамонка-клякотка.

Ўжо мецяцца к лёту, ўжо хлопаюць крыльлі...
Бач, бусел адзін стаіць хмуры,—
Яго аднаго усе неяк забылі,
Адзін ён ня зьмесьціўся ў шнуры.

Стаіць і чакае сабе прыгавору,—
Знаў—буслава сходка ня сьмешкі...
Ой, болей яму не пабачыці мора,
Ня бачыці выраю сьцежкі!

Ізноў ўсклекаталі крылатыя сябры:
— Ён слабы, не наскага міру!
Хай гіне, хто слабы, згнілі ў каго жабры!
Сьмерць буслу, няздатнаму ў вырай!

Сьмерць! сьмерць!.. Задымела пуховае пер'е,
З-пад сэрца кроў хлынула стужкай...
І, споўніўшы прыгавар, буслы ў бязьмер'е
Ўзьняліся за дружкаю дружка.

Шнур доўгі паплёўся пад небам вячыстым,
Плыў з клёкатам далей і далей,
Аж згінуў з-пад вока у воблаках мглістых,
Спавіўся ў туманныя хвалі.

А там, а за выганам сьцелецца поле,
На полі рассыпаны косьці.
Над косьцямі вецер гуляе, скаголе,
Груган залятае у госьці.

А там, ля касьцей залаціцца пярсьцёнак,
А надпісь чужой на ім мовай:
«Як вернецца бусел з нязнаных старонак—
Ка мне мілы вернецца ўзнова...»

14/хі—18 года.

## ПЕРШЫ СЬНЕГ.

Халоднай пабелай магільна залёг
На зжатае поле, на скошаны лог.

Лёг пухам на лесе, на жоўтых лісьцях,
Абсеяў, абсыпаў прысады і шлях.

Так высыпаў зьзябна, бяградасна сьнег
У першы папас свой, у першы начлег.

Ад стада адбіўшыся, птушка адна
Квіліць і квіліць сярод бела радна.

На небе на сьнежным ні сонца, ні зор,
На гонях на сьнежных ні груд, ні разор.

Абсьнежаны сьвет без канца, без граніц,
Душа ажно тлее, як сьвечка з Грамніц.

На хаце, за хатай махнаціцца бель,
На белі за тынам, як нітка з кудзель,

Чырвоная стужка скрозь бель віхаціць,
І ў сажаўцы губіць свой сьлед гэта ніць.

Ад раньня скараньнем бурліць варажба:
Што значыць такі сьлед, такая хадзьба?

Хто сьмеў першы сьнег асьвянціці крывёй?
Крывавай ён веры—чужы ён ці свой!

Дагадка шыбае ў лядзянай імгле,
Паўзе і прысуд-перасуд па сяле.

Па полі па бледным снуе бледны цень,
А птушка квіліць і квіліць цэлы дзень...

У гэты сьнег першы брат брата засек,
І ў сажаўку трупа валок цераз сьнег.

20/XI—18 г.

## РАЗЛАД.

Куды ня глянеш—людзі, людзі,
Куды ня глянеш—шэльмы, шэльмы,
Куды ня глянеш—б'юцца ў грудзі,
Што значыць: правільныя вельмі.

Адзін накраў—багацьце ўмножыў,
Другі згалеў, галей сабакі...
Бяду нажыці ўсякі можа,
Бяды пазбыціся—ня ўсякі.

Аслу з напоўненай машною
Леў акаваны лапы ліжа...
Рака затоўчана крывёю,
Ўдава заводзіць каля крыжа.

Дабро і зло—ў ваднолькай мерцы;
Сьвіньня сьвятыя думы блоце,
Вужакі сыкаюць на сэрцы,
Душа валяецца ў балоце.

Крутым хвастом на ўсе староны,
Як сучка, доля меле, дзеле:
Адным спраўляе пахароны,
Другіх склікае на вясельле.

Няпраўда праўду акязала,
І едзе людзкасьці па сьпіне,
А чалавек—ком гною, сала—
Быдлём, сьляпнём жыве і гіне.

Адзін чорт весел, зубы скаліць,
Загаціў пекла да варотаў;
Рад шэльма: польку з ведзьмай валіць...
Такі разлад—яго работа!

1907 год.

## ПАЭЗІЯ.

Праўду з няпраўдай,
Цноту з гарэзіяй
Вымяшай спрытам—
Будзе паэзія.

Лета, ноч, месяц,
Клёнік, чарэсьня,
Хлопец, дзяўчына,—
Вось вам і песьня.

Шэпты, прысяга,
Вечная згода,
Вечная любасьць,—
Вось вам і ода.

Пуня, дзяўчына,
Сена-прынада,
Хлопец пад пуняй,—
Вось сэрэнада.

Пуня падперта...
Голас: сусед я!
Бацька з дубінай.—
Вось вам камэд'я.

Зімка. Зьнік хлопец,
Дзеўка ўжо «мамай»,
Сьлёзы... Палонка.
Вось вам і драма.

Сьвет Людзі-шэльмы,
Крадуць, лгуць шчыра,
Чэсны паэта,—
Вось вам сатыра.

Двор, хорам панскі;
Рада-парада,—
Добрасьць, пачцівасьць,—
Вось вам бальляда.

Сьвіньні, падпасьвіч,
Лапаць, парцянка,
Непагадзь, золка,—
Вось і сялянка.

Добры пан, пані;
Корміць іх ласка
Бедных, галодных,—
Вось вам і казка.

Пан, хам і поле,
Праца, нястатак...
Тры аплявухі,—
Вось і канчатак.

1906 г.

## ПРАСТУПНІК.

Судзеце мяне ў ссылку,
Закуйце ў ланцугі,—
Праступнік я вялікі,
Папоўніў я грахі.

На хату сухастойку
У панскай пушчы сьсек,
На дзірванок на дворны
Я езьдзіў на начлег.

У воласьць не аддаў я
Падаткаў на пару,
Схадзіць раз на абедню
Я не пасьпеў у царкву.

Раз перад земскім шапкі
Здурэў, забыўся зьняць,
Вурадніку, падпіўшы,
Хацеў касьцей намяць.

Чытаць люблю я кніжкі,
Газэтку раз знашлі,
Крычаў з другімі з гора:
Свабоды і зямлі.

Я грэшнік, я праступнік,
Мой Божа дарагі!
Судзеце мяна ў ссылку,—
Закуйце ў ланцугі!

1907 г.

## ПЕСЬНЯ.

Гнаны Янка доляй,
Змушаны патрэбай
Цягне ў места дровы,
Каб купіці хлеба.

А дзе кісьне пуня
Панская старая,
Прэцца Янукова
Жонка маладая.

П'е мужык на рынку
Барышы за дровы,
А паніч гуляе
З жонкай мужыковай.

Накупіў за дровы
Янка хлеба, солі
I вясло баранкаў
Для сваёй Антолі.

I гасьцінцам дома
Жонку ён частуе,
Паніча з палацу
У руку цалуе.

## ЯНКА КАНЦАВЫ.

Янка Канцавы —
Гаспадар ня злом,
Гэткай галавы
Пашўкаць з вагнём.

Што ня зробіць ён—
На дзівы усім:
Дзівіцца Лявон,
Дзівіцца Яўхім.

Сонца на паўдня—
Ён тады ўстае,
Рухне, як сьвіньня,
Сядзе—пазяе.

Змыўся, рукавом
Выцер нос і, вог,
Бульбай з праснаком
Надзяе жывот.

Сяк ды так пад'еў,
Вылез з-за стала,
Вопратку узьдзеў,
Шапку зьняў з кала;

Падышоў к вадзе—
Хочацца, знаць, піць—
І к рабоце йдзе,
Чуць нагой вурзіць.

«Сьлепака» запрог
У саху з дугой,—
Пугай шлёг, ды шлёг,
Ну, ваўкі з табой!

Як шнур запахаў
Гэты наш Янук,—
Ня знаць ці араў,
Ці парыў парсюк.

Вытухшых зярнят
Па ральлі патрос;
Будзе збожжа шмат—
Мо' і больш за воз.

Ну, во' ўжо і час
Выбрысьці з касой, —
Хто-ж ахвоцен з нас
Уставаць з зарой.

Янка-ж-маладзец!
Рана рад устаць,
Каб—пусты канец!
Не цягнула спаць.

Як там ня было—
Нeяк пакасіў;
Жніва навярзло—
Зжаў і павазіў.

Янка сяк, то так
Лета прамадзеў,
Стаў жыць ня-бы-як,—
Стаў есьць больш, як еў.

Хутка, да Пакроў,
Збожжа змалаціў,
Але чорт падвёў—
Чыншу не плаціў.

Стараста, як кнут,
Хоць як не прасі,—
Што-дня тут і тут:
Чынш плаці, нясі.

Магазыньнік, той—
Ані адагнаць:
—Ссып мне, што вясной
Браў шнур засяваць.

Янка рад, нярад,
А дыхнуць ані,
Быццам той скурат,—
Круціцца ў вагні.

Толькі ўсё яму
Гора як ні ў чом:
Прэцца у карчму
З поўненькім мяшком.

Ёўна—хітры жыд,
Шмат жыў на вяку...
Цэлы рай адкрыт
Янку бедаку.

Шумна у карчме,
Янка водзе рэй,—
Гэтым рукі жме,
Тым ліць льле скарэй.

Тыча пад бакі
Сойкі для другіх;
Весялы такі,
Абымае ўсіх.

Лоўка падгуляў,
Выбрыў за карчму;
Гразі і канаў
Ўжо няма яму.

Мчыцца, быццам пан,
Колы трах-тарах!
У вачох туман,
Немач у нагах.

Прыляцеў на двор,
Зьлез, у хату йдзе,
Дзьверы ўжо адчёр,
Песьню ўжо вядзе,

Песьню-крык гу-га!
Увайшоў, глядзіць,
Аж тут качарга,
Як з нябёс ляціць.

Ня ўсьпеў што сказаць, —
Трудна,—хлоп ды хлоп!
Ой, шалёны, знаць,
Хрысьціць бабаў поп!

Нияк жонку змог,
Выгнаў дзеці вон,
Спаць на печы лёг...
Май-жа райскі сон.

. . . . . . .

Дзівіцца ўвесь сьвет,
Што так гол Янук,—
Дзіваваўся дзед,
Дасца дзіву ўнук.

1906 г.

## ТУТЭЙШЫ.

На чужы розум я ня ўмею брацъ,
Пасвойму я мяркую аб усім;
Трапляю дровы сеч, касіць, араць
І сеяць—штось сабе, а штось другім.

Я ня чыноўнік і ня граф, ня князь,
Так сама—я ня турак і ня грэк,
І нават не паляк і не маскаль,
А проста, я тутэйшы чалавек!

*

Ў сьвятую веру моц, здароў, ці квол;
Набожна ў цэркаў і ў касьцёл хаджу,
Хаця ў царкве крычаць: ня йдзі ў касьцёл,
А у касьцеле—не хадзі ў царкву.

Калі-ж каго-бы стрэліла спытаць:
Якой ты веры? ужо-ж бы так адсек:
Тутэйшай веры я, каб не салгаць,
Бо я і сам тутэйшы чалавек!

*

Мяне Бог не пакрыўдзіў языком,
(У жонкі-ж меле ён, як калаўрот),
Мне з прадзедаў застаўся ён з жыцьцём,
З ім ведае мяне чужы народ.

А вось, якой я мовай гавару,
Хоць пры, каб сьцяміць, к знахару па лек...
Ну што? скажу: тутэйшая яна,
Як я і сам тутэйшы чалавек!

*

Ад прадзедаў і бацькаўшчыну ўзяў—
Вялікая, багатая яна!—
Граніц ніхто йшчэ вокам не абняў,
Як Бог адзін—яна ў мяне адна.

А як завуць край гэты родны мой—
Забыўся ўжо праз свой прыгон і зьдзек;
Мабыць, забраны, ці тутэйшы ён,
Я-ж сын яго—тутэйшы чалавек!

*

Вось так ніто жыву і на жыву,
Сваім, што бачу, ня веру вачам,
Што чую—не бяру у галаву,
І што я знаю—ўжо ня знаю сам.

Спаўняючы што трэба, а што не,
Сяк-так мой цягнецца на сьвеце век,
А як памру, то буду спаць, як пан,
І сьніць, што я тутэйшы чалавек!

6/VII—13 г.

## НЯМА ГРОШЫ.

Кожны гэта пэўна скеміў,
Што ня ўсё ў нас так, як трэба,
А ня лжэ і біты ў цемя,
Што і сходзіць ня ўсё з неба.
    Ёсьць на ўсё прыпеў харошы:
    «Трэба грошы—няма грошы!»

*

Шнур у Сьцёпкі штось вузіцца...,
Дзеці... Крута з хлебам, з сольлю;
Б'еցца, рвецца, не ляніцца;
Эх! каб так, ды ніўкі болей!
    А ні сьсюль прыпеў харошы:
    «Трэба грошы—няма грошы!»

*

Дзеці вырасьлі ў Сьцяпана;
Чуў, ёсьць школы, ёсьць навука.
Добра ўзяць прымер ад пана...
Ці-ж то ўчыцца вельмі штука?
    А тут зноў прыпеў харошы:
    «Трэба грошы—няма грошы!»

*

Жэніць сына, хрысьце ўнука,—
Пойдзе з просьбай к пану, к «чыну»...
Посьле працы, посьле мукаў
Адпачыў-бы сам часіну...
    А зусюль прыпеў харошы:
    «Трэба грошы—няма грошы!»

*

Жонка штось ня выйдзе з хаткі:
Зьлегла, крэкча і... ўмірае;
Цісьне стараста падаткі;
Фэльчар, поп—бяда такая!
    Аж тут, на прыпеў харошы:
    «Трэба грошы—і ёсьць грошы!»

## ДРЭМЛЕ ЮРКА.

Ёсьць старонкі, дзе ў народзе
Беды ня гуляюць:
Хлеба годзе, сьвятла годзе,
З волі карыстаюць.
А у нас-жа, што за дзіва?
Бяздольнасьць такая!..
Дрэмле Юрка ў заканурку,
І долі чакае!

*

Пахілілася хаціна,
У хлявочку пуста;
Толькі латы—кажурына,
Хлеба хоць-бы луста.
Кепска жыці, што-ж такое,
Хто аб гэтым дбае?..
Дрэмле Юрка ў заканурку
І долі чакае!

*

Чутны воклік пахаронны,
Крыж стаўляюць новы;
Дзень і ноч у кузьнях-горнах
Ладзяць, клеплюць ковы;
Беспрасьветна, бяспуцінна,
Як магіла тая!..
Дрэмле Юрка ў заканурку
І долі чакае!

*

Дабрадзеяў, як на тое,
Хоць прудзі ты рэкі?
Слаўна, Юрка! Што-ж такое?
Мае шмат апекі.
Хоць яму апека гэта
Костжаю у горле...
Дрэмле Юрка ў заканурку
І чакае долі.

## «НЯ ЎСЕ ДОМА».

Мы ад дзеда аж да ўнука,
Як дзе бачым што ня так,
З вечнай тычымся навукай,—
І гаворым, хоць няўзнак,—
Ці сваёму ці чужому:
«Ня ўсе дома, ня ўсе дома!»

*

Знаў хлапца, Арцёмам зваўся,
Меў тады семнацнаць год;
Бедзен, нерахман здаваўся,
Кемкі-ж быў, каб яго звод!
А плялі ўсе на Арцёма:
«Ня ўсе дома, ня ўсе дома.»

*

Ад стыдлівасьці ён нейкай
Да карчмы ня знаў дзе сьлед;
За апошнюю капейку
Купіць кніжак ці газэт.
І тут валяць на Арцёма:
«Ня ўсе дома, ня ўсе дома»!

*

Вось сабе дзяўчыну мае,—
Стаў вяселейка спраўляць;
Беднавата «маладая»,
Гаспадыня-ж—пашукаць!
Тут ізноў ўсе на Арцёма:
«Ня ўсе дома, ня ўсе дома?»

*

Стаў жыць з жонкай удваёчку
Працавіта небарак—
На сям'ю сваю дзень, ночку,
Як мурашка, проста так...
А ўсе валяць на Арцёма:
«Ня ўсе дома, ня ўсе дома!»

*

Вось і ў школу ходзяць дзеці,—
Кожны чыст, абмыт, абшыт,
Сам ня хвор і лапці ўзьдзеці
І заціркаю быць сыт.
І тут валяць на Арцёма:
«Ня ўсе дома, ня ўсе дома!»

*

Сходзяць годы за гадамі,
І Арцёма хоць на «ўра!»
Ён з сынамі, як з дубамі,
Статак, коні, моц дабра!
Аж сягоньня на Арцёма
Штось ня кажуць: «ня ўсе дома!»

## ДУШАЧКА, ШЫНКАРКА...

Душачка, шынкарка,
Калі ў бога верыш,
Дай, дай пахмяліцца,
Хоць чарку, хоць трошкі!

Кепска трохі: грошы
Ня маю сягоньня,
Але-ж мяне знаеш,—
Я круціць ня ўмею.

Ўрэшце і заставу
Дам, калі захочаш;
Гэтага замала.—
Шчыра пацалую.

Эх, каб яго немач
З гэтакім і шчасьцем!
Ты і ў цям ня возьмеш,
Што спаткаці можа.

Так учора цьвёрда
Мецiўся ня ўпiцца,—
Бач, сваяк наўрэўся,
I глядзi, што вышла:

З сваяком пабiўся,
Чуць дамоў заплёўся,
Ўхлёпаўся ў балота
I пасеяў шапку.

А пасьля пахмельля
Смак цi знаеш гэты?—
I ў грудзёх трасецца,
I лоб як ня трэсьне.

Дык, шынкарка-сэрца,
Калi ў бога верыш,
Дай, дай пахмялiцца,
Хоць чарку, хоць капку!

## ПРЫ ВЫПIЎЦЫ.

Вось i карчомка—
Вясёлы наш край!
Жыва, гэй, Шлёмка,
Гарэлкi давай!

Што там марудзiш
Ты гэткi, такi?
Ў крыўдзе ня будзеш,
Як п'юць бедакi!

Наша багацьце
Нямоцна нi ў чым,—
Грошы ня хваце—
Заставу дадзiм.

Толькi нам водкi
Давай, не жалей!
Век наш кароткi,
Зато п'ём часьцей.

Дарма мы рвёмся
Нядолю змагаць,—
Водкі нап'ёмся,
І гора ня знаць.

Там каля хатаў
Плач ходзіць з бядой...
Менск наш багаты—
Ён збавіць, як стой.

Возік каменьняў—
Тры злоты ўжо ёсьць,
Воз дроў, паленьняў—
Рубельчык—як госьць.

Вось і няскупа
Ўскашэліцца голь,—
Ёсьць штось на крупы,
А трохі на соль!

Рэшту ў сівусе
Мы ўтопім навек:
З чаркай, з Марусяй
Вясёл чалавек.

П'ём водку, браце,
П'ём ня-бы як.—
Мей больш багацьця—
Пілі-бы ня так.

Жыва-ж, гэй, Шлёмка,
Гарэлку стаўляй,
Чаркай ды ёмкай
Ты нас надзяляй!

Весела, гучна
Час будзе ляцець,
Будзем піць дружна
І песенькі пець.

Ночка за чаркай
Пяройдзе, як стой,
Раніца ярка
Зардзіць над зямлёй.

Дымкай чырвонай
Зара замігціць,
Чарку чароўна
Сьвятло развагніць.

1906 г.

## БЛАГАЯ ЖОНКА.

Апляла мяне нядоля
З неспакойнай бабай:
Ледзьве цягне ногі з поля,—
Вадзіцца-ж ня слаба.

Хоць яе мужык я родны, —
Цягам мучыць звадай;
Ці-то годны, ці нягодны,—
Прычапіцца рада.

Як даўгі язык разваліць.—
Сам чорт не запрэча;
Век радню сваю ўсю хваліць,
А маю нівэча.

Што яна мяне здатнейшай,—
У вадным б'е чыне,—
Разумнейшай, дасьціпнейшай,
Лепшай гаспадыняй.

Часта паласаваў пугай,
Валасы патузаў;
Скураной ня раз папругай
Наляпіў ёй гузаў.

Стану біць, запершы ў клеці:
Дружна поўха скача;
І што-ж? Плачуць толькі дзеці,
І сама ўсьцяж плача.

І нічога, ой нічога
Ей не памагае,—
Век браханьня абрыднога
Баба ня кідае.

Слухай, малец, будзь прыкладным,
Раджу не за грошы,—
Не паддайся вочам здрадным
Дзеўчыны харошай!

Не бяры жонкі выбрэднай
Ды ў багатай скуры,
Хай сабе ўжо будзе беднай,
Ды добрай натуры!

1906 г.

## КАЦЯРЫНА.

Ох, як гэта Кацярына
Спрытная ўдава,
Дык другая і дзяўчына
Пры ёй дрэнь-трава!

Кожны хлопец аж трасецца,
Вокам як міргне,
А як губай засьмяецца—
Доўга не засьне.

Кацярына—гаспадыня,
Словам—баба зух!
Мае ўсякае начыньне
І курэй катух.

Не якая там няздара
На руку яна:
Пале ў печы, есьці вара,
І усё адна.

Наварыла чамярухі,
Ладак напякла,
Паляцела і сівухі
Пляшку прынясла.

Маладзенькага Захарку
Садзіць за сталом,
І гарэлку чарка ў чарку
П'юць сабе ўдваём.

Закурылася чупрына...
Спаці хоча госьць.
Знае дзела Кацярына...
Дзе-ж такая ёсьць?

Госьцю ложак памасьціла
Наша удава;
Пад вакном-жа колькі сіла
Гукае сава.

1906 г.

## ПРЫПЕЎКА.

На што бабе агарод,
Калі баба стара,
Калі бабе са сто год,
Кіпне пэўне зара.

Лепш аддаць гэты садок
Дзяўчынцы прыгожай,
Хай гусьценькі вішнячок
У садку размножа.

Будзе надна у цяньку
Летам паляжаці,
З пекным хлопцам падруку
Ўдвойчы пагуляці.

Будзе вішанькі зрываць
Дзяўчынка насьпелы
І дружочка частаваць
І туліць нясьмела.

1906 г.

## З НУДЫ.

Нудна... Штосьці ломіць косьці,
Ныюць жалем грудзі,
На надвор'е выйду, гляну,
Мо' уцешней будзе.

Ўзяў апратку, кінуў хатку,
На сяло выходжу,
Там-сям лажу, свата, свацьцю,
То куму знаходжу.

Пад ваконца, дзе больш сонца,
Дзевачкі зышліся,—
Дружка ў дружку, як сасонкі,
Пазірай—дзівіся!

Бровы, вочкі, губкі, шчочкі
Аж завуць к пакусе,
Грудзі пульхны, як пампушкі,
Не адходзь—любуйся!

Ой, дзяўчаткі! хоць вы гладкі,
Быццам маляваны,—
Не хацеў-бы я папасьці
Ў вашыя кайданы.

З вамі жарты—не з паўквартай,—
Згінуў—толькі глянуў,
Будзь пры памяці, цьвярозы,—
З вамі будзеш п'яны.

З сэрца ранак і жаданак
Ня збыць і сякерай;
Ці быў з вамі, а ўжо гінеш,—
Любіш вас бяз меры.

І ахвоты да работы
Ня прыдбаці з вамі...
Ох, сваю вяліку сілу
Знаеце вы самі!

1907 г.

## ФЭЛЬКАВА ВЯСЕЛЬЛЕ.

Вось і вяселейка
Ў нашага Фэлькі!
Ў дзела захоплены
Міскі, бутэлькі.

Што называецца,
Музыка рэжа;
Полька, Лявоніха,
Знай, не залежа!

Хлопцы з дзяўчатамі
Ў жарты заходзяць,
Бабы шлюбоўнікам
Песьні заводзяць.

Людам паўнюханька
Хата набіта...
Гоман, таўпеханьне—
Пекла, і квіта!

Вось, каб дзе дзеўчынку
З гора абняці,
З чарачку выпіці
Дый пайсьці спаці!

1908 г.

## ЛЯКАРСТВА.

### БАЙКА.

Было гэта так, мой сватка:
Ляжала праз Нёман кладка,
Па ёй
З адной
Стараны шоў Паляк,
А з другой—шоў Ліцьвяк.
І вось праз час—ня помню ўжо які—
Сустрэліся бедакі.

Запаланеліст вочы:
Ні той ні сёй ня хоча
Ні адступаць,
Ні ўніз скакаць.
Абодва ў гвалт і крык,
Як боскі сьвет вялік,
Нават поўхі ў работу
Пусьціць маюць ахвоту.

Аж тут, ні стуль, ні сьсюль вазьміся
Ды Мураўёва цень зьявіся!
Хоць цень, а ўсё-ж крапяч ухваткай:
Чапні ды бухні ў рэчку кладку
І з ёю так—
Абодвух задзірак...

— —

Чытач, ты толькі ня пужайся:
Ліцьвін і Лях жывым застаўся,
Яшчэ дазналісь, што ў нязгодзе
Вада халодная ня шкодзе.

7/V—09 г.

## ДЗЕ НЯ КІНЬ—ДЫК КЛІН!

—Ну. а як табе на службе:
Ці работы многа?—
Так сусед пытаў, між іншым,
Янку Канцавога.

—Ах, ня дай Бог за чужою
Поўзаць гаспадаркай!
Дзень і ноч, як лунь таўкуся,
Як у пекле Марка!—

А сусед яму навучна
Ды пабожна клепе:
—Хоць тут трудна жыць—затое
Будзе ў небе лепей.

—Знаю, знаю!—так суседу
Адчыкрыжыў Янка:
Бокам вылезе мне ў небе
Гэта абяцанка!

Як паткнуся,—ўраз пагоняць
Да ўсякай работы:
То сядлай каня для Юр'і,
То чысьць яму боты.

Або ўпоўнач ўстань і сонца
Запалі да золка,
Вытры з пылу усе зоры,
Месяц выбель лоўка.

Завядзі машыну з ветрам,
Папраў з дождкам сіта,
Натаўчы у ступе граду,
Ды яшчэ ня квіта:

—Папіхай хутчэй, гад, хмары!
А перун дзе кінуў?
Набівай, страляй! Маланкай
Сьцёбай, каб ты згінуў!

Янка тутка, Янка тамка,
Хоць ты ў пекла прыся!
А прыдзірак ад сьвятых ўсіх
Сколькі нацярпішся!..

1914 г.

## БУРАЛОМ.

Пахіліўся дуб да дуба
Ды бурчыць, гамоне:
—Што-то вецер вельмі груба
Загуляў сягоньня!

Паглядзі, сусед, на пушчу,
Як трашчаць галіны,—

Там у самую ўжо гушчу
Бецер сілы кінуў!

Вун, прымець, старуха-хвойка
Скочыла з карэньня,
А вун там з бярозы бойкай
Валіцца паленьне.

Пакацілася удоўжкі
І асіна-сваці...
Фу! ты, аж мяне у дрожкі
Пачало кідаці!..

Што? Няўстояла і ліпа—
Рухнула бядачка!..
Ці-ж быць можа? ўжо захліпаў
І стары твой бацька.

Ах! што гэта?.. Праз узгоркі...
Ціж-то к нам?.. Ой, ногі...
І ня скончыўшы гаворкі,
Рынуў дуб, як доўгі.

14/XI—18.

## СВАЯКІ.

Раз абселі беларуса
Маскалі ды Ляхі,
І давай яму сваяцтва
Тыкаці з-пад пахі:

—Ты мойісьцінны браточак!—
Маскалёк бармоча;
—Ты мой хрэсьнік, мой сыночак!—
Юда-Лях сакоча.

Беларус-жа ім на тое:
—Сваячкі мае вы:
Смачны жолудзь вам на каву,
Дый высока дрэва!—

1914 г.

## ЯСТРАБ, ЛІСІЦА Й ПЕВЕНЬ.

Нeяк стрэўшыся няўмысьне
Ястраб і лісіца з пеўнем,
Пачалі яго прасіці,
Каб быў ласкаў, ды што сьпеў ім.

— Ты, так кажуць,—як мы чулі,
Маеш голас, бы жалейку;
Дык запей нам—мы заплацім,
Не паскупімся капейкай!

Певень выслухаў, дый кажа,
Як прыстала ў яго стане:
— Усё гатоў вам сьпець паночкі,
Нават... «вечна спачываньне!».

1913 г.

## КАЖУХ І ВАТА.

Заспрачаўся кажух з ватай,
Адагнаўшы згоду,
Хто з іх лепшы, карысьнейшы,
Хто якога роду.
Вата кажа: «што ты значыш
Мне, кажух касматы?
Я чужыя знаю землі—
Ты-ж—сяло ды хату!»

«Праўда, праўда,—тут гаворыць
Ёй кажух-маруда,—
Я жыхар зусім тутэйшы,
Ты-ж адно—прыблуда!»

1913 год.

## РАСЕЙСКІЯ ЧЫГУНКІ.

Кожны ведае ў Расеі,
Што, як вол прыплоду,—
Так Расейскія чыгункі
Не даюць даходу

I мазгі «чыны» ўсё сушаць
Над такой праявай,
Ды ніяк ня ўцямяць праўды,
У чым схавана справа.

А рэч проста: катастрофы
Зводзяць гаспадарку;
Бо які-ж паедзе дурань
На зламаньне карку?!

1914 г.

## ДЭПУТАТЫ Й ГРАМАДЗЯНЕ.

Селі ў Думу думаць думы
Паны-дэпутаты
І, як шэршні, між сабою
Спор вядуць заўзяты.

Той крычыць: такіх нам трэба
Ладаў і парадкаў;
Той гудзіць: ня трэ' нічога—
Ўсё ў Русі йдзе гладка!

Хто з іх праў, а хто няправы,—
Трудна адгадаці,—
Адно толькі—грамадзяне
Змушаны маўчаці.

1913 г.

## СЕЛЯНІН І КОНЬ.

Пад гарою ў селяніна
Конь прыстаў дарэшты:
Бедны змучыўся, ні з месца,
Хоць яго зарэж ты!

Селянін ужо і ласкай:
«Но! Цягні, вашэці!
Бо інакш, напішуць брыдка
Аб табе ў газэце...»

А яму конь: «Няхай пішуш
Раз такой натуры,
Адно ты пакінь пісаці
На маёй-жа скуры!»

1913 г.

## ГРУГАН I САЛАВЕЙ.

Груган, сустрэўшы салаўя,
З сваяцтвам лезьці стаў к таму:
«Ты родны мне, як бачу я,—
Хадзі-ж, як брата абыму!

У нас з табой адзін фасон—
Як глюгі, крыльлі і насы,
Птушына ў нас быцьцё і сон,
Птушыны маем галасы.

Дык што-ж нам жыць так па-сабе?
Пры том табою не гарджу,
Хоць я шмат большы ад цябе
І ў чорнай вопратцы хаджу.»

«О, вельмі дзякую за чэсьць!—
Адпеў салоўка з-над палян,—
Мо' ў нас і аднолькова шэрсьць,
А ўсё-ж такі ты, брат,—груган!»

1914 г.

## АСЁЛ І ЯГО ЦЕНЬ.

Асёл, убачыўшы ў вадзе
Ў крынічнай свой асьліны цень,
Зьдзівіўся, стаў, далей ня йдзе,
Глядзіць ды думае, як пень.

Які тут чорт намаляваў
Мяне інакшым, як я ёсьць?
Такія вушы падаваў,
Так пакрывіў на сьпіне косьць!

І, каб сябе не аглядаць
Ды разагнаць сваю нуду,
Ён капытом давай мяшаць
З гразёю чыстую ваду.

1914 г.

## СЬВІНАПАС І СТРЫНАТКА.

Сьвінапас, злавіўшы здрадна
У сіло стрынатку,
Стаў чытаці ёй маралы—
(Меў таку ўжо ўхватку).

«Ты пяюшка,—так ён кажа,—
Сорам мей і ўвагу:
Шмат ня пей, ня пей і мала,
Ня дай з клеткі цягу!

Аб маім пастырскім чыне,
На'т ня думай брыдка,
А тым болей—мей шацунак
Над маёю сьвіткай.»

А стрынатка: «Ягамосьцю!
Чым ты—знаю болей,
Дык пакінь сабе маралы,
Мне дай толькі волю!»

1914 г.

## ПЧОЛЫ І ТРУТНІ.

Стаў даводзіць селяніну
Нехта нейкі ў чорным:
Як павінен быці ўслужным,
Згодлівым, пакорным.

Бо і пчолцы,—кажа ў чорным,—
Мёд гадуюць кветкі,
Ў згодзе з пчолкамі і трутні
П'юць той мёд, як дзеткі.

А селянін тут пад тое
Буркнуў запытаньне:
«Ну, а хто пчала, хто труцень—
Я, ці ты, васпане?»

1913.

## «ЧЫН», ГЭРБ І ЛАПАЦЬ.

Заспрачаліся „чын“ з гэрбам
Раз, як п'яны з п'яным:
Хто з іх лепшы і над кім хто
Быць павінен панам.

Лапаць доўга слухаў, слухаў,
Дык буркнуў бяз жартаў:
«Кіньце спрэчку: вы абодва
Вісельніцы варты!»

21/X—13 г.

## Г Р У Г А Н Ы.

Адзін з захаду груган,
А другі з усходу
Прыляцелі на сяло,
На чужую школу

І давай пам'ж сабой
Гутарыць, хваліцца:
—Круму! Круму! Што за рай!
Ёсць чым пажывіцца!

Дасюль елі мерцьвякоў,
А цяпер затое
Будзем піць мы кроў жывых,
Мяса есьць жывое!

## НА ЎСЕ РУКІ.

Ён з начальствам знае дзела:
Парасейску валіць сьмела;
Ліжа, выйшаўшы за вёску,
Ласку панскую папольску.
Нават жыду—ў доўг як просе—
«Гутэ-моргэн!»—буркне ў носе.
Калі-ж сядзе у катузку,
Ўсіх кляне пабеларуску.

* * *

Днём і ночкай працаваў ён
І за хатаю, і ў хаце,
А памерці як прышлося,
Ня было ў чым пахаваці.

## ЭПІГРАМА НА САМОГА СЯБЕ.

Завуць мяне Янук Купала,
З бяды я песенькі складаю,
Пазнаў людзей і сьвет ці мала,
Вось дзе радзіўся, дык ня знаю!

* * *

Жыў музыка Налім,
Крэпкі быў, як тапор,
,,Полькі" граў ён людзём,
А сам з голаду ўмёр.

Гэткі самы цяпер
Атрымоўвае дар
За заслугі свае
Не адзін наш пясьняр...

61530 БІБЛІЯТЭКА

# ЗЬМЕСТ.

I. Стр.

Стр.

III.

Стр.

VI.



... Беларускае ... бібліятэка
Інв. № 61530

Р. Ц. № 358. 1 Сав. друк. з. № 2601.

... бібліятэка
... В. І. Леніна

# ТВОРЫ ЯНКІ КУПАЛЫ.

ЖАЛЕЙКА, збор вершаў, 154 стр. Пецярбург, 1908 г.

АДВЕЧНАЯ ПЕСЬНЯ, сцэнічная поэма ў XII-х зьявах. 32 стр. Пецярбург, 1910 г.

HUŚLAR, збор вершаў, 80 стр. Пецярбург, 1910 г.

ШЛЯХАМ ЖЫЦЬЦЯ, збор вершаў, 264 стр. Пецярбург, 1913 г.

СОН НА КУРГАНЕ, сцэнічная поэма ў 4-х абразох, 100 стр. Пецярбург, 1913 г.

ПАЎЛІНКА, сцэны з шляхоцкага жыцьця ў 2-х актах. Выданьне II-ое (у «Зборніку сцэнічных твораў», сшытак II-гі). Менск, 1918 г.

РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО, драма ў 5-х актах, 74 стр. Вільня, 1919 г.

ПРЫМАКІ, сцэнічны жарт у 1-м акце. У часапісі «Рунь«, №№ 5—6 і 7—8 за 1920 г.

ПЕСЬНЯ АБ ПАХОДЗЕ ІГАРА, поэма. У часопісі «Вольны Сьцяг», №№ 5 і 6 за 1921 г.

ЭРОС І ПСЫХА, сцэнічная аповесьць у 7-х разьдзелах, Ю. Жулаўскага. *Пераклад* з польскае мовы. (*Друкуецца*).

СПАДЧЫНА, збор вершаў, 224 стр. Менск, 1922 г.

*У перакладзе на расейскую мову*:

Янка Купала, белорусский поэт. ИЗБРАННЫЕ СТИХОТВОРЕНИЯ В ПЕРЕВОДАХ РУССКИХ ПОЭТОВ. 112 стр., Москва, 1919 г.

